28 снежня 2018 | № 48 (611)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

Да якой партыі належыць Санта-Клаус?
стар. 20

ISSN 2218-2144




novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Шаноўнае спадарства!**

Наступны нумар газеты выйдзе ў пятніцу, 11 студзеня.

Заставайцеся з намі! Будзьма разам!

І чытайце нас на сайце www.novychas.by




7–18 Літаратурная Беларусь

23 АТАКА ЖАНЧЫН, БУНТ У ТАМБУРЫ І КАНЕЦ ПАРЫЖСКАГА СЕКСУ

Беларускія рэжысёркі атакавалі міжнародныя кінапляцоўкі, фестываль «Лістапад» адбыўся з вялікім скандалам, а аўтар «Апошняга танга ў Парыжы» адышоў у вечнасць

# З верай у перамены да лепшага!

**Яшчэ адзін год мы былі разам з вамі, а вы — з намі, нашы шаноўныя чытачы. Шчыры дзякуй вам за гэта!**

Гэты год быў для кагосьці вельмі асаблівым, а для кагосьці — звычайным, для кагосьці — добрым і шчодрым, а камусьці прынёс расчараванне і страты. Але мы пражылі гэты год, змаглі адчуць яго асалоду і горыч. Пражылі — і з верай у перамены да лепшага можам глядзець у будучыню.

У новым годзе нас, напэўна, чакае яшчэ шмат неспадзяванак, добрых і дрэнных навінаў, горкіх страт і цудоўных здабыткаў. Сустрэнем іх годна і з радасцю. Жыццё не бывае без стратаў, жыццё не бывае без мараў. Таму не сумуйце і ні пра што не шкадуйце. Жывіце шчыра і сумленна, рабіце сваю справу і годна глядзіце наперад.

Уся наша каманда віншуе вас з Калядамі і Новым годам! Мы жадаем вам плёну і моцы! Хай кожны атрымае тое, чаго яму нестае. Самотныя — каханне, сяброў і сабаку (можна і котку). Тыя, хто страціў веру, — цуд! Хто ў нястачы, — вуду, каб вылавіць сваю рыбу. Несправядліва асуджаныя — волю. Згубіўшыя сумленне — жыццёвы ўрок. Здароўе — усім нам!

Дзякуй за вашу падтрымку! Мы адчуваем яе ў сацыяльных сетках, дзякуючы вашым лайкам. Мы бачым яе праз рост колькасці наведвальнікаў сайта і цікаўнасць да падпіскі на газету. Мы верым, што ўсё не дарма, калі на судах супраць НЧ сустракаем поўныя залы людзей, якія кінулі свае справы і прыйшлі нас падтрымаць. Гэта вельмі натхняе, каб працаваць для вас і старацца зрабіць наш Новы час яшчэ лепшым і больш цікавым.

Шчыры дзякуй вам! Не спыняйцеся і не здавайцеся, хай вас не пакідае прага перамен да лепшага! Мы разам будуем новую Беларусь. У нас усё атрымаецца!

**Будзьма разам!**
**Будзьма з «Новым Часам»!**

**У Новы год — з Новым Часам!**

падпісны індэкс
63279

# Я веру ў людзей

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Ты, галоўнае, памятай: як зойдзеш у «хату» — назаві артыкул, тэрмін, паганяла сваё, павітайся...» — інструктаваў мяне перад судом дасведчаны калега і былы палітвязень Мікалай Дзядок.**

Штраф у 20 базавых велічынь за «ўдзел у пікетаванні» (менавіта так супрацоўнікі Цэнтральнага РАУС сталіцы ацанілі ўскладанне папяровых караблікаў да расійскай амбасады) мяне здзівіў (нагадаю, я прысутнічала на акцыі як журналістка і выконвала свае прафесійныя абавязкі), але не надта расстроіў. Бо судовая сістэма Беларусі — як захапляльны атракцыён, латарэя з невядомым фіналам, і крыўдаваць на тое, што гэтым разам табе не пашчасціла, — глупства. І асабліва паказальныя тут суды за ўдзел у масавых мерапрыемствах. Калі цябе судзяць па артыкуле 23.34 КоАП, ты павінен на ўсялякі выпадак да суда сабраць кешар, нават калі толькі праходзіў побач з пікетам альбо асвятляў яго як журналіст.

У мяне не было ілюзій — балазе, давялося пабываць на розных працэсах, сярод якіх адзін быў абсурднейшы за іншы. Але ў мяне быў станоўчы досвед: калі першы раз мяне судзілі за нібыта ўдзел у недазволенай акцыі пратэсту ля будоўлі бізнес-цэнтру блізу Курапатаў, то апраўдалі. І тады ўва мне зарадзілася вера, што, насамрэч, не ўсё так абсурдна, ёсць і парасткі здаровага сэнсу ў асобных людзей сістэмы. Да таго ж, як перакананы яшчэ адзін мой калега Сяргей Пульша, немагчыма быць журналістам без веры ў людзей.

Але, здаецца, я памылілася. Бо ў сістэме людзей няма. Адзінае даступнае ім пачуццё — страх. Не справядлівасць, не міласэрнасць, не любоў, не спагада. Толькі страх, які штурхае іх штодня іменем закона тварыць злачынствы.

Чалавека вызначаюць перадусім яго маральныя якасці. А пра якія маральныя якасці можна казаць, калі сведка-міліцыянт ходзіць з працэсу на працэс і слова ў слова паўтарае адны і тыя ж завучаныя паказанні, мяняючы толькі імёны? Пра якія маральныя якасці можна казаць, калі суддзя ўважліва выслухоўвае, задавальняе ўсе хадайніцтвы, вывучае прадстаўленыя падсудным бясспрэчныя доказы, а потым выносіць абвінаваўчы вердыкт?

Ці ўвогуле, як гэта было з вязнямі «Плошчы – 2010», нават не разбіраецца ў справах, а толькі паспявае раздаваць налева і направа «суткі» ды штрафы зусім не датычным да пратэстаў людзям...

Што ж да таго выпадку з судом за Курапаты — гэта быў проста збой у сістэме (суд: сведкі абвінавачвання змянілі свае паказанні на маю карысць).

А ў людзей я веру. Я веру ў сваіх калег-журналістаў. У маіх бацькоў, якія адмянілі ўсе свае справы, каб быць побач са мной. У сваіх «падзельнікаў», якія праявілі сапраўдную салідарнасць. Ва ўсіх тых сяброў, знаёмых і незнаёмых людзей, якія прыйшлі падтрымаць. Альбо не змаглі прыйсці, аднак пазванілі, напісалі, ці проста ў думках пажадалі мне ўдачы.

Гэтыя людзі ў маім жыцці — важнейшыя за ўсе штрафы і прысуды. Яны — сапраўдная каштоўнасць, і я вельмі шчаслівая, што іх так шмат. Дзякуй вам усім, дарагія!

А сістэмы рана ці позна ламаюцца.

# Год грамадскай актыўнасці

Сяргей ПУЛЬША

**Мінаючы год сапраўды будзе годам грамадскай актыўнасці.**

Пачаткам гэтай актыўнасці была падрыхтоўка да маштабнага святкавання 100-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Па-першае, гэта было сапраўды народнае свята. Грошы на яго былі сабраныя праз краўдфандынг — добраахвотныя ахвяраванні. І сабрана іх было столькі, што гэта нават дазволіла запусціць рэкламу на вялікіх экранах у Мінску.

Па-другое, упершыню гэта было свята, а не ўласна палітычная акцыя. Безумоўна, палітыка там прысутнічала, хаця б у безлічы бел-чырвона-белых сцягоў. Але, найперш, настрой быў святочны, а не канфрантацыйны. Там ніхто не падзяляў людзей на «сваіх» і «чужых». Там усе былі разам.

Па-трэцяе, наведалі гэтую імпрэзу ў Мінску каля 50 тысяч чалавек. Такога масавага «апазіцыйнага» мерапрыемства мы не бачылі даўно.

І, урэшце, рабіла гэтае свята не кампанія палітыкаў, а кампанія маладых і амбітных менеджараў і крэатыўшчыкаў. Антон Матолька, Павел Беларус з «Арт-сядзібы», Эдуард Пальчыс... І, безумоўна, дзякуй сотням валанцёраў, якія раздавалі абвесткі, запрашэнні, працавалі на самім свяце. Гэта было маштабна!

Паводле чутак, зараз гэтыя людзі запускаюць кампанію #БНР-101

Канешне, другой па значнасці падзеяй была (і застаецца) «Курапацкая Варта». Дагэтуль не разумею, чаму адкрыццё рэстарацыі «Паедзем, паядзім» было запланавана на 30-годдзе публікацыі славутага артыкула Пазняка і Шмыгалёва пра Курапаты. Свядомы гэта быў ход альбо несвядомы, але ў выніку пратэсты пад рэстарацыяй перараслі ў сталую грамадскую кампанію.

Падаецца, нават у часы Перабудовы пра Курапаты не пісалі столькі, колькі напісалі за апошнія паўгода. Тэма дагэтуль не застаецца па-за ўвагай СМІ і грамадства. І гэта — у час інтэрнэту, калі адна падзея не трывае ў навінах больш за тры-чатыры дні. А тут — паўгода.

Зрэшты, рэзананс вакол Курапатаў літаральна прымусіў уладу ўсталяваць там мемарыяльны помнік. Я не буду спрачацца, такі ён ці не такі. Там ён стаіць ці не там. Але... Усталявання хоць якога дзяржаўнага мемарыяльнага знаку ў Нацыянальным Некропалі грамадства дамагалася больш за чвэрць стагоддзя! І ён быў усталяваны — сёлета. Ці не вынік?

Прынамсі, зараз ніхто не зможа сказаць: «Курапаты — гэта невядома што». Гэта дзяржаўна мемарыялізаванае месца рэпрэсій — вось што гэта.

На трэцяе месца я б паставіў, безумоўна, пратэсты ў Брэсце супраць акумулятарнага завода. Перш за ўсё — крэатывам. Гэта ж трэба дадумацца: калі ўлады забараняюць мітынг — мы выйдзем на плошчу карміць галубоў! І выходзілі ж. І кармілі! Штонядзелю.

Прычым, гэта былі не актывісты нейкіх партый і рухаў (хаця і яны там былі, безумоўна), і не «запісныя палітыкі» (хаця туды часам наведваліся Лябедзька і Статкевіч). У большасці гэта былі звычайныя жыхары горада.

І, канешне ж, захапленне выклікае тое, што берасцейцы не здаваліся ў самай безнадзейнай сітуацыі. Калі ім казалі, што ўсё вырашана, што ніхто нічога мяняць не будзе, што на аб'екце ўжо 80 працэнтаў абсталявання... Немаведама што ім казалі. А ў выніку — міністр паабяцаў: «Калі штосьці не так, завод не адкрыем». І прайшла інфармацыя, што сам праект накіраваны на дадатковыя грамадскія слуханні.

Дарэчы, з аналагічнай праблемай і на чацвёртым месцы знаходзяцца жыхары Светлагорску, якія актыўнымі дзеяннямі таксама пакуль не далі запусціць цэлюлозны камбінат, пабудаваны кітайцамі.

І я не магу не аддаць належнае ініцыятыве «Матчын рух 328». «Мужныя жанчыны» — на любой мове гучыць аксюмаранам. Але гэтыя жанчыны неаднаразова выходзілі не куды-небудзь, а да будынку парламента ў Мінску. Яны абвяшчалі галадоўкі. Яны, са сваімі патрабаваннямі змяніць нягеглы і драконаўскі артыкул Крымінальнага кодэкса, дагрукаліся да самых вышэйшых эшалонаў улады. Яны займелі падтрымку ў парламенце і ледзь-ледзь не змянілі заканадаўства. Хіба што крыху не хапіла, каб дацiснуць.

З іншага боку — мы ведаем, што такое наш парламент. І, напэўна, правіна ў тым, што «наркатычны» артыкул так і не быў зменены, — не іх. Зрэшты, яны прымусілі выйсці да сябе дэпутатаў і заявіць, што абмеркаванне гэтай праблемы не спыніцца, што пытанне з папраўкамі ў 328-мы артыкул не закрытае, і яно яшчэ будзе разглядацца — хай і на наступнай сесіі парламента.

Яны прымусілі ўладу слухаць сябе.

Гэта, канешне, не перамога. Але гэта дасягненне, якое можа прывесці да перамогі.

Напрыканцы года многія адзначаць: год быў складаны. Канешне, ён быў складаны, насычаны, але затое які цікавы! Чакаем 2019-ты.

# Акцыя памяці Вінцэнта Гадлеўскага

**Дзень памяці айца Вінцэнта Гадлеўскага, вядомага беларускага палітычнага, грамадскага і рэлігійнага дзеяча, лідара антынацысцкага супраціву, адзначаецца 24 снежня, у дзень яго расстрэлу.**

Рух салідарнасці «Разам» ужо больш за 10 гадоў ладзіць акцыі памяці каля Крыжа, які быў усталяваны ў 2008 годзе ва ўрочышчы Благоўшчына, што пад Мінскам, на месцы расстрэлу Вінцэнта Гадлеўскага нацыстамі. Але ўлады крыж знеслі.

Таму, па старой беларускай традыцыі, малітва і ўшанаванне памяці святара адбывалася каля крыжа, прымацаванага на дрэве, што захавалася на тым самым месцы.

Пасля малітвы аб спачыне душы, якую чытаў святар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы айцец Вікенцій, прагучалі словы пашаны і падзякі за самаахвярнае служэнне беларускаму народу.

Мікола Бамбіза распавёў пра жыццё і гераічны чын айца Вінцэнта Гадлеўскага, адзначыў яго ролю як ідэолага беларускага нацыянальнага руху.

Алена Талстая, сустаршыня Руху салідарнасці «Разам», падзякавала прысутным за захаванне і ўшанаванне памяці і выказала спадзяванне, што Крыж будзе адноўлены і да яго будуць заўжды прыходзіць беларусы.

Пасля хвіліны маўчання прагучаў беларускі нацыянальны гімн «Магутны Божа» і тройчы — воклiч «Жыве Беларусь!»

**Паводле прэс-службы Руху салідарнасці «Разам»**

# Абсурд года

Сяргей ПУЛЬША

**Міністэрства ўнутраных спраў у гэтым годзе загразла ў скандалах. Калі б нехта меў на мэце спецыяльна сапсаваць імідж установы за такі кароткі тэрмін — ён бы не здолеў дзейнічаць так эфектыўна, як самі міліцыянты.**

Найперш гэта тычыцца, канешне, помніка гарадавому. МУС усталявала за ім відэаназіранне і вызначае, якія дзеянні ля помніка караюцца, а якія — не. Спачатку міліцыя затрымала хлопца, які даў статуі аплявуху, і прымусіла яго выбачацца на камеру. Адказнасць за гэта ўзяў на сябе персанальна міністр Шуневіч. На пытанне журналіста (па-руску, бо беларуская не перадае смак адказу) «Зачем вы это сделали?», Шуневіч адказаў проста: «Затем».

Потым быў затрыманы мужчына, які павязаў шалік на шыю гарадавога з мэтаю яго «сагрэць» і сфатаграфаваць. А дзяўчыны, якія хацелі «сагрэць» скульптуру пацалункамі, высветлілі, што нават цалаваць яе забаронена.

Усё гэта ўзняло вэрхал кпінаў у грамадстве ды інтэрнэце. Але не толькі такім абсурдам вызначылася міліцыя.

За «распаўсюд нацысцкай сімволікі» спрабуюць прыцягнуць да адказнасці Мікалая Дзядка. Пры тым, што Дзядок — анархіст, а значыць, антыфашыст. Усе яго кпіны з гэтай сімволікі чамусьці расцэньваліся як «прапаганда».

Яшчэ адна аўтарка НЧ, Дзіяна Серадзюк, была прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці «за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі». Гэта быў акт салідарнасці з украінскімі маракамі ля расійскага пасольства, калі актывісты паставілі на парапет папяровыя карабельчыкі ў знак пратэсту супраць дзеянняў Расіі ў дачыненні да ўкраінскіх караблёў у Азоўскім моры. Дзіяна была там як журналістка, але атрымала штраф, нават нягледзячы на тое, што мела афіцыйнае рэдакцыйнае заданне на асвятленне гэтай акцыі і па выніках напісала артыкул.

Увосень Віталь Рымашэўскі быў аштрафаваны за арганізацыю масавай акцыі ў Курапатах, арганізатарам якой ён не быў. У міліцэйскім пратаколе было напісана: «Выказваў публічна меркаванне ў дачыненні да рэстарана «Паедзем, паядзім».

Але вішанькай на торце ўсё ж стаў працэс па справе Зміцера Галко, таксама былога супрацоўніка «Новага Часу». Згодна з паказаннямі міліцыянтаў, Галко быў адначасова затрыманы і на вуліцы Бурдзейнага ў Мінску, і ў кватэры на вуліцы Мележа. То бок, ён знаходзіўся ў двух месцах адначасова, што з'яўляецца фенаменальным адкрыццём у квантавай фізіцы.

Столькі абсурду за год не нарабіла ніводнае ведамства. І пакуль супрацоўнікі МУС РБ не падалі на «нобелеўку» па фізіцы, мы надаем ім «шнобелеўку» па піяры, працы з грамадскасцю і, як ні прыкра, па сумневу ў іх дзеяннях з пункту гледжання беларускага заканадаўства.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Поле для манеўру

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Перамовы Лукашэнкі і Пуціна ў Маскве скончыліся нічым. Аляксандр Рыгоравіч пакінуў «поле бою» моўчкі. Паводле паведамленняў расійскага боку, «была дасягнутая дамоўленасць пра стварэнне рабочай групы, якая будзе ўзаемадзейнічаць і складацца з прадстаўнікоў урада. Гэтая рабочая група будзе рыхтаваць прапановы па нашай далейшай інтэграцыі і вырашэнню надзённых пытанняў, якія турбуюць урады нашых краін».**



Фота www.ru.delfi.lt

Кажуць, што размова Пуціна і Лукашэнкі доўжылася чатыры гадзіны. Гэта, збольшага, не так. Па-першае, пачалася яна з абеду — гэта гадзіна. Па-другое, кажуць, што Пуцін перарваўся, каб паразмаўляць па тэлефоне з 15-гадовым Арсланам Каіпкулавым, які марыў зняць відэаролік пра борт №1 Расіі — Іл-96-300. Гэта жаданне дзіцяці Пуцін выканаў у рамках валанцёрскага праекта «Мара са мной».

Фантастычны факт у міжнародных адносінах: калі перамовы на вышэйшым узроўні перарываюцца для размовы з падлеткам. І не дзіва, што Лукашэнка выйшаў, ані слова не сказаўшы. Пуцін такім чынам яўна паказаў яму яго месца. Зразумела, гэта не магло не абразіць.

У прынцыпе, кпіць з беларускага кіраўніка, канешне, не выпадае. Але я не магу не ўзгадаць адно з эсэ Віктара Марціновіча. У ім ён пісаў, што ёсць вялікая гістарычная праўда ў тым, што ў нас нязменная ўлада і амаль нязменная эліта. На розных пасадах засталіся тыя, хто напрыканцы мінулага стагоддзя «тапіў» за аб'яднанне з Расіяй, за шчыльную інтэграцыю, за «Саюзную дзяржаву». А зараз яны павінны станавіцца беларускімі патрыётамі, дазваляць канцэрт на стагоддзе БНР, і можа, урэшце, вучыць беларускую мову. Проста дзеля таго, каб захаваць свае пасады і цёплыя месцы.

Вось і Лукашэнка трапіў у пастку, якую стварыў ён сам. Ніхто ж не думаў, што выказванні кшталту «Я на каленях гатовы паўзці ў Расію», «Беларус — гэта рускі са знакам якасці» і зусім нядаўняе «Магілёў — рускі горад», у Маскве ўспрымуць літаральна? А там узялі і ўспрынялі.

Але ж Аляксандр Рыгоравіч не чакаў такой «падставы» ад Уладзіміра Уладзіміравіча. І сам, пэўна, думаў, што пасля спрэчкі пра адзіную валюту і эмісійны цэнтр гадоў 15 таму, пасля «мухі асобна — катлеты асобна» пра «Саюзную дзяржаву» ніхто не згадае.

Але калі на сцяне ў першым акце вісіць ружжо, яно стрэліць у чацвёртым. Прычым, ружжо туды павесіў сам Лукашэнка.

Між тым, гэта ўсё — мінулае. Застаецца пытанне: што нам рабіць далей?

Як ні дзіўна, поле для манеўру ў беларускага кіраўніка ўсё яшчэ засталося. Самы радыкальны варыянт — выйсці з «Саюзнай дзяржавы». Для гэтага патрэбны рэферэндум, а пра рэферэндум у нас размаўляюць даволі даўно. Прафесар, доктар юрыдычных навук і былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў прарочыў яго яшчэ пяць гадоў таму, калі ў Беларусі знік Вышэйшы гаспадарчы суд, а згадка пра яго засталася ў Канстытуцыі. А Канстытуцыю можна змяніць толькі на рэферэндуме.

Канешне, невядома, як на пастаноўку пытання пра выхад з СГ падчас беларускага волевыяўлення адрэагуе Масква. Але ў нас ёсць досвед «тэрміновага» рэферэндуму 2004 года, калі яго правялі літаральна за паўтара месяцы. І ёсць Лідзія Ярмошына, якая забяспечыць вынікі. Супрацьстаяць такому сцэнару Масква наўрад ці здолее — занадта мала часу. Але вось што будзе пасля?..

**Мы можам ці не імгненна ўступіць у ЕС. Пытанне — ва ўласнасці. 70 працэнтаў прадпрыемстваў — у руках дзяржавы. Калі паказаць еўрапейцам гэткі смачны кавалак, яны прыйдуць сюды без ваганняў**

Ёсць яшчэ адзін варыянт — «забаўбатаць» пытанне, бясконца ўдзельнічаючы ў розных «рабочых групах», «саветах па інтэграцыі» і іншых структурах. У такім разе можна нейк падціснуць пазіцыю Расіі і ў гэты час атрымліваць калі не ўсё, што прасілі, дык хаця б нешта. Але наўрад ці Масква не прадугледзела такі варыянт. І тады ўжо не Лукашэнка будзе наракаць, што «Расія тармозіць інтэграцыю», як гэта ён рабіў неаднаразова, а Масква будзе казаць: «Беларусь зрывае аб'яднанне». І беларускі кіраўнік будзе выглядаць кепска.

Можна выставіць Маскве загадзя непрымальныя ўмовы — кшталту тых жа двух эмісійных цэнтраў ці стварэння парламента «Саюзнай дзяржавы» ў прапорцыі 50 на 50. І усяляк педаляваць гэтыя праекты, зважаючы на «раўнапраўнае аб'яднанне». Але гэта таксама варыянт праекта «забаўбатаць».

Усе гэтыя рухі могуць даць нам адно — адтэрміноўку ў часе. А час зараз — вельмі каштоўны. Бо ў гэты час можна пачаць рэформу эканомікі. Можна дазволіць прыватызацыю прадпрыемстваў (без удзелу Расіі), можна завабіць сюды інвестараў. Урэшце, эканаміст Леанід Заіка казаў мне неяк, што мы можам ці не імгненна ўступіць у Еўрапейскі саюз. І пытанне тут не ў эканоміцы як такой, а ва ўласнасці. «70 працэнтаў беларускіх прадпрыемстваў — у руках дзяржавы. Калі паказаць любому Гансу, Сільвіі, Серхіа гэткі смачны кавалак, яны рынуцца сюды, не раздумваючы. Я казаў на міжнародных канферэнцыях з нагоды капіталізацыі прадпрыемстваў Беларусі — ад 10 да 50-кратнага. Гэта значыць, на ўкладзеныя 10 тысяч долараў можна атрымаць ад 100 тысяч да бясконцасці», — адзначаў Заіка. А таму, пры адкрыцці Беларусі для інвестыцый, Беларусь ледзь ці не імгненна можа стаць сябрам ЕС.

Трэба толькі спачатку адным указам кіраўніка дзяржавы ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне. А пасля — можна пачынаць.

Пытанне ў тым, што тады ад улады Лукашэнкі ў краіне застануцца «рожкі ды ножкі». Але ён увойдзе ў гісторыю як чалавек, які нарабіў шмат памылак, — і тым не менш, адстаяў беларускую незалежнасць.

СМІ паведамляюць, што Лукашэнка і Пуцін да канца года сустрэнуцца яшчэ раз. Пра плён гэтай сустрэчы казаць, напэўна, не выпадае.

Адзінае, што добра, — пэўна, БелАЭС у Астраўцы, пабудаваную Расіяй, усё ж не запусцяць. Было б глупствам у сённяшніх варунках ставіць сябе ў залежнасць яшчэ і ад расійскага ўрану.

## ФІГУРЫ ГОДА



### Генадзь Фядыніч

**Самай гучнай справай гэтага года была «справа прафсаюзаў». Ніхто не сумняваецца ў тым, што крымінальны перaслед Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка меў палітычны характар.**

Падчас гэтага суда выявілася многае. Асабліва цікава было тое, як працуюць нашыя сілавікі. Напрыклад, былая сакратарка прафсаюзу РЭП Юлія Юхнавец прызналася, што з 2015-га супрацоўнічала з КДБ, прычым — на платнай аснове. У якасці доказаў следства прадставіла суду пустыя файлы. А праслухоўванне тэлефонаў Фядыніча і Комліка вялося нават тады, калі справа была перададзеная ў суд.

Усё гэта ў чарговы раз прадэманстравала «незалежнасць» беларускай судовай сістэмы. Генадзь Фядыніч і галоўны бухгалтар Ігар Комлік былі асуджаныя на 4 гады хатняй «хіміі». Іх прызналі вінаватымі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў.

Фядыніч быў вымушаны пакінуць пасаду старшыні прафсаюзу РЭП, каб яго прысуд не адбіўся на арганізацыі. У адказ РЭП яшчэ больш пашырыў сваю дзейнасць, а Фядыніч застаецца ў публічнай прасторы.



### Алесь Ліпай

**Ёсць такія людзі: непублічныя, незаўважныя, яны проста робяць сваю справу. Але калі яны сыходзяць — усе раптам разумеюць: страцілі надзвычайнага чалавека. Смерць кіраўніка агенцтва БелаПАН — гэта страта года.**

Алесь Ліпай нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Андросаўшчына Капыльскага раёна. Быў сябрам Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». У 1988 годзе падчас вучобы на журфаку БДУ пераследаваўся за ўдзел у вырабе самвыдатаўскай насценгазеты «Лірнік». У тым жа годзе ён стаў першым карэспандэнтам «Радыё Свабода» ў Беларусі. У 1991-м — заснаваў БелаПАН.

У пачатку 1990-х гадоў Ліпай арганізаваў перавозку ў Беларусь больш за тысячу кніг, якія беларуская дыяспара выдала Германіі. Пазней ён распаўсюдзіў іх па беларускіх школах і бібліятэках.

Алесь Ліпай быў паэтам, сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. Першую кнігу паэзіі «Пад снегам» выдаў у 2000 годзе. У 2007 годзе выйшаў зборнік паэзіі «Рэшта», у 2017-м — «Абдымкі».

Ліпай — аўтар перакладу на беларускую мову Дамовы аб вывадзе ядзернай зброі з Беларусі. А ў 1996 годзе падчас аперацыі па вызваленні дзяцей, узятых у закладнікі тэрарыстам у дзіцячым садку ў Мінску, журналіст, рызыкуючы жыццём, браў інтэрв'ю ў тэрарыста, адцягваючы яго ўвагу на сябе.

У чэрвені гэтага года па абвінавачванні ў нясплаце падаткаў Ліпая затрымалі супрацоўнікі ДФР КДК. У адносінах да яго распачалі крымінальную справу, але ў той жа дзень адпусцілі дадому. У жніўні «па справе БелТА» былі затрыманыя некалькі супрацоўнікаў БелаПАН, у тым ліку галоўны рэдактар Ірына Леўшына. У тыя дні Алесь Ліпай вельмі перажываў за сваіх супрацоўнікаў і, нягледзячы на дрэннае самаадчуванне, да канца сваіх дзён падтрымліваў і іх, і сваё агенцтва.

### Максім Мірны



**Насамрэч, тут павінна быць намінацыя «ўвесь беларускі спорт». Але Мірны — легенда беларускага тэнісу — апошні заявіў пра заканчэнне спартовай кар'еры.**

Пра гэта 41-гадовы спартсмен паведаміў у адкрытым лісце на сайце Беларускай тэніснай федэрацыі. «Я прыняў рашэнне аб тым, што 2018 год быў маім апошнім сезонам у прафесійнай кар'еры. Гэта было цяжкае для сябе рашэнне, улічваючы, што тэніс з'яўляецца маім жыццём з самага ранняга дзяцінства. Я шчаслівы, што мне ўдалося так доўга атрымліваць асалоду ад гэтай гульні. Выступаючы на асабістых турнірах альбо гуляючы за краіну, я заўсёды працаваў з поўнай аддачай, і таму выходжу з гульні без якога-небудзь шкадавання і толькі на пазітыве. Мне ўдалося дасягнуць нашмат больш, пра што малы з Мінска, Беларусі, мог марыць, узяўшы ў рукі ракетку», — напісаў ён.

У гэтым годзе пра завяршэнне кар'еры паведамілі таксама Дар'я Домрачава, яе муж Уле-Эйнар Б'ёрндален, Надзея Скардзіна… Мы будзем імі ганарыцца і чакаць, хто прыйдзе ім на змену.

а | Азбука паліталогіі

# Трывожны снежань 2018-га



Сяргей НІКАЛЮК

**Рашэнні ў нас прымаюцца ў Палацы Незалежнасці, а адказваць за іх рэалізацыю даводзіцца ўсім грамадзянам.**




Калі б не чарговыя беларуска-расійскія разборкі ў снежні, то 2018 год для «беларускай мадэлі» і яе насельнікаў можна было б аднесці да цалкам паспяховых. Калі верыць афіцыйнай статыстыцы, за студзень-кастрычнік да адпаведнага перыяду мінулага года ВУП склаў 103,5%, рэальна наяўныя грашовыя даходы насельніцтва — 107,8%, рэальная заработная плата — 112,3%. Усяго на 4,2% за дзесяць месяцаў павялічыліся рознічныя кошты.

Не выклікае трывог і бліжэйшая будучыня. 20 снежня адзіны палітык (АП) зацвердзіў задачы развіцця Беларусі на 2019 год: інфляцыя не перавысіць 5%, ВУП падрасце на 4%, што вышэй за сярэднесусветны ўзровень. Эканоміка — гэта наша ўсё. Без эканомікі, якая дынамічна расце, немагчыма выкананне галоўнай задачы — павышэнне дабрабыту беларусаў, на што ўвесь час нацэльвае вертыкаль улады АП.

На гэтым фоне беларуска-расійскія разборкі — з'ява, зразумела, непрыемная. Але які год у амаль дваццацігадовай гісторыі Саюзнай дзяржавы без іх абышоўся? Аднак складваецца ўражанне, што гэтым разам мы сталі сведкамі якасна новай з'явы. Па-першае, да такой высновы схіляюць разлікі чаканых шматмільярдных стратаў (10,8 мільярда долараў да 2024 года) і звышжорсткімі заявамі на адрас «нашай Расіі» падштурхоўвае сам АП. Па-другое, «падатковы манеўр» Расіі, як бы да яго ні ставіцца, малюе тлусты крыж на ранейшых прынцыпах датавання «беларускай мадэлі». Новыя ж прынцыпы яшчэ толькі мусяць быць сфармаваны, і гэты працэс, натуральна, будзе пакутлівы.

Не варта забываць і пра палітыку самаізаляцыі, якую Крэмль актыўна прадбачыў пасля «далучэння» Крыма ў 2014 годзе. Такая палітыка патрабуе прынцыпова іншага ўзроўню падтрымкі ад сузаснавальніцы Саюзнай дзяржавы, але прадэманстраваная яна не была.

Так з драбінак колькасных змен склалася новая якасць. Тое, што яна выявіла сябе ў снежні 2018 года, відаць, выпадковасць. Тым не менш чарговыя беларуска-расійскія разборкі можна смела паставіць на першы радок спісу галоўных падзей адыходзячага года. Яны будуць мець доўгайграючыя наступствы, якія сёння немагчыма пралічыць.

22 сакавіка 2002 года на выніковым пленарным пасяджэнні пастаянна дзеючага семінара кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў АП зрабіў прарочую заяву. Цытую: «Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі «дактароў» з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісвалі лекі, больш небяспечныя за саму хваробу».

**Услед за біржавымі індэксамі ўніз пайшлі цэны на нафту. А цэны на нафту — гэта наша ўсё. З кастрычніцкага піку ў 85,6 долара за барэль расійская нафта патаннела да 53,6 долара**

Кожная краіна рухаецца сваім шляхам, і Беларусь у гэтым сэнсе не выключэнне. Але калі ступень адхілення ад мэйнстрыму дасягае пэўнай лімітавай велічыні, то развіццё змяняецца дэградацыяй (развіццё ёсць прытрымліванне мэйнстрыму).

У свой час СССР ажыццявіў **небуржуазны** пераход ад аграрнай эканомікі да індустрыяльнай. За гэту своеасаблівасць грамадства заплаціла мільёнамі жыццяў. Сёння забароны на занятак прадпрымальніцтвам фармальна зняты, і таму АП даўно ўжо нікога не здзіўляе заклікамі стымуляваць прыватную дзелавую ініцыятыву. Нешта ў гэтым напрамку нават робіцца.

Мэйнстрым першай паловы XXI стагоддзя — гэта пераход ад індустрыяльнай эканомікі да постіндустрыяльнай, фармальнае завяршэнне якога фіксуецца па перавышэнні колькасці занятых у сферы паслуг над колькасцю занятых у прамысловай вытворчасці. Паводле гэтага паказчыку «беларуская мадэль» ідзе ў нагу з усім прагрэсіўным чалавецтвам. Згодна са «Статыстычным штогоднікам –2018», у 2017 годзе ў Беларусі занятымі ў сферы вытворчасці былі 39,5%, а ў сферы паслуг — 60,5% ад гарадской рабочай сілы.

Галоўная своеасаблівасць нацыянальнага пераходу да постіндустрыяльнай эканомікі — захаванне манаполіі дзяржавы на палітычную дзейнасць. Да чаго яна (манаполія) вядзе, добра відаць на прыкладзе беларускай АЭС. У 2018 годзе стала канчаткова зразумела, што ўсе горшыя асцярогі наконт яе будаўніцтва (у першую чаргу, асцярогі эканамістаў) пачынаюць спраўджвацца.

За прынятае бюракратамі рашэнне коштам у 10 мільярдаў долараў расплачвацца, як заўсёды, давядзецца насельніцтву, і першы плацеж ужо не за гарамі. Пры любым развіцці падзей ён павінен быць зроблены не пазней за 1 красавіка 2021 года.

Пра тое, што насельніцтва ўрэшце заўсёды плаціць за ўсё, нагадаў 20 снежня старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Калаур. Ён ахарактарызаваў «падатковы манеўр» Расіі як выклік, «на які **ўсім грамадзянам Беларусі** (вылучана. — С.Н.) трэба адказаць годна».

Усё правільна. Гэта рашэнні ў нас прымаюцца ў Палацы Незалежнасці, а адказваць за іх рэалізацыю даводзіцца **ўсім грамадзянам.**

### Адкуль узялася розніца?

Снежань апынуўся бурным не толькі для тых, каму выпала шчасце жыць і працаваць у Саюзнай дзяржаве. Моцна не пашанцавала амерыканцам. З пачатку месяца біржавы індэкс S&P 500 упаў на 11,6%. Гэта горшы вынік для фондавага рынку ЗША з часоў самых цяжкіх гадоў Вялікай дэпрэсіі, піша «Financial Times».

Услед за біржавымі індэксамі ўніз пайшлі і цэны на нафту. А цэны на нафту — гэта наша ўсё. З кастрычніцкага піку ў 85,6 долара за барэль расійская нафта патаннела да 53,6 долара за барэль да канца года. Калі так пойдзе і далей, то ад планаў АП на 2019 год мала што застанецца.

Але ўсё адносна. Мінулы год, тым не менш, можна лічыць паспяховым. Сярэднегадавая цана на нафту Urals з 53 долараў за барэль у 2017 годзе вырасла да 71 долара ў 2018-м (+34%), што і стала галоўнай прычынай росту беларускай эканомікі ў студзені-кастрычніку на прыстойныя па сусветных мерках 3,5%. Пры гэтым уклад нафтапрадуктаў у экспарт склаў 22%.

Прычыны, якія прымусілі АП нарошчваць рэальныя даходы насельніцтва і заработную плату стаханаўскімі тэмпамі ў 2018 годзе так і не былі раскрытыя. Да піку электаральнай «вакханаліі» яшчэ каля двух гадоў. Ва ўмовах фінансавай нявызначанасцяў лагічней было б папаўняць перадвыбарчую скарбонку, а не ладзіць атракцыён «нечуванай шчодрасці». Але што зроблена, тое зроблена, і без чарговай порцыі расійскіх датацыі рост даходаў і заробкаў у надыходзячым годзе можа змяніцца падзеннем.

Незалежныя СМІ ў Беларусі і Расіі адрэагавалі на чарговы ўсплёск эмацыйных заяў АП каментарамі на тэму «Крэмль рыхтуецца да паглынання Беларусі». У прыватнасці, экс-дарадца расійскага прэзідэнта Андрэй Іларыёнаў, аналізуючы снежаньскую прэс канферэнцыю Уладзіміра Пуціна, вылучыў наступнае выказванне: «Зусім яшчэ нядаўна думалі, што і краіны такой больш няма, а, аказваецца, ёсць, і трэба з ёй лічыцца. А 160 мільёнаў у нас пражывае, гэта ж не проста хацелкі нейкія кіраўніцтва краіны, гэта інтарэсы народа, якія мы абараняем. Абараняем акуратна, дарэчы кажучы, без усялякага хамства, спакойна, стрымана. Але робім сваю справу і будзем рухацца далей у гэтым кірунку».

Насельніцтва Расіі на 1 лістапада 2018 года склала 146,8 мільёна чалавек. Адкуль жа ўзяліся 160 мільёнаў? Да выпадковай агаворкі не падобна. Параўноўваючы на прэс-канферэнцыі патэнцыял Расіі і NATO, Пуцін супрацьпаставіў 146 мільёнам расіян 600 мільёнаў жыхароў краін NATO.

Атрымліваецца, што колькасць насельніцтва Расіі не супадае з колькасць тых, каго «мы абараняем». Іларыёнаў тлумачыць розніцу ў 13 мільёнаў чалавек наступным чынам:

Беларусь — 9,5 мільёна чалавек.

ДНР — 2,3 мільёна чалавек.

ЛНР — 1,5 мільёна чалавек.

Паўднёвая Асеція — 0,05 мільёна чалавек.

Лагічна? Лагічна. Пераканаўча? Не вельмі. Тым не менш праігнараваць разлік экс-дарадцы было б неразумна.

***

Ці дойдзе ў 2019 годзе справа да абароны інтарэсаў беларусаў расійскімі «зялёнымі чалавечкамі»? Знайсці сцвярджальны і адначасова лагічны адказ на гэта пытанне ў мяне не атрымліваецца, з якога б боку (эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага), я б ні заходзіў. Але з гэтага не вынікае, што мая логіка супадае з логікай Крамля. Рэкамендую перачытаць выказванне Пуціна. Яно заканчваецца запэўніваннем, што «мы» (Крэмль) «робім сваю справу і будзем рухацца далей у гэтым кірунку».

# Вынікі 2018: Выжыць нягледзячы ні на што

Тацяна ЛІСІЧЭНКА

**Эканоміка Беларусі жыве паводле Курта Ванегута, які пісаў, што галоўнае дасягненне чалавецтва ў тым, што, нягледзячы на ўсё самазнішчэнне і самаразбуральнасць, яно «жыве і плануе выжыць надалей». І гэта, пэўна, самы вялікі плюс — як чалавецтва ў цэлым, так і беларускай эканомікі ў прыватнасці.**




Што ж да эканамічных вынікаў года — яны не вельмі суцяшальныя. Але калі яны былі суцяшальныя?

### Перамовы з Масквой

Глабальная спрэчка Лукашэнкі з Пуціным наконт «падаткавага манёўру» Расіі — гэта, бадай, самы свежы прыклад таго, што можна назваць правалам у беларускай эканоміцы.

Канешне, можна шмат казаць пра тое, што Расія ў аднаасобным парадку парушыла «правілы гульні». Па-першае, пералічэнне ў беларускі бюджэт экспартных пошлін на нафту (яны знікаюць з увядзеннем «падаткавага манёўру»), прадугледжвалася дамовай пра Еўразійскую эканамічную супольнасць. Па-другое, менавіта па настаянні Расіі стварэнне адзінага рынку энергарэсурсаў было перанесенае «да 2025 года». Каб не гэтае патрабаванне, уступленне ў дзеянне міжнароднай дамовы аб фарміраванні агульнага электраэнергетычнага рынку ЕАЭС павінна было адбыцца ў 2019 годзе — то бок амаль зараз. Пра гэта, у прыватнасці, казаў чалец калегіі (міністр) па энергетыцы і інфраструктуры ЕЭК Таір Мансураў у 2015 годзе.

Можна доўга разбірацца, хто каму вінен, — і гэтым, безумоўна, будуць шмат займацца ў наступным годзе. Але сам факт скандалу прадэманстраваў адно — вельмі вялікую эканамічную ўразлівасць «беларускай мадэлі развіцця». Канешне, некалькі соцень мільёнаў долараў на год на дарозе не валяюцца, але... Пабачыўшы гэтую істэрыю, Расія зразумела, як для нас важныя гэтыя грошы. І ў яе з'явіўся дадатковы рычаг шантажу беларускага кіраўніцтва.

### Урад і Румас

У гэтым годзе ў Беларусі змяніўся ўрад — прынамсі, яго эканамічны блок. Кіраўніком ураду быў прызначаны «рыначнік» Сяргей Румас. На яго, як на чалавека з «рынычным» складам мыслення, ускладаліся даволі вялікія надзеі. Аднак яны не спраўдзіліся. «Рыначнікі» на чале з Румасам працягнулі такую заганную практыку, як дзяржпадтрымка стратных прадпрыемстваў (замест іх прыватызацыі), дзяржфінансаванне не менш стратнага АПК, і гэтак далей.

Чаму так адбылося? Проста таму, што эканомікай, як і ўсім у краіне, кіруе не Румас. Ён, на жаль, ператвараўся ў «хлопчыка для біцця», сведчаннем чаму была адносна нядаўняя (напрыканцы лістапада) сумесная справаздача ўрада, Нацбанка і Мінгарвыканкама па папярэдніх выніках 2018 года і планах на 2019-ты. Па словах Лукашэнкі, «урад спрабуе плаўна абысці і праблему неэфектыўных прадпрыемстваў, якую міністры, дый губернатары, прывыклі закрываць бюджэтнымі грашыма», а праца па стварэнні лепшых умоў для інвестыцый «патанае ў агульных развагах і нейкай бюракратыі». Дасталася новаму складу Саўміна і за «атрыманую ў спадчыну ад папярэдняга складу ўрада», «беспрынцыповасць у выкананні даручэнняў кіраўніка дзяржавы». У прыватнасці, за ліст ад Сяргея Румаса «з просьбай зняць з кантролю ўсё і ўся, амаль паўсотні даручэнняў як зробленыя, хоць да іх выканання далёка».

Такім чынам, з аднаго боку. Лукашэнка адкідае прапановы Румаса, а з іншага — крытыкуе яго за тое, што ён «нічога не робіць».

Самае вялікае расчараванне — што Румас пры гэтым маўчыць.

### «Па пяцьсот»

З аднаго боку, банкаўская сістэма працуе даволі добра. Афіцыйная гадавая інфляцыя амаль на 100 працэнтаў укладзецца ў спрагназаваныя паказчыкі. Курсы валют застаюцца больш-менш стабільнымі — нават калі ўзнікае нейкая турбулентнасць на расійскіх рынках. Улады ўстрымліваюцца ад звыклага нам сцэнару дэвальвацыі, хаця, можа, і хацелася б такім чынам «падняць» экспарт прадукцыі.

Але... Хто цягнуў за язык таго ж Румаса казаць, што «сярэдні заробак у верасні дасягне 1000 рублёў і больш зніжацца не будзе»? У выніку вераснёўскі заробак не вырас, а нават упаў. За кастрычнік Белстат казаў, што намінальны налічаны заробак склаў 999,7 рубля па краіне. Але «намінальны налічаны заробак» — гэта заробак без уліку падаткаў і збораў. Рэальны — ніжэйшы.

Нават калі ўлады дэманстратыўна «нагоняць» тысячу рублёў заробку ў сярэднім у снежні, гэта не будзе лічыцца дасягненнем. Каб мы ў гэта паверылі, такі заробак павінен пратрымацца хаця б паўгода. Ужо былі перыяды, калі ў адным месяцы ён пераскакваў запаветныя «пяцьсот», а потым рэзка падаў.

І наўрад ці гэты паказчык будзе дасягнуты ў будучыні. Першы намеснік міністра фінансаў Юрый Селівёрстаў, прадстаўляючы ў парламенце праект закона аб рэспубліканскім бюджэце на наступны год, сказаў, што сярэдні заробак бюджэтнікаў у Беларусі прадугледжаны да 810 рублёў.

Ён гэта прадставіў як «рост заробкаў». Але TUT.BY адзначыў, што ў мінулым годзе ўрад таксама агучваў планы, што да канца 2017 года ў бюджэтных арганізацыях будуць зарабляць у сярэднім па 800 рублёў. У выніку ў бюджэтных арганізацыях намінальная налічаная сярэднямесячная зарплата ў 2017 годзе склала 618,7 рубля, у снежні мінулага года — 769,4 рубля. Намінальная. Не рэальная.

### Няспраўджаныя спадзяванні

Напрыканцы 2017 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў два маштабныя дакументы. Гэта былі дэкрэт №7 аб развіцці прадпрымальніцтва і дэкрэт №8 аб развіцці лічбавай эканомікі. На іх ускладаліся вельмі вялікія спадзяванні, якія пакуль не спраўдзіліся.

Прычым, дэкрэт пра прадпрымальніцтва не спраўдзіўся ў такой ступені, што кіраўнік прадпрымальніцкай арганізацыі «Перспектыва» Анатоль Шумчанка на сустрэчы ў снежні гэтага года заявіў: «Нас мэтанакіравана знішчаюць». І зноў — праблема ў ЕАЭС. Расія не выконвае нормы гэтай арганізацыі — прынамсі, не дае накладных дакументаў. А беларускіх прадпрымальнікаў, якія возяць рэчы з Расіі, прымушаюць такія дакументы мець. Канешне, кантралюючыя органы адмовіліся ад канфіскацыі тавару, але, з-за адсутнасці накладных, пакінулі канфіскацыю ад рэалізаванай выручкі да 50 працэнтаў, кажа Шумчанка. А калі такая накладная не адна?

**Можна доўга разбірацца, хто каму вінен, — і гэтым, безумоўна, будуць шмат займацца ў наступным годзе. Але сам факт скандалу прадэманстраваў адно — вельмі вялікую эканамічную ўразлівасць і залежнасць «беларускай мадэлі развіцця»**

Акрамя таго, набыла моц пастанова, згодна з якой арандатарам (чытай — камерсантам у любой гандлёвай кропцы) трэба пакрываць, акрамя арэнднай платы і камунальных плацяжоў, іншыя і незразумелыя «выдаткі на ўтрыманне будынку». Што ў гэтае паняцце ўваходзіць, невядома. У выніку кошт «камуналкі» для прадпрымальнікаў вырас (месцамі, бо кожны вылічвае гэта па-свойму) у 14 разоў, і бізнес-саюзы нават вымушаныя былі звярнуцца з гэтай нагоды ва ўрад і Адміністрацыю прэзідэнта.

Што ж да дэкрэту №8 — Сінявокая думала пра блокчэйн, крыптавалюты, і іншае. Але «крыпта» (як, дарэчы, папярэджвалі многія) сталася «пірамідай», і зараз «майніць біток» (здабываць біткойн), пасля яго падзення на рынках, папросту нявыгадна. За 9 месяцаў 2018 года рэзідэнтамі Парку высокіх тэхналогій сталі каля 200 новых кампаній. Але мы пакуль не бачым іх дзейнасці «ў наяўнасці». Прынамсі, дагэтуль даведку пра заробак у «адно акно» даводзіцца дасылаць поштай (папяровай) ці прыносіць асабіста. З дамовамі і іншымі дакументамі дзяржорганаў — тое ж самае: «Раздрукуйце ў двух экземплярах, падпішыце і прынясіце нам».

Далёка, вельмі далёка нам да лічбавай краіны і галасавання па е-мэйле.

### Што спрацавала

А вось што было добра для эканомікі і іміджу краіны — гэта беларускі «бязвіз». Толькі праз Нацыянальны аэрапорт у Мінску без айчыннай візы прайшлі 179 тысяч турыстаў, паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Міхаіл Кравец.

Пяцідзённы бязвізавы рэжым для грамадзян 80 краін быў уведзены з 12 лютага 2017 года. З 27 ліпеня 2018 года «бязвіз» быў падоўжаны да 30 дзён.

Больш за ўсё іншаземцаў праз Нацыянальны аэрапорт Мінск па бязвізавым уездзе прыехала за гэты час з Германіі — больш за 28 тысяч, з Польшчы — больш за 16 тысяч, Італіі — больш за 15 тысяч, Вялікабрытаніі і ЗША — прыкладна па 12 тысяч.

Бязвізавым уездам у Гродна і ў беларускую частку Аўгустоўскага канала з кастрычніка 2016 года скарысталіся больш за 134 тысячы турыстаў. Белавежскую пушчу і турысцка-рэкрэацыйную зону «Брэст» са студзеня гэтага года наведалі больш за 15 тысяч чалавек.

Гэта паказвае вялікі беларускі турыстычны патэнцыял. І, адпаведна, — грошы і імідж краіны. Аднак пакуль 30-дзённым «бязвізам» можа карыстацца толькі ў Нацыянальным аэрапорце. Чаму так? Незразумела. Але зразумела, што такія варыянты трэба пашыраць.

У цэлым вынік года такі: беларуская эканоміка не жыве — выжывае. Для таго, каб яна жыла, патрэбныя істотныя змены правілаў гульні. І найперш нават не ў эканоміцы — у палітыцы. Патрэбнае прыняцце нармальных зразумелых законаў пра абарону інвестыцый, пра прыватызацыю, пра нармальную судовую сістэму, якая б абараняла інвестараў і прадпрымальнікаў. Патрэбная самастойная дзейнасць урада і, не пабаюся гэтага слова, сапраўдны падзел уладаў на выканаўчую, заканадаўчую і судовую. І трэба ўрэшце неяк злезці з расійскай «нафтагазавай іглы».

Карацей, патрэбныя сістэмныя перамены. Хворага прастудай выратуюць пігулкі, але мы ўжо ў тым стане, што нам дапаможа толькі хірургічнае ўмяшанне.

# Панскія кілеры, «легіён смерці» і стрыжка святароў

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**У снежні 1940 года ў Заходняй Беларусі ўпершыню выбіралі мясцовыя органы савецкай улады. Прапануем вам пазнаёміцца з некаторымі асаблівасці передвыбарчай кампаніі.**

Комплекс надзвычайных палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных захадаў бальшавіцкай улады ў Заходняй Беларусі пасля ўключэння яе ў склад Савецкага Саюза і далучэння да Беларускай ССР гісторыкі і публіцысты правамерна называюць «саветызацыяй». Адной з яе неад'емных частак стала правядзенне выбарчых кампаній, якія мусілі засведчыць перамогу «непарушнага блока камуністаў і беспартыйных». Гэта павінна было пераканаць заходнебеларускае шматмільённае насельніцтва, якое больш за паўтара дзясятка гадоў жыло ў цалкам адрозных ад бальшавізму палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах, у перавазе прынцыпова іншай грамадскай мадэлі на сацыялістычных пачатках, а таксама істотна павысіць легітымнасць савецкай улады.




**Перадвыбарчы сталінскі плакат на беларускай мове.** Крыніца: «Звязда», снежань 1940 года

## Замацаваць савецкую ўладу

12 кастрычніка 1940 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР выдаў указ аб правядзенні выбараў у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Саветы працоўных у пяці заходніх абласцях рэспублікі: Баранавіцкай, Беластоцкай, Брэсцкай, Вілейскай і Пінскай. Паводле ўказа, выбарчая кампанія павінна была стартаваць 15 кастрычніка 1940 года.

У выбарчую кампанію ўключалася вялізарная колькасць кандыдатаў: у мясцовыя органы ўлады належала накіраваць каля 42 тысяч чалавек.

Аналагічная кампанія была праведзеная ва ўсходніх абласцях БССР у канцы снежня 1939 года. Гэты вопыт трэба было выкарыстаць і ў Заходняй Беларусі.

У заходнім рэгіёне савецкая ўлада адносна добра валодала грамадска-палітычнай сітуацыяй: тут былі праведзеныя дзве буйныя палітычныя кампаніі: выбары ў Народны сход Заходняй Беларусі ў кастрычніку 1939 года і выбары ў Вярхоўны Савет СССР і БССР у сакавіку 1940 года.

Выбары 15 снежня 1940 года павінны былі прайсці паводле адпаведнага Палажэння, якое было зацверджана яшчэ 27 ліпеня 1939 года.

У сувязі з уключэннем Заходняй Беларусі ў склад СССР і далучэннем яе да БССР чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 27 красавіка 1940 года ўнесла ў Палажэнне змены і дапаўненні. У прыватнасці, для заходніх абласцей былі вызначаныя нормы па выбарах дэпутатаў у абласныя Саветы. Так, дэпутат ад Баранавіцкай і Беластоцкай абласцей абіраўся не менш чым ад 15 тысяч чалавек. За Вілейшчынай і Брэстчынай была замацавана іншая норма — не менш як 12 тысяч. А вось у Пінскай вобласці дэпутат абласавета абіраўся не менш як 10 тысячамі грамадзянаў.

Само Палажэнне знешне выглядала даволі дэмакратычна. Адсутнічалі ўсялякія перашкоды вылучацца па сацыяльных, рэлігійных, нацыянальных і іншых прыкметах. Галасаванне абвяшчалася роўным таемным. У двухтыднёвы тэрмін прадугледжваўся другі тур галасавання. У дзень выбараў на выбарчым участку забаранялася агітацыя за кандыдата. Існавала і крымінальная — да трох гадоў турмы — адказнасць за фальсіфікацыю выбараў.

1 лістапада 1940 года наконт артыкула 69 Палажэння (там прапісвалася працэдура выстаўлення кандыдатаў) былі прыняты спецыяльны ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Паводле яго, у сельскіх раёнах Заходняй Беларусі (калектывізацыя шмат у якіх раёнах «буксавала») права выстаўлення кандыдатаў атрымлівалі агульныя сходы сялян па вёсках (у адрозненне ад мясцовых выбараў ва ўсходніх абласцях, дзе кандыдатуры вылучаліся сходамі сялян выключна па калгасах).

Бальшавікамі быў выдадзены прыкладны план вывучэння Палажэння аб выбарах. Ён уключаў сем гутарак: 1) Выбарчую кампанію ў мясцовыя Саветы працоўных Заходняй Беларусі здзейснім на высокім ідэйна-палітычным узроўні; 2) Міжнароднае становішча СССР; 3) СССР — краіна перамогшага сацыялізму; 4) БССР — неад'емная частка вялікага Савецкага Саюза; 5) Выбарчае права, выбарчая сістэма; 6) Як ствараюцца выбарчыя акругі і выбарчыя ўчасткі; 7) Выбарчыя камісіі, спісы выбаршчыкаў, парадак выстаўлення кандыдатаў, парадак галасавання, вызначэнне вынікаў выбараў.

План уяўляў банальныя камуністычныя сентэнцыі: БССР — несакрушальны фарпост сацыялізму на заходніх рубяжах, панская Польшча — турма народаў і г.д.

## Небывалы комплекс арганізацыйных захадаў

Сярод арганізацыйных захадаў на першым месцы было стварэнне выбарчых акруг, камісій і ўчасткаў. У кожнай вобласці ў складзе 11 чалавек (старшыня, намеснік, сакратар і 8 чальцоў) былі створаны камісіі па выбарах у абласныя Саветы.

У Валожынскім раёне Баранавіцкай вобласці, напрыклад, былі створаны 4 акругі па выбарах у абласны Савет, 60 акруг — па выбарах у раённы Савет і 477 — па выбарах у сельскія і пасялковыя Саветы.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета зацвердзіў і формы выбарчых бюлетэняў, якія адрозніваліся колерамі. Бюлетэні па выбарах у гарадскія, сельскія і пасялковыя Саветы мелі белы колер, у раённыя Саветы — светла-блакітны, у абласныя — светла-зялёны.

Бадай, адным з самых вялікіх арганізацыйных захадаў бальшавікоў стала складанне спісу выбаршчыкаў. На гэтую справу кідаліся салідныя людскія і адміністрацыйныя рэсурсы.

Напрыклад, у Беластоку спіс выбаршчыкаў складалі ажно 500 чалавек. Як правіла, гэта былі адукаваныя людзі: настаўнікі, лекары і інш. Складанне спісу ўяўляла вельмі працаёмкую працэдуру. Трэба было правярацьдамавую кнігу, гутарыць з упраўдомам і самому абыходзіць кватэры. Таму не дзіўна, што са спісам выбаршчыкаў узнікалі праблемы: у шэрагу месцаў спісы не былі складзеныя ў належны тэрмін (іх мусілі вывесіць за 35 дзён да выбараў, 12 лістапада), самі спісы ствараліся неахайна, прапускаліся дамы і вуліцы, самі грамадзяне часта не ўносіліся ў спісы.

Камічная гісторыя здарылася з жыхарам Брэста Фанабэрыям Носхам Шлёмавічам. У спісе выбаршчыкаў ягоны год нараджэння значыўся пад лічбай 1992. У Баранавічах па 9-м выбарчым участку былі прапушчаны прозвішчы ажно 43-х выбаршчыкаў.




**Перадвыбарчы сталінскі плакат на рускай мове.** Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

## Прапагандысцкая істэрыя

Цэнтральныя газеты «Советская Белоруссия» і «Звязда» стварылі спецыяльную рубрыку «Выбары ў заходніх абласцях БССР» і раз-пораз выстрэльвалі перадавіцамі кшталту «Па-баяволу завершыць падрыхтоўку да дня выбараў». Адпаведна павінны былі дзейнічаць і мясцовыя газеты. У барацьбу ўключыліся польскамоўныя выданні «Штандар вольнасці» і «Вольна праца».

У шэрагу населеных пунктаў пракацілася хваля мерапрыемстваў. У Брэсцкай вобласці з 15 па 20 кастрычніка адбылося 895 мітынгаў і 1974 сходы, на якіх прысутнічалі 353 974 чалавекі, а выступілі звыш 4 тысяч чалавек. Па-за законам абвяшчаліся патэнцыяльныя ворагі народа. Працоўны Брэсцкага спіртагарэлачнага завода Карпук заявіў, што класавая пільнасць падчас выбараў павінна быць у дзесяць разоў мацней.

Прадпрыемствы бралі на сябе абавязацельствы па павелічэнні выпуску прадукцыі. Напрыклад, калектыў тытунёвай фабрыкі ў Гродне абавязаўся даць звыш плана 105 тон прадукцыі і пры гэтым зэканоміць 15% паліва.

13 лістапада 1940 года сакратар ЦК ЛКСМБ Яфройкін дакладваў у ЦК КП(б)Б аб тым, што з моманту абвяшчэння даты выбараў камсамольска-моладзевы цэх Гродзенскага піваварнага завода перавыконвае план на 132% штодня.

## Ударым аўтапрабегам!

На падтрымку выбараў савецкія ўлады адкамандзіравалі тысячы сталінскіх агітатараў. Усяго па пяці абласцях было задзейнічана 66 967 агітатараў. Камуністы стварылі 41 493 кружкі па вывучэнні сталінскай Канстытуцыі 1936 года і Палажэння аб выбарах, у якіх узялі ўдзел 1 248 505 выбаршчыкаў.

Актыўна дзейнічалі так званыя агітбрыгады. У перыяд кампаніі, напрыклад, толькі ў Вілейскай вобласці 59 такіх брыгадаў здзейснілі каля 200 выездаў. У Пінскай вобласці палітыку партыі і ўрада падчас передвыбарчай кампаніі ажыццяўлялі 267 агіткалектываў і 6 тысяч агітатараў.

У некаторых выпадках улады праяўлялі крэатыў і ініцыявалі, арганізоўвалі вела- і аўтапрабегі (Столін—Бережное, Пінск—Драгічын). На маршруце Пінск—Драгічын было 19 аўтамабіляў.

Працяг на стар. 19 »

Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (148)
(снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# Процістаянне рамантыкаў і рэалістаў,
## або што матывуе беларускую крытыку?

**Беларускі інтэлектуал любіць троіцу. Пасля дыскусіі, прысвечанай новай, «папулярнай» хвалі беларускай літаратуры і прыватнага джазу Максіма Жбанкова ў кнігарні «Логвінаў» сабраліся людзі, гатовыя паразважаць, чаму беларуская літаратурная крытыка «не працуе».**



Фота Таццяны Шаўцовай

Дыскусію арганізавалі Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі Калегіум. Вядоўцамі былі Ціхан Чарнякевіч і Ігар Бабкоў.

Сцісла праблему акрэслілі так: «Крытыка ёсць ці крытыкі няма? Літаратура мае ў ёй патрэбу, ці крытыка мае патрэбу ў літаратуры? На першы план выходзяць стракатыя рэкламныя агляды, «дзясяткі найлепшых», рэпублікацыі пастоў у сацсетках. Крытычны тэкст дрэйфуе ці то ў літаратуразнаўчы аналіз, ці то ў публіцыстычную нататку. Якім чынам мусіць бытаваць крытыка цяпер і ці патрэбна ствараць пляцоўку для яе/іх гуртавання?»

Найпершае пытанне: што такое літаратурная крытыка? Кампаньён літаратуры, абслуга ці асобны ад мастацтва?

Іранічны Валянцін Акудовіч адпачатку зазначыў, што пра неіснаванне літкрытыкі ў Беларусі пісаў яшчэ дваццаць гадоў таму. З таго часу некалькі разоў падымаўся вэрхал пра сакральную адсутнасць. Калі нечага так доўга няма — гэта паказальна. Спадар Валянцін увёў у дыскусію панятак «спакушальніка». Што матывуе крытыка? Паводле Акудовіча, галоўны спакушальнік той, у каго ёсць грошы. Калі праца будзе аплочвацца належна, уласна крытычных тэкстаў стане больш. Схема да болю простая: не існуе попыту на літкрытыку — і яе «няма». Згадалі працу крытыкаў Заходняй Еўропы, дзе існуе культурная індустрыя. Буйныя выдавецтвы надзвычай зацікаўленыя ў крытыцы, а шматлікія выданні маюць такую штатную адзінку, як літкрытык. У такім стане рэчаў, аднак, ёсць свае адмоўныя моманты: па-першае, у такім выпадку літкрытык губляе незалежнасць і разбор тэкстаў робіцца абавязкам, становіцца на канвеер. Па-другое, краіны, якія маюць развітую і здаровую культурную індустрыю, працуюць з іншымі аб'ёмамі літаратуры. Тут размова можа ісці пра тысячы новых раманаў штомесяц. Ідэал — у недасяжнай залатой сярэдзіне, паміж канвеернай вытворчасцю ды забяспечанасцю літкрытыка на Захадзе і галоднымі менестрэлямі ў «роднай старане».

Міхал Бараноўскі вызначыў іншы від «спакушэння» — твор, які зачэпіць, не пакіне абыякавым, стане вымагаць ад крытыка водгуку. Абодва спакушальнікі значныя і мусяць існаваць у працэсе адначасова. Адпаведна ўзнікае пытанне: ці здольная беларуская літаратура спакушаць?

З Ганны Кісліцынай і кнігі «Blonde attack», па меркаванні Бабкова, пачаўся бунт беларускіх крытыкаў: «Яна першая напрыканцы 1990-х паспрабавала змяніць вобраз крытыкаў: не крытыка прыдатак да літаратуры, а наадварот. Літаратура — толькі нагода, каб выйсці ў прыгожай чырвонай сукенцы і расказаць, як я стамілася ад вашых графаманскіх тэкстаў». Калі Кісліцына запачаткавала крытыку-шоў, то наступніцы Лідзія Міхеева і Марыя Мартысевіч змянілі ракурс бачання, перастаўшы расстаўляць эстэтычныя адзнакі. Для іх мастацкі тэкст — нагода для размовы пра грамадства, уласныя перажыванні і г.д. Потым прыйшоў Ціхан Чарнякевіч, для якога «гранічна важна, што крытыка — частка літаратуры, ні ў якім разе ні журналістыкі, філалогіі ці нейкай яшчэ навукі. Калі літаратура — галюцынацыі аўтара з нагоды рэчаіснасці, то крытыка — тыя ж галюцынацыі, толькі з нагоды літаратурнай рэчаіснасці». Кажучы прасцей, літаратура пераасэнсоўвае рэчаіснасць, крытыка — літаратуру. Наступная ступень — пакаленне «маладой шпаны», якое свядома задзірае ўсіх...

Гэтую прыгожую схему традыцыйна дэканструяваў Валянцін Акудовіч. Ён падкрэсліў: усе яркія асобы з часам зніклі. Атрымаўшы магчымасць пісаць пра што заўгодна пасля заваявання «сацыяльнага капіталу» — не пішуць, ці вельмі рэдка. «Ахвяраваць уласнаю творчасцю на тое, каб пісаць пра чужую прозу-паэзію, — на гэта мала хто пойдзе. Ніхто да гэтага не гатовы».

Калі ўлічыць, што крытык як прафесія ў нас не каціруецца і попыт на гэты від мастацтва малы, мы прыйдзем да чарговага пытання: чаму літаратурная крытыка існуе, нягледзячы на ўсе праблемы?

У Івана Новіка маецца адказ асабістага кшталту: «У мяне цудоўная ідэнтычнасць — я філосаф. І я пішу для сябе, бо не магу без таго абысціся». Пра залежнасць ад прагі мыслення казаў Ціхан Чарнякевіч: «Трэба дачакацца эмоцыі, калі цябе пакліча кніга, калі ты падумаеш, што яе зразумеў, і пачаць развагаць. І ты атрымліваеш ад гэтага неверагодны кайф, які значна важнейшы за грошы. Думаю, гэты кайф мае чыста пісьменніцкія карані». Немалую ролю адыгрывае самаідэнтычнасць крытыка, сувязь з літаратурнай традыцыяй.

Увогуле, гэтая дыскусія сталася процістаяннем рамантыкаў і рэалістаў. Калі Бабкоў бачыць крытыку ў ідэалістычным ключы («не імкненне да грошай, славы, прэстыжу, а спроба зразумець, што мы тут робім, у гэтым свеце»), то Акудовіч настойваў на тым, што крытык — гэта прафесія, і як прафесіянал ён мусіць мець магчымасць паўнавартасна жыць са сваёй працы. «І пісьменнікі, і крытыкі ўсё адно будуць рабіць сваю справу, здабываючы сродкі на існаванне з іншых крыніцаў. Але гэта не значыць, што такі стан рэчаў — нармальны. Пакуль рамантызм адносна крытыкі будзе існаваць, ніколі крытыка не складзецца ў сістэмную, працаздольную, эфектыўную з'яву. Пакуль і знаку няма, што нехта думае, як гэта зрабіць. Пакуль што — адны паэтычныя рэфлексіі».

Самым жыццяздольным шляхам пры такім стане рэчаў паўстае праца наўпрост з аўдыторыяй, для чага сеціва дае бязмежныя магчымасці. А вось секцыі крытыкі ў пісьменніцкіх саюзах ды іншыя фармальныя аб'яднанні — абсалютна мёртвы кантэкст, які ўжо ніколі не адродзіцца.

І вельмі важна ствараць асяродак. «Калі ў нас ёсць прыўкрасныя крытыкі, ім трэба казаць пра гэта сёння, а не пісаць лісты на магілку,» — кажа Ігар Бабкоў.

Не трэба з усім пагаджацца — здаровая дыскусія заўжды патрэбная. Як неабходны дыялог, каб ведаць, што нехта яшчэ ў гэтай прасторы ёсць...

**Наста Грышчук**



## Снежаньская Рада СБП

**У культурніцкай прасторы «Тартак» на вуліцы Магілёўскай прайшло заключнае ў 2018 годзе паседжанне кіроўнага органа ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

У праграме было некалькі важных пунктаў, сярод якіх — уганараванне лаўрэатаў Літаратурнага конкурса «Экслібрыс», які сёлета быў прысвечаны знакавай падзеі — 100-годдзю абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дыпломам І ступені быў уганараваны Зміцер Астроўскі, дыпломам ІІ ступені — Андрэй Кулеш, дыпломам ІІІ ступені — Яўген Аснарэўскі. Заахвочвальныя дыпломы журы прызначыла Марыі Шэбанец і Паўлу Бракаву.

Другім, не менш важным пытаннем паседжання было прыняцце новых сябраў арганізацыі. Пасля прадстаўлення кандыдатаў старшынёй Прыёмнай камісіі СБП Аксанай Спрынчан, сябры Рады таемна прагаласавалі і прынялі ў сябры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Васіля Герасімчыка, Алеся Замкоўскага, Міколу Канановіча і Таццяну Яцук.

Завершылася паседжанне абмеркаваннем дзейнасці абласных філій ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і пытаннямі падрыхтоўкі рэгіянальных літаратурных альманахаў.

## Прэмія «Ганаровы грамадзянін Цэнтральнай Еўропы»

**Першай лаўрэаткай новай прэміі, якая ўручаецца за ўнёсак у развіццё дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці, стала Святлана Алексіевіч.**



Узнагарода заснаваная сёлета Цэнтральнаеўрапейскім форумам (CEF) — міжнароднай арганізацыяй, якая існуе 10 гадоў. У кансультатыўную Раду ўваходзяць такія вядомыя інтэлектуалы, як Адам Міхнік (Польшча), Міклаш Харасці (Вугоршчына), Славенка Дракуліч (Харватыя), іншыя еўрапейскія дзеячы культуры і палітыкі.

«Ваша прысутнасць на цырымоніі — гонар для народа маёй краіны», — напісаў у запрашальным лісце прэзідэнт Славацкай Рэспублікі Андрэй Кіска. Ён пры гэтым адзначыў «надзвычайную важнасць справы», якую робіць беларуская пісьменніца.

Цырымонія ўручэння прэміі, прымеркаваная да ўгодкаў падзеяў 1989 года ў Чэхаславаччыне, прайшла ў Браціславе на плошчы Славацкага нацыянальнага паўстання. Падчас цырымоніі быў зачытаны ўрывак з кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд» у славацкім перакладзе.

## Прэзентацыя «Панядзелка» Мойшэ Кульбака

**Кнігу «Панядзелак» — пераклад з ідышу рамана выдатнага «міжваеннага пісьменніка Беларусі» Мойшэ Кульбака — прэзентавалі ў сталічнай Галерэі TUT.BY.**

«З Вільні ў 28-м годзе ён зноў вяртаецца ў Менск. Фактычна гэтае вяртанне каштавала яму жыцця, — сказаў перакладчык Сяргей Шупа. — Пасля таго, як ён быў забіты ў тую чорную ноч, калі было забіта больш за 100 прадстаўнікоў творчай, палітычнай і грамадскай эліты 29–30 кастрычніка 1937 года, на дзвацаць гадоў імя Кульбака было, прынамсі, у гэтай частцы свету, выкраслена з усіх кніг жыцця і смерці».

У міжваеннай Савецкай Беларусі мова ідыш разам з беларускай, польскай і расійскай мела статус дзяржаўнай. На ёй працавала каля трох соцень агульнаадукацыйных школ і некаторыя факультэты ВНУ.

**Максім Каўняровіч, racyja.com**

# Дагуляюцца, як цяля на вяроўцы…

**(Памфлет)**

**Здаровы Сэнс адчуваў сябе пагана. Галава трашчала, як пасля перапою. Ён намачыў рушнік і паклаў халоднае на лоб. Маральны стан быў яшчэ горшы: яго самаацэнка імкнулася да нулявога паказчыку.**

Ніколі і нідзе яго так не ігнаравалі, як у гэтай адносна невялікай, але амбіцыйнай краіне. Апанавалі сумненні і пытанні. Калі ён неабходны асобным індывідуумам для нармальнага існавання ў соцыуме і сям'і, то чаму з ім не лічацца людзі дзяржаўнага маштабу?

Чым большая ў чалавека пасада, чым вышэй ён узнімаецца па кар'ернай лесвіцы, тым лацвей яму плываць на ўсе довады З.С. (будзем нашага героя называць скарочана). Здольнасць мысліць канструктыўна і цвяроза знікае. Якую сферу дзейнасці ні вазьмі, паўсюль дзівосы і адсутнасць логікі.

Асабліва ў фінансах. Калі дзяржава ў даўгах, як у шаўках, то чаму яна так раскідваецца грашыма? На першым месцы па затратах, вядома, Мінск. У сталіцы ўсё з барскім размахам. Будуецца, скажам, Вярхоўны суд. Якраз насупраць прэзідэнцкага палаца, велічны і пад неба. Наўрад ці ён будзе лепшы за ўсе астатнія суды. Наб'ецца туды, як семак, юрыстаў і пераносчыкаў папер — з тых, хто «піша і ножкаю калыша». Давядзецца ж запоўніць усе паверхі і кабінеты.

Найбольш сродкаў убухана ў праспект Пераможцаў. Вулічны дызайн ля стэлы перарабілі разы са тры. На плошчы Дзяржаўнага сцяга ўстанавілі спаруду рэдкай дарагавізны і непатрэбнасці. Называецца яна «Дошка гонару». Уганараваныя павернуты тварам да пустой плошчы (там толькі дзяжурныя мерапрыемствы зрэдзьчасу праводзяцца), а да горада — спіною. А на людны праспект «Пераможцаў Машэрава» глядзяць чатыры вялізазных экраны — мітусяцца з шалёнай хуткасцю каляровыя карцінкі.

«Для каго «кіно?»» — губляецца ў здагадках Здаровы Сэнс. Гандлёвы цэнтр «Замак» далекавата. З ліквідацыяй пешаходнага перахода не стала, натуральна, пешаходаў. А электронныя экраны мільгацяць, ад'ядаюць кавалкі ад бюджэта... Дык яны з картэжу відны, калі чорныя машыны імчацца ў Драздзы. А што як кіроўца загледзіцца? Менш саноўнаму транспарту таксама непажадана сляпіць вочы.

Пару гадоў таму перавярнулі і замянілі тратуарную плітку на ўсіх вуліцах Мінска, незалежна ад ступені яе зношанасці. Жывенька так, шустранька праца ішла... Ведаць бы, пад каго легла гарадское чынавенства, каму хацела дагадзіць, чый рахунак папоўніўся. Адбойнымі малаткамі зліквідавалі навесы на пераходах ля ГУМа, зрабілі новыя, больш адпавядаючыя архітэктурнай стылістыцы. А хто спраектаваў, зацвердзіў ранейшыя — з іх зарплат хоць капейку вылічылі?

Возьмем наземны транспарт. Навучыліся ездзіць як у Германіі — з дакладнасцю да хвіліны, ды чамусьці парабілі здвоеныя рэйсы. Аўтобусы на прыпынкі прыбываюць адначасова, па прынцыпе «мы з Тамарай ходзім парай». Прамежкі паміж рэйсамі доўгія, «пасажырапаток» цярпліва чакае. Зноў жа, напіхалі электронікі ў пасажырскі транспарт. Ужо ж папяровы талон можна было прабіць простай жалезкай... Камеры відэаназірання ў салонах пацягнулі на кругленькую суму. А галоўнае — навошта яны? На які ляд? Не зайцоў жа — пенсіянераў — высочваць. Хай дзяржава эканоміць на чымсьці іншым, а не на старых людзях.

А грошыкі трэба, вельмі трэба! Медыцына сядзіць без рэагентаў і даўным-даўно не правярае пацыентаў на вязкасць крыві. Бываюць перабоі з рэагентамі на праверку гармонаў. На УЗІ сэрца чарга ў паліклініках на некалькі месяцаў. Адна жанчына нядаўна паскардзілася, што чакала два гады. За гэты час можна аддаць Богу душу, і помнік паспеюць паставіць.

Грошай не тое што няма, недзе яны ёсць. У кашальках памерам з саквояж. Хто ў нас адказвае за выкананне бюджэта і расходаванне фінансаў? Правільна, Камітэт дзяржаўнага кантролю. Не было і не будзе там больш талковага кіраўніка, чым Анатоль Тозік. Пры ім камітэт рэальна разглядаў звароты, а не адсылаў іх на месцы да пісцоў-валакітчыкаў.

«Адкрыю я іхні сайт. Пагляджу», — вырашыў пакрыўджаны З.С. і шчоўкнуў мышкай.

Старонка адкрылася. У адрасным радку напісана штосьць незразумелае: «Руская версія». Руская версія чаго? Напісалі б «Комитет госконтроля» — і ўсё стала б на месца. Што, скажыце, пракантралюе ўстанова, якая не здольна кантраляваць сваіх тэхнічных супрацоўнікаў?! А можа справа не ў іх? Беларускай жа версіі няма, ёсць толькі інфармацыя з Вікіпедыі.

Здаровы сэнс аж пахаладзеў ад здагадкі. Скінуў рушнік і забегаў па сваім халасцяцкім пакоі. Вось яно што... Не можа быць! Так хутка! Ці не пра гэта прагаварыўся пасля паездкі ў белакаменную рэктар БДУ Андрэй Кароль? Адбываецца сінхранізацыя! То бок няспешнае паглынанне, паўзучая інкарпарацыя.

Перш зраўняем законам мовы, паступова школу перавядзём (дзе яшчэ не пераведзена), падрэжам тым самым карэнне літаратуры (бо хто спажываць будзе беларускае пісьменства?)... «А я, дурань усё пра грошы ды пра эканомію», — вылаяў сябе Здаровы Сэнс. — Во дзе міна замаруджанага дзеяння! Дагуляюцца яны, як цяля на вяроўцы, з гэтай сваёй Саюзнай дзяржавай!»

**Галіна Каржанеўская, naviny.by**

## Прыём заявак на прэмію «Дэбют» імя Багдановіча

**Стартуе новы сезон літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Прэмія прысуджаецца штогод за найлепшую дэбютную папяровую ці электронную кнігу на беларускай мове.**

«Дэбют» уганароўвае маладых аўтараў, што пішуць у жанрах, у якіх працаваў Максім Багдановіч, і ўручаецца ў намінацыях «Проза», «Паэзія», «Мастацкі пераклад».

Для ўдзелу ў конкурсе да 31 студзеня 2019 года неабходна:

- запоўніць адмысловую форму;
- даслаць на info@pen-centre.by электронную версію кнігі з тэмай «Дэбют»;
- перадаць або даслаць на офіс Беларускага ПЭН-цэнтра (220005, Мінск, вул. Залатая Горка, 2-101) 2 асобнікі, калі яна выходзіла ў папяровым варыянце.

Да разгляду прымаюцца дэбютныя кнігі, напісаныя на беларускай мове ці перакладзеныя на яе (намінацыя «Мастацкі пераклад»). Узрост аўтара або перакладчыка — да 35 гадоў на момант выдання.




Пераможца прэміі ў кожнай намінацыі атрымае ўзнагароду, эквівалентную 2000 даляраў ЗША. Таксама журы можа прыняць рашэнне пра ўручэнне заахвочвальных прызоў, эквівалентных 500 даляраў. Колькасць заахвочвальных прызоў вызначае журы.

Прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ўручаецца з 2011 года. Арганізатары прэміі: дабрачынны фонд «Вяртанне», Беларускі ПЭН-цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў.

**Прэс-служба СБП**

# Роднаму слову адданасць

## (Да 100-годдзя Фёдара Янкоўскага)

**Калі на зямлі ёсць людзі-паходні, якія асвятляюць шлях многім наступнікам, то, безумоўна, з такіх людзей — Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі (1918–1989), вучоны-лінгвіст, доктар філалагічных навук, прафесар, заслужаны дзеяч навукі Беларусі, пісьменнік, фалькларыст.**

Я добра ведаў Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Першы раз мы сустрэліся ў Берасці, калі ён завітаў да Уладзіміра Калесніка, свайго сябра і майго настаўніка. Бліжэй пазнаёміліся пасля майго пераезду ў Менск.

Нярэдка сустракаліся ў горадзе, гаманілі. Адзін аднаму дарылі свае кнігі з аўтографамі, пасылалі віншавальныя паштоўкі. Некалькі разоў быў я запрошаны да яго ў госці, ведаў жонку Сірафіму Андрэеўну, настаўніцу, не менш прыязную, чым гаспадар. Гэта была яго другая жонка, першую разам з дзіцем знішчылі гітлераўцы. Трагедыю юны воін перажываў цяжка і мужна. Ён і сам мог загінуць, бо ніхто на вайне не застрахаваны ад смерці. І раней, у 1939-м, ледзьве ацалеў, кінуты сталёвай рукою савецкай таталітарнай сістэмы пад Выбарг — ваяваць з фінамі. Бачыў процьму забітых, маладзенькіх, такіх, як і сам, байцоў. Гінулі яны не толькі ад куляў і асколкаў — забойцам часта аказваўся пасярод глыбокіх снягоў суровы паўночны мароз, якому іх выдаваў здраднік сон... Там Фёдару неяк пашанцавала, ён выйшаў з снежна-ледзяной труны, хоць і вярнуўся з той вайны цяжкапаранены і з абмарожанай пятою.

Фёдар Янкоўскі не проста партызаніў, ён стаў начальнікам баявой і агентурнай разведкі атрада «Грозны», што дзейнічаў супраць акупантаў на Меншчыне. Адважны разведчык рызыкаваў не раз жыццём сваім і баявых сяброў.

Сустракацца яму даводзілася з мноствам людзей. Траплялiся і гаваркія, прыхільнікі вострага слова, і ён нястомна занатоўваў трапныя і дасціпныя словы, словазлучэнні, прыказкі і прымаўкі, дыялогі, цікавыя гісторыі і зберагаў іх. У руплівага збіральніка народных скарбаў паступова назапашвалася багата каштоўных матэрыялаў, занатовак. Аднаго разу прафесар расказаў мне, як на Лагойшчыне, ідучы ў разведку ў час блакады ўвесну 1944 года, ён закапаў на палянцы між хвоек старонкі дзённіка і першы агульны сшытак народных выслоўяў і як мірным часам не раз ездзіў у тую мясціну, шукаў схаваны скарб, ды адшукаць не ўдалося.

Калісьці ў маладосці Фёдар Янкоўскі вызначыў свой жыццёвы арыенцір: «А ці ж акрэсліў, як далей ісці? Акрэсліў. Цвёрда і назаўсёды: на світанні ці на змярканні, золкаю ці ведранаю ноччу, хмурым ці сонечным днём — заўсёды і ўсюды жыццё маё будзе не дзеля кавалка хлеба; найгалоўнейшае, ад чаго не адступлюся, хоць апынуся ці ў акопах, ці ў шпіталі, хоць буду халодны і галодны, — маё роднае слова, родная натура вялікага краю, родная Беларусь. Вы — мая радасць і ўцеха, вы — мая скруха і боль, вы — маё шчасце, жыццё».

Як бачым, не адступіўся Янкоўскі ад галоўнай жыццёвай лініі, хоць зведаў пекла дзвюх войнаў, холад і голад, раненні і шпіталі, балючыя страты родных ды блізкіх. Беларускі характар выстаяў. Рукі ў чалавека не апусціліся, любоў да жыцця, да людзей і прага тварыць не зменшыліся. Сэрцам адданы роднаму слову не здрадзіў яму. Яго адданасць любімай справе, шчыраванне на грунце высокай адукацыі і культуры аказалася магутным рухавіком плённай навукова-творчай дзейнасці. Трыадзінства вучонага, пісьменніка і педагога сталася гарманічным і паспрыяла стварэнню выключнай навуковай і літаратурнай спадчыны.

...Аднойчы з прыемнасцю даведаўся ў рэдакцыі «Народнай волі», што ласкавая гаспадыня рэдакцыйнай прыёмнай Ніна Міхайлаўна Лявончык (дзявочае прозвішча Пакладок) была студэнткаю Фёдара Янкоўскага. У Менскім педінстытуце ён выкладаў даволі складаную навуку — гістарычную граматыку беларускае мовы, і студэнтка Ніна Пакладок слухала яго лекцыі. Я запытаўся, якое было ў яе ўражанне ад неардынарнага выкладчыка, яго лекцыяў, ад першае сустрэчы з ім. Ясныя вочы Ніны Міхайлаўны, здавалася, яшчэ больш пасвятлелі, засвяціліся душэўным святлом. Адчувалася — гэта быў любімы выкладчык. Субяседніца пачала з таго, як ён выглядаў вонкава: невысокага росту, з чорнымі, як смоль, валасамі, густымі чорнымі бровамі. І з ямачкай на барodцы. З гладка зачасанага валосся адна пасмачка ў яго непакорна выбівалася наперад, і ён двума пальцамі левай рукі закідаў гэтую сярэдзінку чуба дагары; пад правай рукою, калі ішоў на заняткі ды з заняткаў, звычайна трымаў папачку з патрэбнымі матэрыяламі. Хадзіў павольна, трошкі нахілены ўперад.

Я не мог не пацікавіцца, як чытаў Янкоўскі лекцыі і які ён быў экзаменатар.

— Не чытаў ён, а прамаўляў, — сказала Ніна Міхайлаўна. — І такая стаяла цішыня, што калі б муха праляцела, было б чутно. Гэта быў чарадзей слова, майстар, умеў выкласці тое, чым дасканала валодаў. Студэнты вельмі паважалі і любілі Фёдара Міхайлавіча. І пабойваліся. Быў ён патрабавальны, любіў дакладнасць, дысцыпліну, парадак.

«Слова яго, шчырасць яго, вернасць яго можна браць у дарогу, як спрадвеку бярэцца хлеб». Так пранікнёна сказаў народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль пра вучонага-моваведа і празаіка Фёдара Янкоўскага.

У кнізе «Моўныя адзінкі і кантэкст» (1992), прысвечанай светлай памяці Настаўніка — прафесара Ф. М. Янкоўскага, ёсць артыкул Г. М. Малажай «Руплівы даследчык і выдатны педагог» з такімі радкамі: «Ф. М. Янкоўскі не быў кабінетным вучоным. Ён кожны дзень быў на людзях, з людзьмі, нават тады, калі дактары настойліва рэкамендавалі яму адпачыць ад «усяго». Але гэтае «ўсё» для Фёдара Міхайлавіча было яго жыццём, а ад яго «адпачыць» нельга». Вось якраз тая акалічнасць, што ён быў на людзях, з людзьмі, давала яму і безліч нявыдуманых герояў ды непрыдуманых сюжэтаў для мастацкіх твораў. У яго- ных апавяданнях-мініяцюрах, абразках, эсэ, нарысах, эцюдах так шмат рэальнага жыцця, народнага характару, захапленняў і расчараванняў, радасці і болю. І скрозь аўтар выглядае арыгінальным, абсалютна непаўторным творцам, з яго бясконцымі моўнымі залацінкамі, адкрыццямі, а галоўнае — з яго ўменнем падачы хвалюючых падзеяў, здарэнняў, фактаў. Пабач з людзьмі, прыгожымі душою, ён паказвае пустадомкаў, гнюсату, нелюдзяў. У кожным такім вырaзе чытаецца трапная характарыстыка. А з безлічы змястоўных прыказак і прымавак, ім сабраных у народзе, назаву хоць бы дзве, якія ніколі не страцяць актуальнасці: «Для халуя і ката адна падрыхтавана плата», «Адною рукою дае, а дзвюма адбірае».

Не магу не падкрэсліць істотную рысу Янкоўскага: яго чалавекалюбства. Некалі ён занатаваў у сваім Глускім раёне пачутае: «Без людзей ні нараджацца, ні будавацца, ні паміраць». Гэтак проста і праўдзіва! Адзін з раздзелаў кнігі «Радасць і боль» (1995), перавыдадзенай ягонымі жонкай і дачкой, называецца: «Дарагія мае простыя людзі. Добра з вамі». Чытаю-перачытваю абразок «І за гарою пакланюся», перанесены з аднайменнае кнігі ў гэтае новае выданне. Цёпла на душы ад чалавечае дабрыні, увагі і людской удзячнасці. Гісторыя як бы вельмі простая. Ад Карэліч пад Нёман на легкавічку ехалі мужчыны — аўтар і яго сябра. Спыніла іх нечаканае: «На траве пры дарозе хлопчык. Ці то сядзіць, згорбіўшыся, ці то ляжыць. Каля дзіцяці — не ў руках — вудка, побач — торбачка. Спыніліся, паглядзелі. Хворае, стагнала. Ручка на жывоціку. Калі неслі ў машыну, толькі нібы паказала, куды везці». І далей: «Сустрэла нас маці. Узяла з рук дзесяцігодачка. Стрымліваючы слёзы, сказала: — Я й за гарою вам пакланюся. Які вам дзякуй! Вялікі вам дзякуй, людцы». Вярталіся мужчыны з нёманскіх берагоў праз чатыры дні. Завіталі ў двор, куды прывезлі таго рыбачка. Маці пазнала іх і клікнула з хаты Алеська, паказаць яго... Запрашала ў хату, у сад. А калі сядалі ў машыну, сказала зноў тое матчынае, шчырае, тое народнае, незабыўнае:

— Я й за гарою вам пакланюся.

Дадала:

— Гладкае вам дарогі.

А першая кніга мастацкай прозы Янкоўскага пачынаецца апавяданнем «Цёзка» — пра былога панскага парабка, кларытнага вусатага вяскoвага чалавека, з якім аўтар знаўся ў час ваеннага ліхалецця і які аднойчы памог разведцы. Дарэчы, калі ён даведаўся, што камандзір яшчэ і настаўнік, з таго дня ні разу не сказаў яму «ты». Фёдар Міхайлавіч сустракаўся з ім і пасля вайны. А ў снежні 1950-га аднаго разу, калі выкладчык выйшаў з аўдыторыі, яму сказалі: «Вас каля прафесарскай чакаюць». Так, там у натоўпе студэнтаў стаяў стары чалавек у доўгім кажусе, падперазаным шырокім саматканым поясам, з шапкаю пад пахаю і з доўгім ядлоўцавым пугаўём, на якім вісела чорная і на вузельчыках пуга. Барада была ўжо не рыжаватая — пабялела, вусы, як звычайна ўзімку, прыкметна пасекліся, парадзелі і паменшалі. Гэта быў пастарэлы цёзка Янкоўскага. Парукаўся ён, палез за пазуху і працягнуў капшук махоркі... Зазвінеў званок на лекцыю, і выкладчык папрасіў, каб дзед пачакаў толькі 50 хвілінак, а тады пагасцюе ў яго дома. А ён падвёў да вакна і паказаў: на двары інстытута, пад высокім гмахам, стаяла фурманка, чакаў нераспрэжаны конь.

— Не. Пабачыў во, што ў паны берацёся і чалавекам астаяцёся, дый патрухаю сабе на ноч гледзячы. Пакуль даехаў, пакуль знайшоў, пакуль дачакаўся — во і сцямнела. Ехаць.

Сустракаюцца ў творах Фёдара Янкоўскага і людзі знакамітыя. Не можа не ўразіць ягонае ўспрыманне легендарнага Рыгора Шырмы. Ужо самы пачатак апавядання палоніць і не адпускае, хоць карыстаецца аўтар звычайнаю моваю. За моўнаю прастатою бачыцца незвычайная ашчаднасць слова:

«Жалобны — на ўсёй Беларусі — дзень: не стала Якуба Коласа.

Я сустрэў Рыгора Шырму. Былі толькі два Шырмавы словы:

— Мы — асірацелі...

Сказаў, і сцяліся вусны. Ні слоў, ні пытання, ні ўздыхання.

Дарагі наш голубе Рыгор Шырма двума слоўцамі, толькі двума, усё сказаў: і хто нам Якуб Колас, і што ўсім нам, самому Рыгору Шырму, Коласава творчасць, Коласава дбайнасць, Коласава сіла.

Вялікі — пра вялікага».

Далей — самае істотнае. Пра Шырму, бліскучага прамоўцу ў паўнютка інстытуцкай зале: яблыку няма куды ўпасці, пра каго б ці пра што б ні ішла гаворка — пра акадэміка Браніслава Тарашкевіча ці пра беларускую народную песню: «Аднолькава наструнена слухалі Рыгора Шырму і студэнты, і пяць дзясяткаў выкладчыкаў...» І яшчэ — пра тое, якi непаўторны ўрок роднага слова праводзіў славуты народны артыст, як браў у рукі розныя кніжкі і зачытваў перад мноствам слухачоў недарэчныя выразы ў апрацаваных народных казках...

У 1977 годзе Фёдар Янкоўскі прывітаў народнага пісьменніка Янку Брыля публікацыяй: «Ідзе хораша, сумленна, смела». Ён, Фёдар Міхайлавіч, так умее нязмушана, натуральна, так хораша распавесці пра асобу творцы, заўважыць тое, чаго не заўважае ніхто. Калі мовазнаўца гаворыць пра ўзоры сучаснай беларускай літаратурнае мовы празаіка — гэта і не дзіва, але калі ён паказвае напоўніцу, што за чалавек гэты народны пісьменнік, які ён надзейны сябра і чым яшчэ валодае, апроч таленту празаіка, — гэта прыемна здзіўляе. Аказваецца, Брыль меў фенаменальную памяць. «Я не раз чуў, слухаў Брылёва чытанне — без тэксту ў руцэ — Л. Талстога, А Чэхава, М. Горкага, «Біблії», А. Міцкевіча, М. Прышвіна... — піша Ф. Янкоўскі. — Веданне моў? Выдатна — рускую, польскую, украінскую, някепска — нямецкую, латынь, стараславянскую...»

А як прыгожа Фёдар Янкоўскі віншаваў юбіляра ў згаданай вышэй публікацыі: «Янку Брылю шэсцьдзясят. Якраз у жніўні. Няхай яму, дарагому Янку Брылю, будзе яшчэ многа жніва. Няхай яго будучыя жнiўні будуць нажонныя і ўмалотныя.

А жнівень — і сяўба. І не чаго-небудзь, а самога Хлеба». Мудра. Глыбока. І непаўторна.

У свой час у маёй свядомасці дзейнасць Фёдара Янкоўскага асацыявалася гэтаксама з сяўбою і жнівом. Тады і з'явіўся такі верш:

### Будуць будні і святы ЖНІВА

*Светлай памяці*
*Ф. Янкоўскага*

*Гаспадар быў цудоўны —*
*і справу вяршыў:*
*шчыраваў на палетках*
*багатай душы.*
*Быў ён сейбіт, які забываў*
*пра сябе,*
*так аддадзены ўвесь*
*запаветнай сяўбе!*
*Пра сваю Беларусь, мову родную*
*дбаў,*
*ліст апошні пакуль на зямлю*
*не апаў.*
*Заклапочаны, і не заўважыў, калі*
*ўдалячынь чарадой*
*праплылі жураўлі.*
*Спрацаваны, збалелы, пайшоў*
*на спачын...*
*К сэрцу вобраз яго прыхінем,*
*памаўчым.*
*А наперадзе — будні і святы*
*ЖНІВА,*
*з адчуваннем прасторы яго,*
*харaства.*
*І наперадзе — сейбіту нізкі паклон*
*за натхнёную працу,*
*за дзейнасці плён.*

**Васіль Жуковіч**

# «У прасторы міласэрнасці...»:

## Данута Бічэль пра Ніну Мацяш

***— Данута Янаўна, у Вашым эсэ пра Ніну Мацяш ёсць такое выказванне: «Дзяўчаты, якія нарадзіліся невылечна хворымі, жывуць як святыя»... Генадзь Праневіч, разважаючы пра постаць Ніны Мацяш, выказаў думку, што Ніна Мацяш вартая прылічэння да ліку святых... Сваіх сябровак — Ніну Мацяш і Ларысу Геніюш — Вы называеце святымі...***

— Гэта толькі наша прыватная думка, можна сказаць, мастацкі вобраз. Увогуле, лепей пражыць жыццё як у вершы Максіма Танка: «Простае шчасце людское»... А крыху грэшнае жыццё — дык яшчэ цікавейшае. Калі сёння пра ўсё гэта думаць, то я перакананая, што самае лепшае жыццё пражылі нашы мамы і таты, нягледзячы на войны, голад, хваробы і смерць. Гэта жыццё, пражытае ў тым месцы, у якое іх прыслаў Бог, у сваім часе, на сваёй зямлі. Усе памылкі нашых бацькоў, грахі, крыўды, па-чалавечы можна зразумець і апраўдаць розумам перад Богам і перад намі, іх дзецьмі, і перад Беларуссю. Але і Ніна вярнулася дадому, калі захварэла...

***— «Ніна была паэткай болю» — так вызначылі Вы сутнасць яе паэзіі...***

— Ёй балела, а яна не паказвала выгляду перад людскімі вачамі, а таму і трывала, што мела куды выліць боль: у слова, у вершы, у пераклады. У Ніниных вершах можна панавыбіраць шмат радкоў пра боль і цэлыя паэмы... «Лёс мой, цяжкі камень»... Мы і не ўяўляем, які боль цярпела Ніна. Магчыма, Ніна і паэткай стала таму, што насіла гэту родавую хваробу. Прывязаная да каляскі, шмат чытала. Нехта з крытыкаў, здаецца, Бярозкін, заўважыў, што Ніна прыйшла ў літаратуру ад кнігі. Кнігі былі трамплінам, Ніна вучылася ў паэтаў свету, чытаючы іх і перакладаючы, перастваараючы на беларускую мову. Калі я першы раз трапіла ў яе кватэру, я была здзіўлена, колькі паэтаў свету ёсць у яе бібліятэцы, пра якіх я нават не чула. Ніна Мацяш выхоўвала, узмацняла, узбагачала сваю песню — і да апошніх вершаў яна дайшла вельмі адметнай, незалежнай, далікатнай і магутнай паэткай.

У яе не было комплексу правінцыялкі. Я толькі збоку назірала, як яна смела выступала на літаратурных сустрэчах у Доме літаратара «пры каміне», з адпаведным паўзмрокам, дзе натоўп быў як бы адмежаваны ад паэткі, яна сабе гаварыла і чытала свае вершы, а сталічныя жанчыны плакалі наўзрыд. А яна як і не чула іх. Яна магла спяваць паміж чытаннем вершаў — без акампанемента. Неяк яна прадумвала ўвесь свой рэпертуар, а выглядала гэта як экспромт, і не збівалася, і не стамлялася, не камячыла, не разбурала той гармоніі свайго выступу, якую перад гэтым прадумала...

«Паэтка болю» была прыкладам трывання. Але не будзем яе выносіць на алтар царкоўных святых, хоць бы і таму, што Беларусь падзелена на канфесіі, якія часцяком паміж сабой не сябруюць, а нашы паэты і паэткі сціралі ўсе з усімі, нам пры саветах трэба было трымацца, каб не пераламалі нас паасобку, па адным, як дубцы з веніка, зрэшты, некага выцягвалі з таго «веніка» і ўсё роўна ламалі, але большасць утрымаліся за Танка, за Брыля, за Калесніка і за Ніну Мацяш... А гэтая еднасць і была нашым шчасцем.

***— Вы сказалі, што праца Ніниных рук — «варыць ежу, лупіць бульбу, каб пальцы не мярцвелі, увесь час імі варушыць, перабіраць, плесці з нітак, укладаць перыйкі, лісткі, карэньчыкі, пялёсткі» — гэта «маўклівыя вершы болю»...***

— І галоўнае, запаўняць сваю балесную адзіноту, ёй, якая пражыла больш жыцця прымацаванай да каляскі, да



Ніна Мацяш

крэсла, да ложка. Я часта думаю пра гэта, калі мне баліць цела: як яна ўсю ноч не варочаецца, адна ў кватэры... Але яна мяне навучыла, як суцішваць боль у целе. Я і цяпер, бывае, угаворваю старэчае хворае цела, тую кропку болю, засяроджваючы на ёй сваю ўвагу. Магчыма, гэта ад ёгі... Я не ведаю — хто навучыў Ніну, ці яна сама такі спосаб прыдумала. А яе мастацтва... Думаю, і гэта ад таленту. Калі б яна была здаровай, яна б таксама займалася і пляценнем, і вязаннем, і вышываннем. І складаннем музыкі, і спевам. Таленавітая была ад прыроды.

***— «Мела духоўныя сілы перасесці з каляскі ў крэсла паміж Ларысай Геніюш і Валодзем Калеснікам, каб яны маглі паразмаўляць праз яе хворыя плечы»; «Ніна сядала там, дзе паміж імі праходзіла лінія фронту».***

— Валодзя Калеснік быў салдатам, ваяваў з фашыстамі са зброяй у руках, хто першы стрэліць, той застанецца, іншых адносінаў з ворагам Валодзя не ведаў... Эмігрантам прыходзілася ўступаць з немцамі ў перамовы, шукаць нейкія іншыя варыянты змагання... Я напісала гэта, як радок да верша, але сёння растлумачыць гэтую думку мне цяжка.

***— «У кожнага з нас маецца свой алфавіт, каб стварыць паэзію», — пісала Вам пані Ніна ў лісце. Што гэта за такі «паэтычны алфавіт»?***

— Натуральна, што гэта ўсе спосабы і мастацкія формы, якімі карыстаюцца паэты, каб дасягнуць патрэбнага кшталту. І тое, што ёсць у нашым распараджэнні падсвядома. Як ёсць алфавіт, то ёсць і слоўнікавы запас. У Ніны, да ўсяго, было ўменне з родных словаў ствараць яшчэ раднейшыя, свае, прыдуманыя. Ды вы, яе сяброўкі, ёй дапамагалі, у вас была такая гульня — размаўляць на мове Ніны Мацяш... Па-мойму, вы збіраецеся выдаць слоўнік мовы Ніны Мацяш, але трымаеце гэта ў сакрэце. Відаць, ваш алфавіт таксама мае свае таямніцы і, магчыма, магію, чары-мары, адкуль мне ведаць. Тут Віслава Шымборска, якую Ніна таму так добра і пераклала, што ў іх абедзвюх было гэтае ўменне стварацаь свае словы, сказала б болей за мяне. Мова Ніваў — Ніўкаў і Белаазёрска мае шмат асаблівасцяў, і Ніна імі карысталася. Я таксама далёка не ўцякала ад мовы сваёй вёскі, ад мамінай мовы. Быў час, калі ўсе захапіліся слоўнікам Ластоўскага. Да мяне гэтае захапленне пранікла ў кніжачку «А на Палессі»... Тарашкевіца мне аказалася не па зубах.

***— Так, сапраўды, пані Ніна ахвотна карысталася новымі словамі, і сама не баялася тварыць на аснове добра вядомых. Слоўнік такіх «самацветаў» багаты, добра было б яго выдаць, каб паказаць і багацце нашай мовы, і творчую стваральную працу пані Ніны... Вы прысвяцілі Ніне Мацяш некалькі вершаў. Там ёсць Белае і Чорнае возера, белыя і чорныя чайкі...***

— А хіба ў прыродзе няма чорных чаек? Бо Чорнае возера ёсць, Ніна мне яго і паказвала. Яно, дарэчы, нават цікавейшае, чым Белае, бо пасярэдзіне возера шмат усяго — чароту, астравоў... Рыбакі там свае схоўкі ставяць... А жыццё наша гэтак жа, як азёры, — то белая паласа, то чорная... А ў некага ў жыцці толькі адзін колер. Але Ніна ўсю чарнату забельвала сваёй дабрынёй да людзей, і столькі яе ў душы мела, з усімі дзялілася і нікому не бракавала.

***— У эсэ Вы прыгадваеце радкі з ліста, дзе пані Ніна расказвае сон, які прысніўся ёй перад адыходам у іншы свет. Ці прадчувалі Вы, што гэта перад Ніниным адлётам?***

— Не было ніякага прадчування, ніякай трывогі... І калі яна ў трубку тэлефона гаварыла пра тое, што яна ўжо пойдзе і не трэба яе адгаворваць... Што пара, напакутвалася... Я падумала, што яна прыехала з Брэста, стамілася і ёй холадна і хочацца спаць.

***— Вашая «Калыханка Ніне» — гэта такое балеснае паэтычнае галашэнне... Як так напісалася?***

— Такія вершы пішуцца экспромтам — з любові, з адчаю. Уся добрая паэзія стваракцца так — сэрцам. Мне Ніна была патрэбная. Чаму — была?! І цяпер яна ёсць. Толькі не патэлефануе і не скажа: «Алёў, Данусенька! Як ты там, сястрыца?» Ды гэты верш лёгка склаўся, бо створаны як галашэнне, як плач.

***— Ніна любіла кветкі. Любіла, каб было прыгожа ў гарадскім дворыку. Прасіла саджаць шыпшыну-ружу, мальвы... І сама была то ружаю, то мальваю... З якімі кветкамі помніцца Вам яна?***

— З кактусам. Таму што ёй было гэтак хадзіць па паркеце, як па кактусах. У яе кактусы стаялі на вокнах, цвілі... Хто верыць у прыкметы, той не трымае дома кактусы, а Ніна іх збірала ў калекцыю.

***— Апошні зборнік, які пані Ніна ўклала сама, назвала «У прыгаршчах ветру». Радок з верша пра лёгкую пярынку дзьмухаўца... Уражанне, што кожным сваім чарговым зборнікам яна развітвалася з гэтым белым светам, са сваімі чытачамі...***

— Так. Кожны пражыты Нінай дзень даваўся ёй надта цяжка, але як яна адчувала хвіліны шчасця, як яна іх высока цаніла, упрыгожвала паэтычнымі вобразамі: «Два дні і ночы пралящелі, як дзве пчолкі...». І як яна змагала выкарыстаць і сваю адзіноту, і хваробу, запоўніць любоўю, пошукамі вобразаў, працай. Ёй нельга было сварыцца з людзьмі, іх крыўдзіць, бо яна была на іх руках... І гэта было цяжкае выпрабаванне, якім нельга было падзяліцца ні з кім...

***— У архіве Ніны Мацяш захоўваецца такая прыгожая самаробная Вашая паштоўка: паэтычнае велікоднае яйка. Гэта такі своеасаблівы твор паэтаграфікі...***

— З лацінскіх паэтаў, здаецца, Вісэнты Уі добра маляваў свае вершы, укладваў радкі ў графічныя фігуры, і, чытаючы іх перад слухачамі, заадно рабіў такія мініВыставы. Зрэшты, Ніна гэта рабіла яшчэ больш «крута» — укладаючы сваю пёркаграфіку. Я толькі гэтае яечка і намалявала — у яйку дрэва, на якім растуць вершы. У кнізе «Хадзі на мой голас» — на вокладцы хатка з карціны Вікторыі Ільінай, а сярод фатаграфій — гэтае яечка з яблынькай, на якой спеюць вершы, і хатка, што паляцела з дымам. Ёсць у маёй празаічнай кнізе і эсэ пра паэтак «Яблынькі»... Калі я малявала для кнігі, я рабіла шмат варыянтаў, бо такі з мяне мастак... Шукала дасканалы варыянт, астатнія раздавала сяброўкам. Верш з яйка я нядаўна перапісала ў слупок, і вось што атрымалася... І паколькі мы нашы размовы прывыклі заканчваць нейкай вершаванкай, то і гэтую так скончым.

### Світанак

*Світанак пасля начных прыгнятанак...*
*Світанак глыбокіх сэрцавых ранак...*
*Світанак перад адлётам прыстанак...*
*Світанак на цёплых зёлках палянак...*
*Світанак у трох куточках альтанак...*

*А хмаркі плывуць нацянькі,*
*нібы мосцікі ўдоўж ракі.*
*На дваістым дне той ракі*
*рак палюе, вялізны такі.*

*А на мосцік драўляны ўдоўж*
*прысмактаўся той слізкі смоўж.*
*Паслізнешся, нібы няўзнак —*
*будзеш там, дзе зімуе рак.*

*Я не плачу аб слове памерлым,*
*я на полымі скамянелым*
*малюю сцяжок белым мелам.*

*А нехта маўчыць за сталом,*
*пад скамянелым крылом*
*гартае страт важкі том...*

*А на яблыні зоркі расіцу п'юць,*
*зялёным яблыкам заядуць,*
*напіўшыся, у хмаркі свае палятуць.*

*Жаўранак будзіць дасвецце,*
*з хмаркі страсае вецер,*
*расцвітае акна ружы-квет,*
*усміхаецца ўвесь белы свет!*

*Вядзёрка ў студню дае нырца,*
*падстаў збаночак — нальне жыцця.*

*Завуркоча ў коміне гром,*
*Дух Святы прыходзіць з дажджом.*
*Боджанька вітае дабром,*
*дабрынёй напаўняе дом*
*і праводзіць з поўным вядром.*

***— Ведаю, што Вы напісалі новыя вершы... Ёсць сярод іх і верш пра пані Ніну.***

— Так, думаю пра Ніну і гавару з ёю...

### Ніна Мацяш

*У Ніўках нарадзілася Нінка,*
*з нябёсаў дажджынка...*
*Найсвяцейшай Панны пярлінка...*
*Укрыжаванага Збаўцы слязінка...*
*Ерузалемскай пальмы галінка...*
*Вербнай нядзелі вярбінка...*
*Не адна балеснага шчасця хвілінка...*

*З белай хмары ў белыя хвалі*
*Бог адпускае Анёлаў-дзяўчат,*
*каб белыя хвалі іх калыхалі,*
*як бязгрэшных святых немаўлят,*
*каб іх ножанькі не топталі*
*пчолак, коцікаў, птушанят,*
*каб не спаўняў над імі загад*
*сучасны Понцій Пілат...*

*Птахі на крылах іх уздымалі,*
*каб святлеў ад крыл далягляд...*
*раны духовыя ім бінтавалі,*
*да святасці ў райскі сад!*
*Хлопцы, узмоцненыя духова,*
*каб насілі іх на руках...*
*так адгаўлялі родныя словы*
*чыстыя сэрцы ў дзявочых грудзях!*

*Бог забраў Ніну ў сваю Краіну.*
*Беларусь мае паэтку Ніну —*
*не на хвіліну, часу ў нас шмат!*

**26 жніўня 2018**

**Гутарыла Марыя Новік**

# Боль і час



Вольга МІКАЛАЙЧЫК

***

*пафарбую валасы*
*ад спрадвечнае сівізны*
*расою*
*крывёю*
*ладанам*
*яблыкам па́даным*
*мараю*
*хмараю*
*ка́раю*
*людскім праклёнам*
*ды сокам з клёну*
*ільном*
*ды сном*
*хмельнай закваскаю*
*Божаю ласкаю*
*валасы распалю*
*грабенчыкам прыхаплю*
*выйду ў людзі —*
*ніхто не забудзецца*

***

*Мой ненароджаны сын*
*Уночы прыйшоў, як заўжды*
*Зноўку з маёю дачкою — тою*
*Што не нарадзілі з табою*
*Шалёнай парою ў мрою*
*Калі не глядзіш на гадзіннік*
*Вечнасці*
*А ён бязлітасны*
*Ў сваёй бесчалавечнасці.*

*Нашыя дзеці — ужо толькі мары*
*Зноў пасвяцілі нам з Неба праз хмары*
*сваімі анёлавымі бліскавіцамі —*
*клічуць за іх памаліцца*
*Яны трымаюць ліхтарыкі ў рукавічках*
*якія на кросенках колавароту*
*выткалі райскія нянькі з нітачак,*
*звітых з праменчыкаў нашых знічак.*

*Дзяцей прывялі на спатканне Дзяды*
*Таксама ў наш горад — да нас сюды*
*Пасталі яны па-над нашай бядою,*
*над пакаяльнаю хадою*
*над дрэвамі ды над вадою*
*над мокрым снегам*
*ды над ветрам,*
*над нашым сцягам*
*ды над дымам*
*над нашым домам,*
*якім стаў намёт ды намолены плот.*

*...Святло паўстала там*
*Над пляцам гора*
*дзе лес і лёс,*
*і Біблія і Тора.*

*Праз памяць,*
*праз малітву пакаяння*
*Больш не абдудзецца*
*Ніколі развітання.*
*Пад вартаю Бога*
*З'явілася дарога*



Фота www.de.wikiloc.com

*І цені знікаюць*
*І Дзеці з Дзядамі*
*На нашыя спевы чакаюць...*

*Малітваю ціха па Небе*
*Ільецца размова між намі і тымі*
*Каго на зямлі ўзгадаюць...*

***

*Не будзь са мною ў горы*
*Калі не быў у радасці*
*Не зыч мне шчасця*
*Якое не спраўдзіцца*
*Не спрачайся не дапаможа*
*Госпаду не да таго*
*Прытулі галаву да малітвы*
*Сцежкаю ціха праводзь таго*
*Хто ціха свой дзень пранёс*
*Праз*
*Няспраўджаныя мары*
*Ды непрынятыя ахвяры*
*Свой боль і свой час*
*Пакуль Госпаду не да нас*
*Бо*
*Не падзеліш калі няма чаго*
*Не надзеліш калі няма каго*
*Не пасумуеш калі няма па кім*
*Не выплачаш калі ніхто не пакінуў*

**Акрэсцінская лічылка-страшылка**

*Сядзелі мы лоўка*
*з пятлёю на галоўках*
*ручкі за спінку*
*ножкі ў наколках*
*Божая кароўка*
*паляці на Небка*
*дам табе хлебка*
*з турэмнай сталоўкі*
*Патачу пазногці*
*аб белую сцену*
*Намалюю косьці*
*Замоўлю кагосьці*
*Сяду ў самалёт*
*палячу за дрот*
*Лягу-прылягу*
*сню ка́та-бедалагу —*
*ляжыць у труне...*
*Не сніся болей мне!*

***

*не пілуй мой крыж*
*не глядзі ў мой лёс*
*не бяры таго*
*што не сам прынёс*
*не хавайся там*
*дзе не намаліў*
*не насі свой бруд*
*дзе святы хадзіў*

# Слова першае



Вадзім КОРАНЬ

***

*На пачатку было Слова.*
*Усе гэта ведаюць. Нічога новага.*
*Але ж якое Слова на пачатку было,*
*калі сонца ў небе ўпершыню ўзышло?*
*Цяпер мы ведаем шмат словаў:*
*можам па-англійску,*
*па-нямецку,*
*а нехта і на эльфійскай мове.*
*Хтосьці нават прыдумаў бальбуту,*
*якую я не ведаю, але гучыць крута.*
*Ды няважна гэта, другасна, неістотна,*
*бо нават з мовай кожны з нас самотны,*
*калі не ведае Слова,*
*што было на пачатку,*
*якое нехта Невядомы напісаў асадкай*
*на сэрцы кожнага,*
*хто прыходзіць у гэты свет,*
*толькі камусьці яно вядомае,*
*а для кагосьці — сакрэт.*
*Яно нябачна выбіта на дзвярах*
*кожнага храма:*
*«МАМА».*
*Яно на ўсмешлівых вуснах кожнага дзіцяці*
*і стогадовага старога ў бацькоўскай хаце,*
*які самотна памірае*
*і чакае,*
*што калі адчыняць райскую браму,*
*ён убачыць і абдыме маму...*

*На пачатку было Слова...*
*І Слова першае самае —*
*«МАМА»...*

***

*Заблудзіўся ў жыцці, навакол цішыня,*
*няма сілы змагацца і нешта змяняць.*
*Бачу Бога, але нехта выключыў гук,*
*цела быццам аплёў павуціннем павук.*

*І гадзіннік зламаўся, час раптоўна памёр,*
*нам пакінуўшы сумных імгненняў узор.*
*У руку — па цвіку, і ўжо не паляціш,*
*адчуваючы целам няструганы крыж.*

*Спадзяванні на літасць зніклі*
*ў жудасным сне*
*ні святла, ні надзей не пакінуўшы мне.*
*Толькі шрамы на вуснах, слёзы ўжо не стрымаць —*
*страшна думаць пра Неба, калі ў сэрцы зіма.*

*Папяровыя ружы замест кветак жывых.*
*Мару Бога пачуць і напружваю слых.*
*Чую — плачуць анёлы за чорнай гарой*
*словы песні маркотнай, як поўня, старой.*

***

*Апошні сон*
*складаецца па частках.*
*І з іх*
*я добра памятаю тры.*
*У першай*
*тры анёлы ў страшных масках*
*спрабуюць непакорлівых скарыць.*
*Ўсё апялі яны*
*калючым дротам,*
*што цягнецца аж но за небакрай,*
*забыліся на святасць і на цноту —*
*без спеху дабудоўваюць свой рай.*

*Другая —*
*белы снег да далягляду*
*і злосная нямая цішыня.*
*Чакае зграя воўчая загаду,*
*каб разарваць нявіннае ягня.*
*А я крычу: «Спыніцеся! Не трэба!»*
*Спрабую захіліць яго сабой...*
*Дарэмна... Засталіся толькі неба,*
*пакуты, ціш і невыцерпны боль.*

*У трэцяй —*
*вочы выпалілі зоркі,*
*калі сачыў прыгожы зарапад,*
*схаваўшыся на кургане-пагорку,*
*і стала цемра страшная па-над*
*зямлёй. І сцежку, што расой блішчала,*
*не мог убачыць і не мог знайсці.*
*Сляпую цемру, што наўкол паўстала*
*нат з сонцам немагчыма перайсці.*

*Наступную я не магу ўжо ўспомніць.*
*Так хочацца, каб там было святло.*
*Няхай не сонца, хай самотнай поўні,*
*але каб толькі там яно было.*

*Апошні сон складаю я па частках.*
*Не склеіць іх,*
*не сшыць*
*і не звязаць.*
*На чалавека Бог паставіў пастку:*
*час знікне і не вернецца назад.*
*А разам з часам знікнуць*
*успаміны*
*пра шчасце,*
*пра сяброўства,*
*пра любоў...*
*І сыплюцца пясчынкамі хвіліны*
*ў гадзінніку,*
*які не бачыць сноў.*

***

*Казка заўсёды толькі казкаю застаецца*
*і што там усё добра нам толькі здаецца.*
*Чырвоны Каптурок ужо не тая,*
*што раней:*
*пасталела і перабралася ў горад —*
*там зручней,*
*больш сродкаў і магчымасцяў*
*зрабіць кар'еру,*
*хоць спачатку ўладкавалася*
*звычайным кур'ерам.*
*Стамлялася на працы.*
*Сустракалася з дрывасекам,*
*які спрабаваў зацягнуць яе ў секту,*
*і яшчэ не вядома, што б з ёю сталася,*
*калі б збегчы адтуль не атрымалася.*
*Пасля сустракалася з добрым хлопцам,*
*але праз паўгода ён пачаў калоцца,*
*а потым узяў і выйшаў з кватэры,*
*толькі пераблытаў акно і дзверы.*
*Потым сама яна нешта прымала,*
*бо было балюча — яна ж кахала...*
*Маці знайшла старога багатага прынца*
*і павандравала па еўрапейскіх сталіцах.*
*Яна сабралася хутка,*
*ажно забыўшыся развітацца,*
*сказала толькі:*
*«Трэба й сабою заняцца!»*
*Бабулю падманулі:*
*яна ўсё, што было, аддала пад заклад,*
*бо ёй паабяцалі новы дом і вялікі сад.*
*Аддала нават сваю дыядэму срэбраную —*
*узнагароду на даўнім конкурсе прыгажосці.*
*Жыла ў доме састарэлых*
*нікому непатрэбная*
*і ўсё чакала, што да яе*
*прыедуць госці.*
*Не прыехаў ніхто.*
*І памерла, пакінутая ўсімі:*
*унучцы пляваць, а дачка з кавалерам —*
*у Рыме.*
*Што казаць, іх нават не было*
*на пахаванні,*
*якое прайшло без слёз*
*і ў сумным маўчанні.*

*Але ж усё магло быць і зусім інačай...*
*Ну, што ж, гэта на дзіва простая задача.*
*Возьмем кніжку, адгартаем назад,*
*бы плёнку ў кіно:*
*дзяўчынка праз змрочны лес*
*бяжыць з усіх ног*
*да любімай бабулі, нягледзячы на страх,*
*і лёс гэтай дзяўчынкі —*
*ва ўласных яе руках...*

***

*Штодзень дадаю ў верш слова.*
*Штораз верш становіцца*
*большым на слова.*
*Аднойчы ён набудзе форму,*
*знерухомее*
*і завершыцца.*
*Але я,*
*паставіўшы кропку*
*ў канцы апошняга радка,*
*ані прачытаць*
*яго ад пачатку*
*не змагу,*
*ані паправіць.*
*Так і пішу —*
*чыставік.*

Уладзімір АРЛОЎ

# «Воля, вернасць,

**Рыхтуецца да друку другая частка кнігі «Айчына. Маляўнічая гісторыя». У першай частцы пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Павел Татарнікаў распавялі чытачам пра падзеі і выдатных асобаў нашай мінуўшчыны ад часоў Рагвалода і Рагнеды да паўстання Тадэвуша Касцюшкі (некаторыя старонкі кнігі друкаваліся і ў «Новым часе»). Храналагічныя межы новага выдання, таксама адрасаванага найперш дзецям і падлеткам, — усё XIX стагоддзе. Прапануем вашай увазе апавяданні з будучай кнігі.**

## МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ

Кожны з вас чуў незабыўную, узнёслую і напоўненую светлай тугой мелодыю паланеза «Развітанне з Айчынай», якую звычайна называюць проста паланезам Агінскага. Кампазітар, які напісаў гэты сусветна вядомы твор, паходзіў з роду, што даў Літве-Беларусі шмат выдатных людзей: дзяржаўных дзеячаў, ваяводаў, пісьменнікаў і кампазітараў. Самым знакамітым наканавана было стаць графу Міхалу Клеафасу Агінскаму — дыпламату, палітыку, паўстанцкаму правадыру і таленавітаму творцу.

### «Воля, вернасць, незалежнасць»

Агінскі ўжо ў юнацтве быў абраны дэпутатам Сойму, праславіўся як таленавіты дыпламат, а ў дванццаць восем гадоў заняў у краіне нашых продкаў адну з найвышэйшых дзяржаўных пасадаў. Яго прызначылі падскарбіем — міністрам фінансаў Вялікага Княства Літоўскага.

Калі ўспыхнула паўстанне на чале з Тадэвушам Касцюшкам, Міхал Клеафас адмовіўся ад міністэрскай пасады і ахвяраваў 120 тысяч рублёў на паўстанцкі конны полк. За ўласныя грошы ён таксама стварыў і ўзброіў батальён стральцоў з пяці сотняў паўстанцаў. Родавы герб на сваёй пячатцы Агінскі замяніў на дэвіз «Воля, вернасць, незалежнасць».

Агінскі быў не толькі здольным камандзірам. Ён напісаў «Марш паўстанцаў 1794 года», які спявалі змагары на ўсім абшары Княства.

Ваяры Міхала Клеафаса разграмілі вялікі аддзел царскіх казакоў пад Валожынам, адважна дзейнічалі на Браслаўшчыне і пад Дзвінскам (Дынабургам). Агінскага заўсёды бачылі ў самай гушчыні бою, і ён некалькі разоў толькі дзівам застаўся жывы.

Пасля таго, як царскія карнікі на чале з генераламі Аляксандрам Суворавым задушылі паўстанне, Агінскі мусіў весці жыццё выгнанца ў розных еўрапейскіх краінах.

### Паўночныя Афіны

Калі былому паўстанцкаму камандзіру ўдалося вярнуцца з чужыны на радзіму, ён пасяліўся ў маёнтку Залессе пад Смаргонню. Агінскі ператварыў яго ў культурную сталіцу краю. Сучаснікі параўноўвалі Залессе са сталіцай старажытнай Грэцыі, дзе квітнела мастацва, і захоплена называлі маёнтак графа Міхала «Паўночнымі Афінамі». У палацы Агінскага часта бывалі кампазітары, пісьменнікі і мастакі, прафесары Віленскага ўніверсітэта. У вольны час госці блукалі па вялікім прыгожым парку з аранжэрэямі і мудрагелістымі альтанкамі. Ганаровае месца ў парку займаў валун, пастаўлены ў памяць пра баявых пабрацімаў гаспадара — змагароў Тадэвуша Касцюшкі. Гэты гістарычны камень можна ўбачыць і сёння.

Міхал Клеафас быў добра знаёмы з Адамам Міцкевічам, Тамашом Занам, Аляксандрам Ходзькам ды іншымі сябрамі таемных патрыятычных таварыстваў філаматаў і філарэтаў.

Улюбёным заняткам гаспадара Залесся была музыка. У той час паланезамі, мазуркамі, вальсамі і менуэтамі Агінскага часта распачыналіся балі па ўсёй Еўропе. Творамі нашага суайчынніка захапляліся выдатныя еўрапейскія кампазітары Ёзэф Гайдн і Вольфганг Амадэй Моцарт. Водгукі мелодый Агінскага можна пачуць у творах Ферэнца Ліста і Роберта Шумана.

Мелодыя арыі Фігаро ўпершыню прагучала за восем гадоў да пастаноўкі славутай оперы Моцарта «Вяселле Фігаро» ў адным з музычных твораў графа Агінскага. Уплыў музыкі нашага суайчынніка зведалі таксама славуты паляк Фрэдэрык Шапэн, а таксама расейскія кампазітары Пётр Чайкоўскі і Міхаіл Глінка, які быў беларусам з паходжання.

У Залессі быў напісаны і самы вядомы паланез Міхала Клеафаса, які сёння можна пачуць не толькі ў Беларусі, але ў канцэртных залах Варшавы і Парыжа, Берліна і Прагі, Вены і Венецыі. Па ўсёй Еўропе часта граюць паланез Агінскага і вулічныя музыкі.

### Развітанне з Айчынай

Міхал Клеафас Агінскі быў добра знаёмы з царом Аляксандрам I і французскім імператарам Напалеонам. З іх дапамогаю граф-патрыёт спадзяваўся вярнуць Айчыне незалежнасць, але гэтыя мары не спраўдзіліся. Праект аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага, складзены Агінскім разам з аднадумцамі, застаўся нязДзейсненым. Супраць яго выступіла расейскае дваранства, а неўзабаве пачалася вайна 1812 года.

Пазней Агінскі вырашыў назаўсёды пакінуць родныя мясціны. Ён не хацеў жыць у паняволеным расейцамі краі. У Вільні ды па ўсім былым Вялікім Княстве царская жандары арыштоўвалі сяброў і аднадумцаў Міхала Клеафаса. Небяспека навісла і над самім гаспадаром Залесся. Якраз у той трывожны час і быў створаны шчымлівы паланез «Развітанне з Айчынай», у якім адлюстраваліся надзеі і смутак аўтара.

Паданне апавядае, што ў свой апошні дзень у «Паўночных Афінах» Міхал Клеафас сеў за фартэпіяна і напісаў на закапаным слязьмі нотным аркушы музыку, якая зрабіла ягонае імя неўміручым. Потым ён ускочыў у карэту, і толькі тады, калі ад'ехаў вельмі далёка, спахапіўся, што забыў ноты. Але цудоўная мелодыя ўжо ніколі не пакідала памяці кампазітара.

Апошнія гады Агінскі самотна жыў у італьянскім горадзе Фларэнцыі. Ён перагортваў у памяці старонкі свайго багатага на падзеі жыцця і пісаў успаміны. Фларэнтыйцы ўшанавалі выдатнага сына Літвы-Беларусі, пахаваўшы яго ў храме Санта Крочэ побач са знакамітымі італьянцамі: вучоным Галілео Галілеем, мастаком Мікеланджэла Буанароці і кампазітарам Джаакіна Расіні.

Сёння на фларэнтыйскіх вуліцах падарожнік з Беларусі можа адшукаць дом, дзе завяршыўся зямны шлях Міхала Клеафаса Агінскага. Там усталяваная мемарыяльная дошка з надпісам на беларускай і італьянскай мовах. Копія гэтай дошкі знаходзіцца на будынку музычнай вучэльні імя Агінскага ў блізкім ад Залесся горадзе Маладзечна. Каля вучэльні вас сустрэне бронзавы Міхал Клеафас. Побач з помнікам палітыку, паўстанскаму правадыру і кампазітару ў душы нязменна пачынае гучаць знакаміты паланез.

«Паўночныя Афіны» ў наш час адноўленыя і сустракаюць тысячы турыстаў з розных краін. У землякоў Агінскага і гасцей Залесся вельмі папулярныя балі, якія адбываюцца ў маёнтку некалькі разоў на год. Там можна даведацца пра бальны этыкет, навучыцца выконваць танцы эпохі Міхала Клеафаса, узяць удзел у конкурсах масак і дабрачынных аўкцыёнах. Балі ладзяцца таксама для юных дам і кавалераў.

## ПРАФЕСАРЫ БАБРОЎСКІ І ДАНІЛОВІЧ

Царскія ўлады старанна знішчалі памяць пра незалежнае Вялікае Княства Літоўскае. У Расею вывозілі летапісы, гістарычныя дакументы і цэлыя бібліятэкі. Беларусаў хацелі пераканаць, што яны з расейцамі — адзін народ з адзінай гісторыяй. Рашуча пярэчылі гэтаму адукаваныя людзі і найперш вядомыя вучоныя.Сярод іх вылучаліся прафесары Віленскага ўніверсітэта Міхал Баброўскі ды Ігнат Даніловіч. Яны казалі ў лекцыях і пісалі ў сваіх кнігах, што беларусы — асобны самастойны народ з найбагацейшай спадчынай. Вучоныя выступалі за аднаўленне Вялікага Княства і за тое, каб беларуская мова зноў была ў ім дзяржаўнай. Дзякуючы Баброўскаму з Даніловічам у навуцы ўзнік новы кірунак — беларусазнаўства. Герояў нашага апавядання заслужана лічаць пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэння.

### Замест вуды — кніга

Малая радзіма Міхала Баброўскага — вёска Вулька недалёка ад Бельска (цяпер яна ў Падляшскім ваяводстве Польшчы). Бацькі і шматлікія сваякі святкавалі нараджэнне хлопчыка ў 1785 годзе. Міхасёў бацька быў беларускім вуніяцкім святаром. Ад яго сын пераняў любасць да кніг і цікавасць да мінуўшчыны роднага краю. У той час, як аднагодкі бавілі вольны час з вудамі на беразе сажалкі, Міхась часта аддаваў перавагу новай кнізе. Хлопчык уладкоўваўся з ёю пад улюбёнай старой грушай каля бацькоўскага дома. Там ніхто не замінаў перагортваць старонку за старонкай і марыць пра будучыя кнігі, якія напіша ён сам.

Начытаны з малых гадоў Міхась добра вучыўся ў царкоўнай школе вёскі Кляшчэлі, а потым у вучэльні манахаў-піяраў у Дарагічыне. Беластоцкую гімназію ён скончыў з срэбным медалём і рэкамендацыяй на далейшае навучанне ў Галоўнай духоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце. Яшчэ семінарыстам Міхал атрымаў навуковую ступень магістра філалогіі, а крыху пазней стаў магістрам багаслоўя і філасофіі.

Неўзабаве малады святар Баброўскі ўжо выкладаў у духоўнай семінарыі і плённа займаўся навукай. Дзеля ўдасканалення ведаў кіраўніцтва Віленскага ўніверсітэта накіравала таленавітага юнака ў падарожжа па навуковых і духоўных цэнтрах Еўропы.

### Вена, Рым, Парыж, Супрасль

За час замежнай вандроўкі Баброўскі наведаў Аўстрыю, Італію, Францыю, Нямеччыну... Малады беларус слухаў у замежжы лекцыі знакамітых даследчыкаў у розных галінах навукі, наведваў заняткі ў Сарбонскім універсітэце ў Парыжы. Асабліва грунтоўна Міхал займаўся славянскімі, усходнімі і старажытнымі мовамі, літаратуразнаўствам, гісторыяй і археалогіяй.

Баброўскага можна было сустрэць у бібліятэках Вены і Фларэнцыі, Балоньі ды Парыжа. Пасяліўшыся на нейкі час у Рыме, ён пазнаёміўся са скарбамі мастацкіх і літаратурных калекцый Ватыкана. За навуковае апісанне кніг Ватыканскай бібліятэкі, выдадзеных на кірыліцы і глаголіцы, айцец Міхал заслужыў пахвалу самога папы рымскага. У Венецыі Баброўскі набыў некалькі старадаўніх славянскіх кніг і запачаткаваў сваю бібліятэку кніг па славістыцы і багаслоўю.

Вучоны з Беларусі завітаў на землі невялікага заходнеславянскага народа — лужыцкіх сербаў, а таксама браў удзел у з'ездзе славістаў у харвацкім горадзе Задары. Запрашэнне на з'езд ён атрымаў не выпадкова, бо на той час ужо добра валодаў харвацкай мовай, быў




**Перад вамі — маёнтак Міхала Клеафаса Агінскага, які знаходзіўся ў Залессі паблізу Смаргоні. Гаспадар ператварыў яго ў сапраўдную культурную сталіцу гэтага краю. На святы ў Залессі збіралася да трох тысяч гасцей. Для іх ладзілі канцэрты з удзелам гаспадара, конныя забавы і спаборніцтвы, карнавалы, запускалі паветраныя балоны-мангальфьеры. Перад вамі падзеі балю, прымеркаванага да чарговых угодкаў вызвольнага паўстання на чале з нашым суайчыннікам Тадэвушам Касцюшкам. У наш час маёнтак Міхала Клеафаса Агінскага адноўлены і зноў ператвараецца ў значны культурны цэнтр Беларусі.**

# незалежнасць»

знаёмы з харвацкімі і сербскімі пісьменнікамі, ведаў літаратуру, традыцыі і звычаі паўднёваславянскіх народаў.

У Чэхіі Бабро ўскі блізка пазнаёміўся з славутым славістам і таленавітым паэтам Вацлавам Ганкам. Прафесар Ганка быў у ліку вучоных, што распачалі ў родным краі барацьбу супроць засілля нямецкай мовы і за адраджэнне чэшскай культуры. Беларускі навуковец уважліва вывучаў досвед братоў-чэхаў, бо разумеў, што такое самае змаганне чакае і ягоны паняволены расейцамі народ.

На працягу ўсяго еўрапейскага падарожжа Бабро ўскі вёў дзённік і навуковыя нататкі, якія дасылаў на радзіму ў газеты і часопісы. Паколькі ён меў і літаратурны талент, ён мог ганарыцца шматлікімі чытачамі.

Наш вучоны вярнуўся на родную зямлю толькі праз пяць гадоў. І тут — як узнагарода — яго адразу чакала выдатнае адкрыццё. У кнігазборы манастыра ў Супраслі, што паблізу Беластока, Бабро ўскі знайшоў забыты Супраслеўскі летапіс — надзвычай каштоўны для гісторыкаў і моваязнаўцаў помнік старажытнага беларускага пісьменства.

### Вяртанне Скарыны

У бібліятэцы таго самага Супраслеўскага манастыра Міхал часта працаваў яшчэ гімназістам. Там яму ў рукі ўпершыню і патрапілі кнігі Францішка Скарыны, якія ўразілі юнака сваёй моваю і мастацкай прыгажосцю.

У вандраваннях па Еўропе ён сустракаў скарынаўскія выданні ў розных кнігазборах. Схіляючыся над старонкамі кніг першадрукара і выдатнага асветніка, наш навуковец адчуваў гонар за выдатны плён працы земляка. Міхал наведаў Падую з яе славутым універсітэтам, дзе Скарына атрымаў навуковую ступень доктара «лекарскіх навук», і Прагу, дзе знакаміты палачанін распачаў выдавецкую дзейнасць. З вялікім хваляваннем Бабро ўскі хадзіў па тых самых вуліцах, наведваў храмы і аўдыторыі, што памяталі Францішка з слаўнага горада Полацка.

Вучонаму адкрылася веліч Скарыны, які надрукаваў чацвёртую ў хрысціянскім свеце Біблію на жывой мове і гэтым увёў беларусаў-ліцьвінаў у сям'ю перадавых еўрапейскіх народаў. Бабро ўскі лічыў, што беларуская мова павінна вярнуцца ў шырокі ўжытак, бо толькі з родным словам на вуснах беларусы змогуць напоўніцу раскрыць свае творчыя сілы.

Глыбокімі даследаваннямі Скарынавай спадчыны Міхал Бабро ўскі нанова адкрыў для суайчыннікаў і для ўсяго свету імя беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, духоўнага волата той эпохі, якую называюць еўрапейскім Адраджэннем. Менавіта Бабро ўскі быў першым, хто назваў мову Скарыны беларускай.

Мы называем прафесара Бабро ўскага першым беларускім скарыназнаўцам. Звесткі пра Скарыну ён збіраў усё жыццё і ўключыў у кнігу «Славянскія друкарні ў Літве». Але гэтая кніга так і засталася ненадрукаванай і дагэтуль не знойдзеная. У царскай імперыі на такія навуковыя працы глядзелі падазрона, бо яны нагадвалі паняволеным беларусам пра былую незалежнасць.

### З прафесараў — у вясковыя святары

Каланіяльныя расейскія ўлады пільна сачылі за вучонымі, якіх любіла і шанавала вальналюбная ліцьвінская моладзь. У 1824 годзе Бабро ўскага абвінавацілі ў падтрымцы таемнага студэнцкага таварыства філаматаў. Як і астатнім «недабранадзейным» выкладчыкам Віленскага ўніверсітэта, Міхалу Бабро ўскаму забаранілі чытаць лекцыі. Вучонага адарвалі ад улюбёнай справы і выслалі ў Жыровіцкі базыльянскі манастыр.

У прафесара знайшліся ўплывовыя заступнікі, і праз два гады ён вярнуўся ва ўніверсітэт. Але неўзабаве грымнула вызвольнае паўстанне 1831 года. У збройным змаганні брала ўдзел шмат студэнтаў і выкладчыкаў Віленскага ўніверсітэта. Каб адпомсціць патрыётам, цар загадаў зачыніць універсітэт.

Бабро ўскі быў ужо аўтарытэтным еўрапейскім вучоным, найперш у галіне славістыкі. Каланізатары ведалі, што прафесар — сябар навуковых таварыстваў у Парыжы, Лондане і Маскве, а таксама Археалагічнай акадэміі ў Рыме. Ён меў надзвычай багатую навуковую бібліятэку з некалькіх тысячаў тамоў і валодаў сямнаццаццю мовамі, у тым ліку арабскай. Нягледзячы на гэта, Міхала Бабро ўскага, выслалі ў мястэчка Шарашова на Пружаншчыне. Тут ён служыў святаром, але не пакідаў заняткаў навукай. Свае казані ў царкве айцец Міхал заўсёды прамаўляў па-беларуску, чым здабыў вялікую павагу ў вернікаў.

Яшчэ адным клопатам вучонага зрабілася выхаванне пляменніка Паўла. Дзядзька Міхал замяніў яму рана памерлага бацьку і стаў першым настаўнікам. Ён адкрыў хлопчыку багацце беларускай мовы і дзівосны свет нашай гісторыі.

Павел скончыў вайсковую акадэмію, займаў высокія пасады, але адначасова займаўся даследчыцкай працай. Усё жыццё з ім заставалася выхаваная дзядзькам-прафесарам глыбокая павага да мінуўшчыны роднага краю. Бабро ўскі-малодшы вывучаў беларускія летапісы і гісторыю Вуніяцкай царквы, напісаў краязнаўчыя нарысы пра Горадню, Слонім і Зэльву. З удзячнасцю ён даследаваў жыццё і дзейнасць свайго дзядзькі, які разам з аднадумцамі стварыў падмурак будучага беларускага адраджэння.

### Магістр права і сакратар губернатара

Ігнат Даніловіч, як і Міхал Бабро ўскі, нарадзіўся ў сям'і вуніяцкага святара-беларуса на Беласточчыне. Родная вёска будучага вучонага — Грыневічы — уваходзіла ў Бельскі павет і цяпер таксама знаходзіцца ў Польшчы. Даніловіч прыйшоў на свет у 1788 годзе, калі радзіма нашых продкаў — Вялікае Княства Літоўскае — яшчэ захоўвала незалежнасць, хоць усходняя Беларусь у выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай ужо была захопленая Расеяй.

Вучыцца Ігнату давялося ўжо ў Расейскай імперыі: спачатку ў школе манахаў-піяраў у Ломжы, потым у Беластоцкай гімназіі ды на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Разам з дыпломам пра вышэйшую адукацыю здольны юнак атрымаў навуковую ступень магістра права. Гэта значыць, што ён з маладых гадоў палённа займаўся вывучэннем законаў. На шляху да вяршыняў навукі магістру павінна было дапамагчы ягонае валоданне беларускай, польскай, лацінскай, нямецкай, французскай і расейскай мовамі.

У сям'і Даніловічаў жыла надзея на вызваленне Айчыны ад расейскага прыгнёту. Гэтыя спадзяванні тады былі звязаныя з французскім імператарам Напалеонам Банапартам. Таму не дзіва, што ў 1812 годзе, калі на некалькі месяцаў на вызваленых беларускіх землях было адноўленае Вялікае Княства Літоўскае, Ігнат Даніловіч стаў сакратаром прызначанага Напалеонам губернатара Беластоцкай вобласці.

### Даследчык Статутаў

Ігнат Даніловіч чытаў у Віленскім універсітэце курс лекцый, прысвечаных старадаўнім ліцьвінскім законам. Ён дасканала вывучыў наш першы Статут, зацверджаны вялікім князем Казімірам Ягайлавічам у 1468 годзе, а таксама ўсе тры наступныя Статуты Вялікага Княства Літоўскага.З прафесарскай катэдры і ў навуковых працах Даніловіч падкрэсліваў, што продкі здаўна мелі выдатна распрацаваныя законы, якія бралі за прыклад іншыя народы.

Самым дасканалым зборам законаў у эпоху еўрапейскага Адраджэння і доўгі час пасля яе быў напісаны і выдадзены на дзяржаўнай беларускай мове Статут Вялікага Княства 1588 года. Адным з першых у гістарычнай і юрыдычнай навуцы гэтую думку выказаў прафесар Даніловіч. Ён смела сцвярджаў, што беларусы-ліцьвіны мусяць жыць паводле ўласных законаў і не хаваў мары зноў зрабіць мову Статута дзяржаўнай моваю адроджанай незалежнай краіны.

Студэнты ведалі, што ў пошуках дакументаў па гісторыі Літвы-Беларусі прафесар, не шкадуючы сваіх грошай, часта выпраўляецца ў архіўныя сховішчы Варшавы, Пецярбурга і Масквы, куды былі вывезеныя нашы нацыянальныя скарбы. Выхаванцы Даніловіча нярэдка і самі прыносілі яму старадаўнія рукапісы, знойдзеныя на вакацыях у бацькоўскіх або ў царкоўных і манастырскіх архівах.

### Помста каланізатараў

Ігнат Даніловіч адкрыта выступаў за тое, каб усе былі роўныя перад законам, каб улады далі людзям свабоду слова і думкі. Ён заклікаў вызваліць сялянаў ад прыгоннага права. Прафесар смела згадваў Канстытуцыю Рэчы Паспалітай, знішчаную Расеяй. Універсітэцкія лекцыі Даніловіча часта сканчваліся гучнымі воплескамі студэнтаў.

Патрыятычная дзейнасць прафесара хутка зрабілася вядомай расейскім уладам. Як і прафесар Міхал Бабро ўскі, у 1824 годзе Даніловіч быў звольнены з Віленскага ўніверсітэта за сувязь з таварыствам філаматаў і «шкодны ўплыў на моладзь». (У ліку тых, хто зазнаў гэты ўплыў, — першы беларускі фальклярыст філамат Ян Чачот.) Каб зламаць вучонага і перашкодзіць ягоным даследаванням, Ігнату Даніловічу забаранілі жыць у беларускіх губернях.

Прафесара пераводзілі з Харкава ў Кіеў, адтуль у Пецярбург, потым зноў у Кіеў, а адтуль у Маскву. Яму загадвалі выкладаць то на адной, то на другой катэдры. Гэта забірала шмат сілаў і моцна падрывала здароўе, але не магло перайначыць мэтанакіраванага характару Даніловіча.

### 2500 дакументаў

Апынуўшыся ў неспрыяльных умовах, не маючы магчымасці вярнуцца на радзіму, Ігнат Даніловіч не здаўся і працягваў навуковую і выдавецкую працу. Ён надрукаваў Статут вялікага князя Казіміра і некалькі беларускіх летапісаў, падрыхтаваў да выдання Статут 1529 года. Прафесар-выгнанец выдаў кнігу дыпламатычных дакументаў з Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага — архіва вялікакняскай канцылярыі. Высокую адзнаку ў навуковым свеце атрымалі ягоныя артыкулы пра ліцвінскія летапісы і хронікі, пра адукацыю на старажытных славянскіх землях.

Шмат працаў Даніловіча пабачыла свет ужо тады, калі зямны шлях выдатнага знаўцы нашай старасвеччыны завяршыўся. Сярод іх была двухтомная «Скарбніца грамат». У ёй вучоны сабраў і апісаў 2500 гістарычных дакументаў ад першых звестак пра нашыя землі ў старажытных гісторыкаў Герадота і Страбона да часоў Люблінскай вуніі.

***

Праміне некалькі дзесяцігоддзяў, і служэнне Ігната Даніловіча ды Міхала Бабро ўскага беларускай справе прагнуць сотні іхніх паслядоўнікаў.

**Малюнкі Паўла Татарнікава**




**На гэтай панараме вы бачыце нашых выдатных вучоных, прафесараў Віленскага ўніверсітэта Міхала Бабро ўскага ды Ігната Даніловіча пад час навуковай экспедыцыі ў старажытны Супраслеўскі манастыр пад Беластокам. Менавіта там яны зрабілі шэраг адкрыццяў, надзвычай важных для адраджэння беларускай культуры. У манастырскай бібліятэцы быў знойдзены Супраслеўскі рукапіс — самая даўняя (поруч з Тураўскім Евангеллем) рукапісная кніга Беларусі. Справа на малюнку — царква Звеставання Супраслеўскага манастыра (цяпер у Падляшскім ваяводстве Польшчы).**



Фота www.junona.pro

# Паміж прабелаў



Віктар СЛІНКА

***

*Мы можам*
*Не толькі*
*Памерці,*
*Але й нарадзіцца*
*На адзін раз*
*Больш,*
*Чым памерці.*

***

*У паркавых шатах*
*Гнёздам утульней.*
*Ды амаль што наверсе*
*Камяніц гарадскіх*
*Вырастае малеча*
*Цікаўнейшая*
*Ды храбрэйшая*

*Удвая за астатніх.*

***

*Ты хочаш*
*Сабраць людзей,*
*Каб з зерняў*
*Сустрэчы й размовы*
*Прараслі каласы.*

*Хай жа*
*Спраўдзіцца!..*

*О, як гэта*
*Шмат, —*

*Асабліва на тле*
*Паўсядзённай самоты.*

***

*Канец канцлагеру надыдзе,*
*Калі апошні вязень сыдзе*

*З жыцця?*

***

*...Падчас*
*Ліўняў травеньскіх —*
*Ратаванне*
*З-пад абцасаў і колаў*
*Чарвякоў дажджавых,*
*Што сплываюць уніз,*
*Распростваючыся*
*Ва ўсю даўжыню.*

***

*Колер,*
*Якога няма ў палітры, —*
*Мабыць, у ім*
*Твой сэнс,*
*Кляновы*
*Кастрычнік позні?*

***

*Чуем*
*Ручай,*
*І кожны — сваё:*
*Пазвоньваюць*
*У капшуку манеты,*
*Перамаўляюцца*
*З дзяўчатамі хлопцы...*
*А мне — мацней*
*Хочацца піць.*

***

*Не хапае розуму*
*Схаваць*
*Сваю неразумнасць?..*
*Што ж,*
*Застаецца яе*

*Уздымаць над сабой.*

***

*Падняў бялюткі дым*
*гарбыль сухі,*
*Абсечанае голле ды сукі,*
*Пялёсткі, ветрам скінутыя ўніз,*
*З вакна да долу зрынуты*
*карніз,*
*Квіток трамвайны*
*па маршруце 7*
*І ўсё, што толькі ўмесціцца*
*ў кішэнь;*
*Ён лёгкі быў, таму і ўзняўся —*
*дым,*
*Зусім не абцяжараны сваім.*

*Але адносна нас такі закон*
*Наўрад ці дзейсны...*

***

*Жабруюць*
*І слова, і позірк,*
*Каб потым неяк прадаць*
*Іншым вачам ды вуснам*
*Ці абмяняць на хлеб*
*Бразготкі, —*
*Дажыць*
*Да наступнага шчасця...*

***

*Жыць з пераціснутым горлам*
*І пры гэтым трымацца горда?*

*А варухнешся, — скора*
*Пачуеш: «Паказвае нораў».*

***

*...Ад мінулага*
*Антыдот —*

*Кожны*
*Новы*
*Сонца ўзыход.*

*А святлейшае*
*Адгуло, —*
*Нам пяшчоты*
*Пральле святло.*

***

*Танная*
*Ўлада —*
*Пусціць*
*Альбо не пусціць*
*Таго,*
*Хто за дзвярыма.*

*Куды*
*Даражэй*
*Каштуе*
*Вырашаць самому,*
*Уваходзіць*
*Ці не...*

***

*Неадхільная верагоднасць*
*Патраплення*
*Стралой у стралу.*
*Ты жадала са мной*
*Прыгодаў?*
*Я якраз да цябе іду.*
*Цемру —*
*Хто рассячэ?*
*Зарніца?..*
*Спапялёная*
*Не ўпадзі:*
*Ці гатовая прытуліцца*
*Да агню*
*Сваімі*
*Грудзьмі?*

***

*Нам трэба*
*Спяшацца*
*Сваё*
*Шукаць,*
*А знайшоўшы,*
*Адкопваць марудна:*
*Раптам*
*Да нас*
*Змаглі пабываць*
*І — замінаваная*
*Рудня...*

***

*аказалася*

*табою*
*лёгка параніцца*

*меркавалася*
*ёю:*
*гэта ты*

*ранішся лёгка*

*цяпер*
*ейны клопат*

*замова*
*ўласнай*
*крыві*

***

*Балела ў грудзях, —*
*Пасля перастала.*
*Дні прамінулі,*
*Як летні дождж, —*
*Успамін*
*Аб кароткім шчасці.*
*Думка прыйшла:*
*«Ужо не баліць».*
*Ведай:*
*Гэта боль пасылае вестку*
*Перад сабой, —*
*Каб ты быў не гатовы*

*Сустрэць.*

***

*Хацеў,*
*Пакуль не ўспацеў.*

*Жадаў,*
*Пакуль не прыждаў.*

*Крапіў,*
*Пакуль не адпіў.*

***

*мінулае*
*вашае*
*нашае*
*іхнае*
*хоць*
*чыё*
*не можа быць*
*будучыняй*
*для дзяцей*
*усвядомім*
*хоць гэта ўключыўшы*
*глузд*

***

*пачынаем казаць*
*перад пачаткам размовы*

*баючыся спазніцца*

*познімся*
*перад пачаткам*

***

*Толькі не блытай*
*Падвядзенне вынікаў*
*Са звядзеннем рахункаў.*

***

*...нібы ў нябыту нам*
*пазычаныя дні*
*і мы жывем на плыткай глыбіні...*

***

*...дрэвы заходзяць у двор —*
*і застаюцца...*

***

*Уповравень стань*
*Са мною, —*
*Спусціся*
*На прыступку*
*Ці ўздыміся на дзве,*
*Каб чулі, што кажам*
*Мы,*
*А не хтосьці іншы,*
*І рабілі*
*Жаданае намі,*
*А не кімсьці яшчэ.*

***

*Пакідаць у мінулым сёння*
*Дзеля святога заўтра*
*Ці вучыцца насіць рукамі, —*
*Злучанымі, як чаша,*
*Пясок — каб ні пясчынкі,*
*Што гэтак падобна да мігу,*
*Ты не прасыпаў побач;*
*Там, дзе свае ўмацаванні*
*Узводзяць на пляжы дзеці.*

***

*Няма той ва́гі,*
*На якой узважыць,*
*Што маё сэрца*
*Для каханай значыць.*
*А як прайду*
*Сцяжыну*
*Да той вагі,*
*Пакласці сэрца*
*Ці знайду адвагі?*

***

*...Так блізка твае й мае плаўнікі*
*Варушацца: не пакінь.*
*Дзве рыбіны б'юцца ўдарам*
*адным:*
*Гарпуншчык стаў ля ракі.*

*Ты мкнешся ў празрысты*
*Струмень-агмень,*
*Дзе кожны ўдых, як апёк;*
*Ці выжыве хтосьці*
*Да перамен —*
*Правалам адтуліна між*
*рабрын, —*
*Пад чоўнам?.. Там зеўрыць змрок.*

*Хай выжыве хтосьці*
*З тваіх ікрын...*

***

*Я начаваў чатыры начы*
*У хатцы лясной без святла.*
*Выгараў нават*
*Агарак свячны,*
*Што некалькі хвіляў*
*Міргаў ля сцяны,*
*Прыткнуты да краю стала.*
*Я начаваў чатыры начы,*
*Дзе*
*Да замка не падыдуць ключы,*
*Бо*
*Не было замка...*

*Човен — вазьмі, рака.*

***

*...заззяе промнем*
*на нажы*
*мая душа*
*тваёй душы...*

***

*Словы свае сказалі.*

*А трэба, каб нехта*
*Цябе*
*Пачуў,*
*Адгукнуўся*
*Хоць бы адзін.*

*Бо*
*Які б ты ні быў,*
*Голас твой —*
*Гэта хтосьці яшчэ.*

# Вяртанне грамадзянства Мілану Кундэру?

**Як паведаміла ІА Regnum са спасылкай на AMNA, прэм'ер-міністр Чэхіі Андрэй Бабіш, выступаючы ў Францыі на ўрачыстасцях у гонар 100-годдзя з дня заканчэння Першай сусветнай вайны, заявіў, што ў Празе разглядаюць магчымасць аднаўлення чэшскага грамадзянства вядомаму пісьменніку Мілану Кундэру (якога яго пазбавілі яшчэ ў 1979 годзе).**

А. Бабіш адзначыў, што яму дакладна не вядомая сама працэдура аднаўлення грамадзянства, аднак запэўніў, што «валакіты» не чакаецца.

Выдатнаму чэшскаму пісьменніку і драматургу, які нарадзіўся ў 1929 годзе, аўтару славутага рамана «Невыносная лёгкасць быцця», цяпер 89 гадоў. Мілан Кундэра ў цяперашні час жыве ў Парыжы.

Пасля ўдзелу ў дэманстрацыях і пратэстах падчас акупацыі Чэхаславакіі савецкімі войскамі ў 1968 годзе яго пазбавілі магчымасці выкладаць, а таксама канфіскавалі з бібліятэк яго кнігі. Выдавацца яму таксама забаранілі, і публікаваць свае творы ён мог толькі за мяжой. У 1975 годзе М. Кундэру запрасіў выкладаць Рэнскі ўніверсітэт у французскай Брэтані на пасаду прафесара. Пісьменнік змушана пакінуў сваю краіну і пасяліўся ў Францыі.

Праз тры гады ў Францыі ён выпусціў зборнік гісторый і эсэ «Кніга смеху і забыцця», за якую ўлады Чэхаславакіі ў 1979 годзе і пазбавілі яго грамадзянства. Усе наступныя творы і кнігі аўтара былі забароненыя да выдання ў Чэхаславакіі. У 1981 годзе М. Кундэра прыняў французскае



грамадзянства. Напісаны ў 1990 годзе раман «Неўміручасць» стаў апошняй кнігай пісьменніка на чэшскай мове, пасля яго ён стаў пісаць на французскай.

У Чэхіі пісьменніка лічаць нацыянальным героем. У 2009 годзе ён стаў ганаровым грамадзянінам горада Брно, дзе нарадзіўся. Перыядычна пісьменнік бывае ў родных мясцінах, сустракаючыся з сябрамі, аднак робіць гэта інкогніта, пазбягае публічнасці і вядзе закрыты лад жыцця.

У 1985 годзе ў інтэрв'ю карэспандэнту выдання «The New York Times» ён заявіў, што лічыць Францыю сваёй адзінай радзімай.

# PEN America і Дональд Трамп

**Амерыканскі ПЭН-цэнтр (PEN America, літаратурны цэнтр амерыканскіх літаратараў і журналістаў) падаў у суд на кіраўніка Белага дома, сцвярджаючы, што пры ім «задыхаецца» свабода слова ў ЗША.**

Амерыканскі ПЭН-цэнтр раскрытыкаваў кіраўніка дзяржавы як хулігана, аўтакрата, выкарыстальніка мовы нянавісці і ворага свабоды выказвання. ПЭН-цэнтрам былі апублікаваныя даследаванні, арганізаваныя петыцыі і заснаваны Фонд заахвочвання свабоды прэсы.

Цяпер літаратурная і праваабарончая арганізацыя, у шэрагах якой знаходзяцца тысячы аўтараў і журналістаў, распачала больш рашучыя дзеянні: ПЭН падаў у суд на амерыканскага прэзідэнта.

У пазове, які быў пададзены ў федэральны суд Манхэтэна, PEN America сцвярджае, што «афіцыйныя дзеянні» Трампа «парушылі Першую папраўку і клятву захоўваць Канстытуцыю». ПЭН-цэнтр прывёў такія прыклады, як паведамленні пра тое, што Трамп умешваўся ў прапанаванае зліццё AT & T і CNN, і Міністэрства юстыцыі імкнулася заблакаваць гэтае зліццё з падачы прэзідэнта.

У пазове таксама згадваюцца каментары Трампа аб уладальніку сусветна вядомага выдання «Washington Post» і заснавальніку кампаніі Amazon.com Джэф Бэзос. Трамп, незадаволены артыкуламі ў «Washington Post», пагражаў антыманапольнымі дзеяннямі супраць Amazon і прапанаваў павялічыць выдаткі на дастаўку. Паводле паведамлення, ён аказаў ціск на генеральнага дырэктара ЗША Меган Брэнан, каб падвоіць стаўкі. І таму Паштовая служба ЗША прапанавала некалькі зменаў на 2019 год, сярод якіх павелічэнне кошту дастаўкі, якая наўпрост уплывае на Amazon.

У позве арганізацыі гаворыцца: «Прэзідэнт Трамп мае права Першай папраўкі і можа вольна крытыкаваць прэсу, але ён не можа свабодна выкарыстоўваць уладу і аўтарытэт урада Злучаных Штатаў, каб пакараць і задушыць яе».

# Чачэнскі «Яўгеній Анегін»

**У жыхароў Чачэнскай Рэспублікі з'явілася магчымасць чытаць адзін з самых вядомых твораў Аляксандра Пушкіна – раман «Яўгеній Анегін» – на сваёй роднай мове.**

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка і ўрада рэспублікі, у Нацыянальнай бібліятэцы імя Абузара Айдамірава прайшла прэзентацыя першага перакладу паэтычнага рамана вялікага класіка на чачэнскую мову. Яго аўтар – паэт, публіцыст і перакладчык, член Саюза пісьменнікаў РФ Хусэйн Хатаеў.

На прэзентацыі працы Х. Хатаева сабралася звыш 100 дзеячаў культуры, выкладчыкі чачэнскай і рускай моў, студэнты ВНУ і тэхнікумаў, журналісты.

Першым пераклад «Анегіна» ў трох нумарах надрукаваў літаратурна-мастацкі часопіс «Вайнах», а публікацыя кнігі «зоймецца» выдавецтва «Грозненскі рабочы».

Хусэйн Хатаеў пачаў перакладаць на чачэнскую мову знакамітую трагедыю Уільяма Шэкспіра «Гамлет».

# Акуляры Джэймса Джойса

**Паводле паведамлення нацыянальнага тэлеканала Ірландыі RTE, на аўкцыёне, які прайшоў у Кілкэні, «пайшлі» з малатка акуляры-пенснэ з футаралам, якія належалі знакамітаму ірландскаму пісьменніку Джэймсу Джойсу.**

Лот каштаваў калекцыянеру 17 тысячаў еўра. Кіраўнік аўкцыённага дома «Fonsie Mealy Auctioneers» не назваў імя пакупніка, аднак ён адзначыў, што да гэтага лота праяўлялі значную цікавасць калекцыянеры з Кітая, Японіі, Аўстраліі і ЗША. На RTE пашкадавалі, што, хутчэй за ўсё, «каштоўны прадмет ірландскай культурнай спадчыны з вялікай доляй верагоднасці апынуўся за межамі выспы».

Арганізатар таргоў адзначыў: «Гэтымі акулярамі Джойс карыстаўся ў перыяд работы над раманам «Уліс». Ён падарыў іх свайму сябру Томасу П'югу, які часта бываў у гасцях у Джойса ў Парыжы». У камплект да акуляраў Джойса ўваходзілі аздоблены аксамітам футарал, пазалочаная кліпса-трымальнік і ланцужок.

Праблемы са зрокам у будучага літаратара выявілі яшчэ ў юным узросце, а пазней дадалося запаленне сасудаў вочнага яблыка. Брат Джойса – Станіслас – часта згадваў у сваіх дзённіках аб хваробах Джэймса, якія сур'ёзна абмяжоўваюць яго літаратурную працу.



Вядома, што калі адзін са знаёмых Джойса паскардзіўся, што раман «Уліс» вельмі складана чытаць, той адказаў: «Вы не ўяўляеце сабе, як цяжка яго было пісаць». Вялікія часткі 800-старонкавага рамана, за які спачатку не хацеў брацца ніхто з выдаўцоў, Джойс перапісваў 6 разоў! Аднак яго біёграфы ўпэўненыя, што менавіта перыяды абвастрэнняў хваробы былі для літаратара самымі плённымі ў творчым плане.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы novostiliteratury.ru, «Associated Press», ІА Regnum, CNN, RTE.**

## ПРЭМІІ

# Прэмія Медычы

**У гэтым сезоне галоўны прыз французскай Прэміі Медычы (Prix Médicis) дастаўся П'еру Гійоту за «паэтычную аўтабіяграфію» – кнігу «Idiotie».**




Утворы апісваецца жыццё 18-гадовага юнака з восені 1958 года, які толькі што пакінуў сцены 9-гадовай школы-інтэрната ў Ліёне і ўступае ў дарослае жыццё, праводзіць ночы пад мастамі Парыжа і які пазней прайшоў алжырскую вайну.

Гэтую ўзнагароду стварыў 60 гадоў таму французскі паэт, празаік і драматург Жан-П'ер Жырадў, бо, на яго думку, вядомыя Ганкураўская прэмія і Гран-пры Французскай акадэміі зусім незаслужана абыходзілі сваёй увагай творчасць пісьменнікаў авангарду.

Спачатку Прэмію Медычы ўручалі прадстаўнікам школы «новага рамана», аднак пазней кола аўтараў было пашырана, але галоўная ўмова захавалася: яе ўручаюць «аўтару рамана або апавядання, імя якога яшчэ не вядома шырокаму колу чытачоў, але які валодае несумненным арыгінальным талентам».

З 1970 года ва ўзнагароды з'явілася намінацыя «Лепшы замежны твор», і Прэмію Медычы сталі ўручаць і замежным пісьменнікам, з 1985 года Prix Médicis Essai сталі ўручаць за лепшую эсэістыку.

У астатніх дзвюх намінацыях Prix Médicis былі названыя кнігі, якія ўжо заваявалі папулярнасць. Так, прэміяй Медычы ў намінацыі «Для замежных пісьменнікаў» (Prix Médicis Etranger) была ўзнагароджана амерыканская пісьменніца Рэйчэл Кушнер за раман «The Mars Room». Лаўрэатам Прэміі Медычы за лепшую эсэістыку сталі «Браты Лехман» Стэфана Масіні, кніга пра грошы, якія кіруюць светам...

# Прэмія Голдсміта

**Шатландскі паэт Робін Робертсан быў абвешчаны пераможцам брытанскай прэміі Голдсміта (Goldsmiths Prize 2018) за свой дэбютны паэтычны раман «The Long Take».**

Паэма пра ветэрана высадкі ў Нармандыі, напісаная аўтарам з дапамогай спалучэння вершаў і прозы, атрымала прыз у 10 тысяч фунтаў стэрлінгаў за наватарскую выдумку ў жанры мастацкай літаратуры.

Р. Робертсан, які атрымаў мноства ўзнагарод за свае вершы, распавядае пра гісторыю Уокера, ветэрана D-Day з посттраўматычным стрэсавым расстройствам, які пасля заканчэння Другой сусветнай вайны не можа вярнуцца дадому ў Новую Шатландыю і шукае новы спосаб жыцця ў Нью-Ёрку, Лос-Анджэлесе і Сан-Францыска.

У кнізе «The Long Take», якая патрапіла ў шорт-ліст Букераўскай прэміі-2018, чаргуюцца вольныя вершы, дзённікавыя запісы, дакументальныя тэксты з чопісаў. «The Long Take» таксама ўключае ў сябе празаічныя ўспаміны пра вывучэнне жахаў вайны, старыя манахромныя фатаграфіі і мноства шрыфтоў для прадстаўлення тага, што Уокер бачыць на знаках і ў рэкламных аб'явах.

Сам аўтар называе свой твор «апавядальным вершам», а не раманам. У інтэрв'ю выданню «Man Booker» ён сказаў: «Я хацеў кінуць выклік самому сабе і напісаць нешта ў вялікім маштабе, што магло б задаволіць многія з інтарэсаў, якія не маглі быць лёгка вырашаны ў асобных вершах: амбівалентнасць, якую я адчуваю да гарадоў, і асабліва да амерыканскіх гарадоў, у вырашальнае пасляваеннае дзесяцігоддзе – з лепшым джазам і лепшымі фільмамі».

Заснаваная ў 2013 годзе пры падтрымцы часопіса «New Statesman» Лонданскім універсітэтам Голдсміта аднайменная літаратурная прэмія закліканая «адкрываць новыя магчымасці для новай формы» ў мастацкай літаратуры. Узнагароду ўручаюць брытанскім або ірландскім аўтарам, якія апублікавалі свой твор у Вялікабрытаніі.




**Марк і Бэла Шагалы.** Фота Шэпелева

# Запаленыя свечкі

Бэла ШАГАЛ

**Бэла Розэнфельд-Шагал нарадзілася 2 снежня 1889 года ў Віцебску. Жонка мастака Марка Шагала. Вучылася ў Маскве на Вышэйшых жаночых курсах. Цікавілася літаратурай, тэатрам. Яе рысы пазнавальныя ў тварах амаль усіх намаляваных Шагалам жанчын. Памерла ў амерыканскім шпіталі 2 верасня 1944 года.**

## Лазня

Для мяне шабат пачынаецца ўжо ў чацвер вечарам.

Мама паспешліва выходзіць з крамы — яна нібы хоча вырвацца з будзённай мітусні. Я чую яе голас:

— Башка, ты дзе? Мы ідзём у лазню! Саша, ты падрыхтавала ручнікі? Хутчэй, хутчэй, няма часу!

Служанка загортвае ручнікі ў пакунак і так туга сцягвае яго, што папера рвецца. Яна надзяе на мяне паліто, галёшы і моцна завязвае капюшон, ад чаго мне робіцца цяжка дыхаць.

— Не румзай, дурнічка, — кажа яна і выцірае мне слёзы. — На дварэ траскучы мароз. Ты можаш, барані Бог, прастудзіцца. Толькі гэтага мне яшчэ не хапала!

Мы з мамай амаль употай крадземся да парадных дзвярэй, быццам ужо субота і крама зачыненая.

Маме было б няёмка ісці праз краму з ручнікамі пад пахай, няхай і запакаванымі. Там заўсёды столькі людзей — хто ведае, магчыма, давялося б затрымацца. А мы спяшаемся, бо ўжо позна. Мама цягнула да апошняга моманту.

На дварэ стаяць сані, на якіх мы паедзем. Возчык, заўсёды адзін і той жа, чакае насупраць дома: ён ведае, што мама ездзіць у лазню кожны чацвер у адзін і той жа час.

Як толькі мы аказваемся вонкі, нас, нібыта вільготнай прасцінай, агортвае сцюдзёным вечаровым снегам. Па тым, як мама трымае мяне пад зношаным футравым пакрывалам, каб я, крый Божа, не вывалілася, я адчуваю, што яна ўжо забыла пра мітусню і беганіну ў краме. Сані быццам выхапілі яе адтуль у іншае, чысцейшае, паветра, і ўнутры яе ўжо загучалі святыя малітвы, якія яна з Божай дапамогай будзе казаць увечары перад шабатам.

Ехаць недалёка. Возчык зразае дарогу і вязе нас на бераг маленькай рэчкі Віцьбы, дзе знаходзіцца габрэйская лазня. Санкі шпарка слізгочуць праз паветра, якое дрыжыць ад марозу. Бачна, як наверсе, на іншым стромым беразе, мігцяць агенькі Падола — маленькай базарнай плошчы.

Я добра яе ведаю — гандляроў, крамы, асабліва малочныя скляпкі. Перад тым, як спускацца ў тыя крамкі па лесвіцы, па мокрых і слізкіх прыступках, трэба паклікаць Бога на дапамогу. І холадна там, нібы ў магіле. Па шэрых сценах сцякае вада. У вялікім склепе гарыць адзіная лямпа з закопчаным шклом, яе святло ледзь сягае жоўтых кавалкаў масла і шырокіх міс са смятанай і амаль зусім не прабіваецца да кута, дзе раскладзеныя падобныя на дзіцячыя галоўкі гомельскія сыры.

Добра бачныя толькі высокія вагі, якія тронам узвышаюцца пасярод склепа. Іх жалезныя ланцугі доўгімі чорнымі косамі гайдаюцца ў паветры, а медныя чашы з такім гонарам прымаюць убогі харч, нібыта вяршаць правасуддзе.

Гандляры ў доўгіх засаленых уборах з грубай тканіны дзелавіта расхаджваюць па склепе. Пальцамі, якія вытыркаюцца з абрэзаных рукавіц, яны адшчыкваюць кавалачкі ад вялізных галоў масла,наліваюць малако ў збаны, кідаюць адно аднаму кругі сыру, быццам гуляюць у снежкі, і пры гэтым крычаць так, нібыта іх б'юць. Магчыма, яны так саграваюцца. Час ад часу ў задушлівым паветры чутна грубая лаянка, полымя праклёнаў успыхвае і кідаецца ад аднаго прылаўка да іншага.

— Халера на цябе! Твой тавар смярдзіць!

— Няхай я заўтрашняга дня не дачакаюся, калі хлушу!

Гандляркі пішчаць, нібы мышы ў норах. Праклёны ўспаланяюць душы, і гандляры загараюцца ад гневу, зусім як жароўні на вуліцы, каля якіх скурчыліся заматаныя ў доўгія хусткі прадаўшчыцы смажанага бобу.

Гандляры лаюцца так палка і шчыра, што робіцца нават крыху весела.

Калі мы едзем у лазню, увесь гэты гвалт сустракае нас здалёк. Вецер даносіць да нас моцнае слоўца, якое вісіць у паветры, пакуль завея не прыцісне яго да зямлі і не засыпле снегам.

Вось мы і прыехалі.

— Забярэш нас адсюль, Бог дасць, праз дзве гадзіны, — кажа мама возчыку, хаця ён ужо колькі гадоў робіць гэта і ведае, калі везці нас назад.

На ўваходзе сядзіць білецёрка, якая ва ўсіх сваіх адзежынах нагадвае стос тканіны. Спачатку яна не варушыцца. Бачныя толькі яе нос і кончыкі пальцаў. На стале побач з білетамі ляжыць марожаная садавіна: яблыкі, грушы. У бутэльцы пеніцца шызаваты квас — мабыць, замерз.

Падобна, што нашае дыханне адагрae заледзянелыя вусны білецёркі: яны павольна расціскаюцца і расцягваюцца ў стылую ўсмешку:

— Задубееш тут сядзець цэлы дзень, — кажа яна і пацішу адтае, — дзьме адусюль. Можна акалець, пакуль дачакаешся хоць якую чалавечую істоту.

Мама спачувальна падбадзёрвае яе і купляе мне яблык і грушу.

Мы адчыняем нізкія дзверы, якія вядуць у лазню. Бразганне засаўкі ўспуджвае з лавак дзвюх ці трох голых цётак, прыкрытых хусцінамі. Цяпер яны раяцца вакол нас і гудуць, нібы мухі:

— Вечар добры, Альташка, вечар добры! Што так позна? Як маешся, Альта? Дзеткі не хварэюць? А ты як, Башынька? — яны ласкава паляпваюць мяне з усіх бакоў. — Ды ты расцеш як на дражджах, цьфу-цьфу, беражыся нядобрага вока!

Яны недарма чакалі, яны зноў бадзёрыя. Хусціны цёмнымі крыламі ападаюць долу, і я дзіўлюся на іх белыя целы. Усё вакол робіцца святлейшым і чысцейшым

У гэтым гарачым прылазніку, дзе вільготнае паветра змешваецца са скразняком звонку, я ледзь пазнаю лазеншчыц, хаця яны заўсёды адны і тыя ж. Кожны наступны чацвер яны здаюцца мне ўсё больш старымі і брыдкімі.

Маладзейшая абхоплівае мяне кашчавымі рукамі, ад яе пахне спляснелай хусцінай.

— Холадна, так? Тады пачнём. Расшпілі сукенку, кінем яе ў куфар. Давай, падымі нагу! — яна гаворыць са мной як з канём.

Не паспяваю азірнуцца, як мае боты разам са скручанымі панчохамі ляцяць у чорную скрыню, якая ўжо пада мной. Седзячы на вечку, я так хутка ўздымаюся і падаю разам з ім, што не паспяваю заўважыць, што робіцца ў скрыні, куды, нібы ў змрочную яму, правальваюцца мае апранахі.

Праз шчыліны ў пакрытых ледзянымі ўзорамі, залепленых снегам вокнах дзьме вецер. Я трасуся ад холаду. Лазеншчыца бярэ прасціну і загортвае мяне.

— Пачакай жа трошкі. Ціха, ціха, зараз будзе цяплей. Усё, хадзі ў лазню.

Я агаломшаная. Нібы асуджаную на смерць курыцу, яна валачэ мяне да дзвярэй, сціснуўшы жалезнымі абцугамі рук.

— Глядзі толькі не ўпадзі, Божа ж ты мой! Асцярожна, Башынька, тут слізка.

Ля дзвярэй лазні ў мяне займае дыханне. Амаль непрытомную, мяне запіхваюць усярэдзіну. Скрозь гарачую пару я амаль нічога не бачу. На кручку над дзвярыма вісіць невялікая бляшаная лямпа. Шкло ў ёй не падыходзіць да рамкі, хістаецца і звініць, калі дзверы адчыняюць.

Я спыняюся і баюся паварушыцца. Падлога мокрая і гладкая, вада крапае на ногі, крапае са столі, са сцен, быццам увесь пакой абліваецца потам.

Лазеншчыца бярэ цэбар з вадой і аблівае лаўку, каб я магла на яе сесці. Ёй няма калі сказаць мне нават слова. Яе бліскучая худая спіна круціцца каля мяне і выгінаецца, як кашэчы хвост.

У цэбрах побач са мной булькоча вар, гарачая пара пячэ мне твар. Але цёплая лаўка супакойвае мяне, і я асцярожна апускаю ступні ў цэбар з цеплаватай вадой. Лазеншчыца падыходзіць да мяне ўшчыльную. Абвіслыя шары яе грудзей боўтаюцца перад маімі вачыма, надзьмуты барабанам жывот упіраецца ў мой нос.

Цяпер я сяджу, заціснутая паміж ёй і цэбрамі. Немагчыма нават паварушыцца.

Жанчына запускае шурпатыя пальцы ў мае доўгія валасы. Бярэ кавалак жукаўскага мыла і пачынае церці ім маю галаву, водзіць ім туды-сюды, быццам хоча яе адпрасаваць. Мокрыя валасы аблепліваюць мяне. У галаве круціцца… Я не магу заплакаць, глытаю слёзы і змываю, змываю куслівую мыльную пену, якая вылазе вочы, лезе ў вушы і рот. Асляплая, я абмакваю пальцы ў халоднай вадзе ў цэбры побач са мной. Толькі пасля таго, як валасы спалосквацьць, я адраджаюся. Пяшчотныя кроплі чыстай вады супакойваюць вочы. Я пераводжу дух, набіраюся смеласці і расплюшчваю іх.

Тут я чую, што рыпяць дзверы, і на парозе з'яўляецца мама — голая і белая.

Яна адразу ж знікае ў воблаку гарачай пары. Дзве лазеншчыцы падтрымліваюць яе з бакоў. На грудзях і жыватах жанчын праступае пот. Па закладзеных за вушы валасах сцякаюць кропелькі.

Мама ціха і сарамліва спыняецца каля дзвярэй. Лазеншчыцы кідаюцца да цэбраў, на ўсю моц адкрываюць краны і абмываюць для яе лаву.

Мама спакойна сядае, і яе поўнае цела займае лаву цалкам.

Я настолькі знясіленая мыццём і расціраннем, што амаль не бачу маму. Яна саромеецца мяне і хавае позірк, калі я гляджу на яе валасы. Замест звычайнага шчыльна завітага парыка бачныя яе ўласныя рэдкія валасы. Яны паступова павыпадалі — гадамі без паветра, прыдушаныя цяжкім парыком. Мне робіцца зусім сумна, сілы пакідаюць мяне, і я без супраціўлення дазваляю мыць сябе далей.

Лазеншчыца нібыта завалодвае не толькі маім целам, але і душой. Яна кладзе мяне на лаву як кавалак цеста, месіць і шчыпае, быццам фармуе з мяне бохан хлеба.

Я пераварочваюся на жывот. Раптам яна так моцна пляскае мне па спіне, што я падскокваю.

— Ну што, Башынька, як табе? Добра, га? — да лазеншчыцы раптам вяртаецца здольнасць гаварыць. — Глядзі, як пачырванела! Адно задавальненне ўшчыкнуць такую!

Замучаная да паўсмерці, я толькі і чакаю, калі яна адчэпіцца. Тут мяне скаланула: ззаду, з-за плячэй, на мяне абрынаецца вадаспад. Я цалкам знікаю ў струменях вады, яны падхопліваюць мяне і кудысьці нясуць. Лазеншчыца вылівае на мяне цэбар, мне робіцца зусім горача, і я з прыемнасцю адчуваю, што таю, бы мяккі воск.

— Во-о-ось та-ак! — лазеншчыца з палёгкай уздыхае і мокрай рукой выцірае сабе нос. — Цяпер ты бліскучая не горш за брыльянт, Башынька. На здароўе, маё дзіцятка!

Яна аглядвае мяне сваім шкляным, размытым вадой позіркам і хуценька заварочвае ў цёплую прасціну. Ей, канечне ж, і самой хочацца выцерціся, але яна павольна абхоплівае мяне абедзвюма рукамі, быццам я шабатняя свечка, якую яна мусіць блаславіць.

Я здаля назіраю за тым, што адбываецца з мамай. Безумоўна, яе таксама намылілі і надраілі, і, вядома, яна таксама парадавалася цёпламу абліванню. Але з ёй усё не так хутка, як са мной. Пасля мыцця лазеншчыца падсоўвае маме нізкі ўслончык і прысаджваецца ля яе ног. Яна ставіць маленькі латунны падсвечнік на скрынку, запальвае агенёк, падпраўляе

кнот і пачынае плакацца маме на цяжкае жыццё. Яе спіна згінаецца так нізка, быццам усе турботы леглі на яе і прыціскаюць галаву да маміных ступняў.

— Няхай Усёмагутны злітуецца і пазбавіць нас турбот, — кажа яна і ўздымае галаву. — Хай будзе так, Гасподзь у небе.

І, нібыта каб забыць пра нягоды, яна пачынае калупацца з мамінымі пальцамі. Пасля кожнага блаславення, якое яна мармыча перад тым, як зрэзаць пазногаць, свечка, здаецца, успыхвае ярчэй, а душа лазеншчыцы трошкі яснее. Мама назірае, што яна робіць з яе пальцамі, і цярпліва слухае балбатню. Святло свечкі перад імі ясным арэолам выхоплівае абедзвюх жанчын са змроку. Два схіленыя адзін да аднаго белыя твары свецяцца, нібыта падрыхтаваныя да святога дзейства.

Апрацаваўшы маміны пазногці, старая лазеншчыца ўздымае галаву і ціха прамаўляе:

— Альта, цяпер пойдзем у мікву.

У мамы перахоплівае дыханне, быццам старая прагаварылася пра нейкую таямніцу. Абедзве жанчыны павольна ўздымаюцца, выпростваюцца і цяжка ўздыхаюць, нібыта мусяць увайсці ў святая святых. Абрысы іх белых постацяў размываюцца ў цемры. Я заўсёды пабойваюся дарогі да міквы. Трэба мінуць парылку, дзе на доўгіх лавах пакутуюць няшчасныя істоты. Іх хвошчуць бліскучымі бярозавымі венікамі, яны стогнуць, быццам іх смажаць на распаленых вуглях. Жар забіраецца мне ў рот, сціскае сэрца. «Гэта пекла для тых, хто шмат грашыў», — кажу я сабе і хуценька бягу за мамай у па-турэмнаму цёмны пакой, дзе знаходзіцца міква.

Старая лазеншчыца стаіць на маленькіх сходах, трымае запаленую свечку і льняную прасціну.

Мама — мне страшна за яе — моўчкі спускаецца па слізкіх прыступках усё глыбей у ваду, пакуль тая не даходзіць да шыі.

Калі старая кажа блаславенне, мама ўздрыгвае, нібы ад прысуду. Яна заплюшчвае вочы, затыкае нос і, быццам назаўсёды, знікае пад вадой. Божа, беражы!

— Ко-о-ошэр! — прароцкім голасам выкрыквае старая.

Мяне перасмыкае як ад удару маланкі, я дрыжу і чакаю. Вось зараз з-пад чорных столевых балак блісне і ўсіх нас заб'е. А можа, з каменных сцен пальецца вада, і мы ўсе захлынёмся ў патопе.

— Ко-о-ошэр! — другі раз крычыць старая. Дзе ж мама? Я больш не чую ніводнага ўсплёску.

Тут раптам вада расступаецца, і з глыбіні паказваецца маміна галава. З мамы цячэ, яна абтрасаецца, быццам узнялася з марскога дна. Не магу дачакацца, калі старая скончыць крычаць, каб ёй больш не трэба было ныраць. Яна ж ужо даўно стамілася. З яе валасоў, з вушэй збягае вада.

— На здароўе і жывіце доўга, Альта.

Цяпер ужо і старая лазеншчыца ўсміхаецца. Яе сухарлявыя рукі высока ўздымаюць льняную прасціну. Мама загортваецца ў яе, нібы ў беласнежныя крылы, і ўсміхаецца, як анёл.

Ад мяне, апранутай, яшчэ ідзе пара. Я чакаю маму і жую яблык, які паспеў раскіснуць.

Яна ўваходзіць і адразу пачынае мяне прыспешваць, нібыта толькі цяпер успомніла, што яшчэ працоўны дзень і крама адчыненая.

Святасць і цяпло лазні злятаюць з мамы, і яна нецярпліва апранаецца.

Жанчыны падаюць ёй адну адзежыну за адной, потым боты, і ўвесь час расказваюць пра сваю нядолю, быццам баяцца, што мама сыйдзе да наступнага чацвярга, а яны не паспеюць аблегчыць душу. Дрыготкімі рукамі яны загортваюць бялізну ў паперу, пасля запакоўваюць і мяне. Апухлая ад гарачыні, я ледзь магу паварушыцца.

Мама раздае чаявыя і зноў выслухоўвае доўгія пажаданні дабра, з якімі нас выпраўляюць дадому.

— На здароўе, Альта! Бог дасць, да наступнага чацвярга. Шчаслівай дарогі! Будзь здаровая, Башынька, бывай!

Яны перакрыкваюць адна адну і таропка абмотваюцца хусткамі.

Дзверы быццам самі сабой адчыняюцца. На імгненне мы застываем на парозе. Божа мой, якая халадэча! З цёмнага неба падае снег. Сняжынкі блішчаць, як зоркі.

Можа, цяпер дзень, а не ноч? Перад вачыма — бялёсая мітусня, і я не адчуваю нічога, апроч холаду.

Возчык і ягоны каняка ператварыліся ў снежныя пагоркі. Яны замерзлі?

— Лёгкай пары! — кажа возчык і ўсміхаецца. Яго ніжняя губа аддзяляецца ад заледзянелых вусаў, а з кусцістых броваў падаюць камякі снегу. Конік таксама ажывае і ржэ.

— Шчаслівай дабрацца! — усё яшчэ крычаць нам з дзвярэй лазні.

Санкі рушацца з месца. «Гоп, гоп!» — гаркае возчык і сцябае лядашчага каня бізуном.

Дабраўшыся дамоў, мама прабягае скрозь дзверы яшчэ хутчэй, чым пры ад'ездзе, і адразу адкладае пакунак з бялізнай. Пахі дому, крамы б'юць нам у твар.

— Бог ведае, што тут без мяне нарабілі! — з вінаватым выглядам мама спалохваецца расчырванелы твар і спяшаецца ў краму.

Цяпер мне шкада, што гарачая лазня так хутка скончылася.

## Настаўнік

Стары настаўнік, які прыходзіць нас вучыць, ценем шмыгае праз двор. У мяне ёкае сэрца.

Худы і мізэрны, ён прыціскаецца да сцен, быццам баіцца кагосьці зачапіць. Зношаны цемнавата-зялёны палітон ледзьве прыкрывае ягоныя плечы, рэдкая казліная бародка панура звісае.

— Ну што, Башынька? — выціскае ён з сябе ўсмешку. ¬— Ты добра вывучыла алфавіт? Ідзі, пакліч Абрамеле. Сёння мы старанна папрацуем, праўда ж?

Я бягу ў дом і крычу:

— Абраша, Абраша, настаўнік прыйшоў!

Мой брат, мабыць, убачыў настаўніка раней за мяне. З пакойчыка, у якім заўсёды зачыняецца, калі ў нас пачынаюцца заняткі, ён шэпча:

— Давай занясі яму шклянку чаю і варэнне!

— Але ж ты прыйдзеш? — ціха кажу я ў замочную шчыліну. Я не магу ўвесь час сядзець сам-насам з настаўнікам.

— Ідзі ўжо, хутка прыйду. Скажы, што ў мяне баліць жывот.

Настаўнік сядае за стол. Ён пазяхае, працірае акуляры, смаркаецца і бярэ панюшку табакі. Потым раскрывае кнігу, якую заўсёды носіць з сабой.

— Дзе ж вы, дзеткі? — ён азіраецца, трымаючы палец у кнізе.

— Я тут! Можа, хочаце шклянку чаю? — я стаўлю побач з кнігай варэнне і гарачы чай.

Ад яго ўздымаецца воблачка пары і затуманьвае акуляры настаўніка, пах вішнёвага варэння казыча яму нос. Настаўнік робіць глыток, другі. Яму робіцца горача, але ён не ставіць шклянку, пакуль не выпівае ўсё.

— Хочаце яшчэ чаю? — не дачакаўшыся адказу, я хапаю шклянку і выбягаю з пакоя.

— Дык дзе Абрамеле? Яго няма дома? — і настаўнік просіць мяне больш не насіць чай.

— Добра, рэбе. Я паклічу яго. Ён казаў, што зараз прыйдзе.

— Абраша! — я стукаю ў дзверы. — Настаўнік чакае! Ідзі ж урэшце!

— Ты давала яму чай з варэннем?

— Так, ужо некалькі шклянак, і варэнне яму абрыдла. Мне страшна. Зараз жа выходзь!

— Не магу. Цяпер у мяне праўда разбалеўся жывот. Я не вінаваты.

Я ведаю, што Абраша маніць. У яго зусім нічога не баліць, проста ён хоча схавацца ад заняткаў.

Я зноў іду да настаўніка. Ён бездапаможна сядзіць над пустой шклянкай.

— Рэбе, можа, жадаеце яшчэ шклянку чаю? Толькі што зноў разагрэлі самавар, — і, перш чым ён паспявае адказаць, я выхопліваю шклянку з ягонай рукі. Мне сорамна зноў несці яму чай, сорамна глядзець яму ў вочы.

Гарачая пара ўздымаецца да яго твара, ягоныя вочы пачынаюць міргаць.

І тут мне робіцца па-сапраўднаму страшна, што рэбе ад гарачыні страціць прытомнасць. Зусім зняможаны, ён сядзіць, заплюшчыўшы вочы і звесіўшы галаву.

Я гляджу на яго і не пазнаю — так ён пастарэў. Ягонае цела амаль цалкам заслоненае сталом, бачнам адно маленькая галава з казлінай бародкай.

Толькі цяпер я заўважаю, наколькі змучаны ягоны твар, якая танюткая шыя, такая ж жоўтая, як старонкі малітоўніка на стале. Ягоныя вусы і кончыкі пальцаў таксама жоўтыя — ад нюхальнай табакі.

Няўжо ён і праўда такі стары? Нават ад ягонай вопраткі пытыхае старасцю. «А што, калі рэбе не зможа сам дабрацца дадому? — думаю я. — Можа, папрасіць каго з ягонай сям'і, каб прыйшлі па яго? Дзе рэбе ўвогуле жыве? Ці ёсць у яго дзеці? Яны такія ж свавольнікі, як мы?» Тут мне прыходзіць да галавы, што ў яго нікога няма, і маё сэрца сціскаецца. «Ён зусім адзін у свеце, як былінка ў полі…»

І я радая, што стары спіць, што не бачыць, як я пачырванела. Мне здаецца, ён заснуў не ад гарачага чаю, а ад засмучэння, што мы так кепска вучымся. Ён зусім ціхмяны, яму хочацца навучыць нас алфавіту, каб мы змаглі прачытаць хаця б старонку з Бібліі, як ён звычайна кажа.

Чаму ён баіцца быць з намі строгім? Ён мусіў бы насварыцца на нас, гэта было б нашмат лепш! Мы ж не бацькі, не ягонае «начальства», як ён кажа.

Мы кепскія. Мы спачуваем яму толькі калі ён спіць.

Мне хочацца сказаць яму, што ад сёння я буду добра вучыцца і магу паклясціся ў гэтым усім святым. Я не буду больш насіць яму чай шклянку за шклянкай. Я пужаюся: мой шэпт занадта гучны, ён можа разбудзіць рэбе. Я сяджу на сваім месцы зусім ціха.

«О, — думаю я, — а што, калі Абраша забяжыць сюды і разбудзіць настаўніка? Няхай у нас ён прынамсі выспіцца. Пэўна ж, ён усю ноч вывучае Тору і не спіць».

Тут у пакой праз адчыненае акно прасочваецца водар шакаладу. Пах такі моцны, што я міжвольна пазіраю на настаўніка: ці не прачнуўся ён?

Салодкі водар воблакам лунае над маёй галавой, казыча язык, прабіраецца ў нос. Я п'янею.

Як крыўдна, што менавіта ў гэты момант я не на двары! Я ведаю, што на кухні кандытарскай «Жан Альбер» вараць шакаладную глазуру і намазваюць яе на торты. Калі б цяпер я была там, пекары паклікалі б мяне і далі аблізаць вялікую драўляную лыжку, якой перамешваюць шакалад. Стары пекар, якога я пабойваюся, калі ён выходзіць на двор, у гарачай пякарні выглядае саладзейшым за выпечку, якую ён па-майстэрску выраблае. Ён прыязна ўсміхаецца, так што бачныя чорныя, папсаваныя цукрам зубы, яго фартух заляпаны шматкаляровай глазурай, якой ён упрыгожвае торты.

Я ўяўляю, як пекар падносіць да рота доўгі ражок і дзьме ў яго. Адтуль выпаўзае тлустая каляровая маса, а на торце з'яўляецца чырвоная кветка ці зялёны лісток.

Тады ён бярэ іншы ражок, дзьме, і на пірог выскоквае анёлак з крыльцамі. Драўлянай лапаткай пекар разгладжвае анёла і ўсе няроўнасці на торце. Салодкія крошкі падаюць долу.

Пекар ведае, што я гляджу на яго як на чараўніка.

— Што, прыгожа? Хочаш рэштачак?

Ён усміхаецца і насыпае мне поўныя прыгаршчы салодкіх крошак.

Я гляджу на далонь — у ёй нічога няма, азіраюся — перада мной спіць настаўнік.

Ах, калі ж ён нарэшце выспіцца? Я прапушчу салодкія крошкі. Калі я спазнюся, у пякарні будзе цёмна, яе зачыняць…

Можа, хуценька збегаць туды? А калі настаўнік прачнецца?

«Ш-ш-ш!» — я чую ціхі шолах. Што гэта — вецер? Ці гэта настаўнік пасопвае ў сне?

Я высоўваюся з акна, ледзь не вывальваюся з яго. Зверху, з кватэры фатографа, падаюць маленькія белыя лісткі. Памятыя, скамечаныя, яны, нібы белыя галубы, ляцяць праз двор, падаюць на прыступкі.

Я выцягваю рукі, спрабую злавіць лісткі. Я ведаю, што гэта карткі, якія выкідвае фатограф. Пажоўклыя, палінялыя. Тут праколатае вока, там праціснутая шчака — твар амаль непазнавальны.

Вось дзяўчына шырока раскрыла вочы, яна быццам задыхаецца ў сваім высокім каўнярэ. Вунь стаіць салдат з доўгімі вусамі. Ён выглядае вельмі спалоханым, нібыта ўбачыў генерала, які зараз на яго накрычыць.

Я схапіла яшчэ адну картку, разглядваю яе. Дзякуй Богу, што я яе злавіла! На белай хусціне ляжыць голенькае немаўля. Няхай яно і пухлае, нібы парсючок, але ўсё роўна пабіла б галоўку, калі б упала на зямлю.

«Пагуляй са мной, давай, усміхніся!» — і дзіця сапраўды смяецца.

Я лаўлю яшчэ адну фатаграфію. На ёй ажно цэлая сям'я. Як фатографу хапіла духу яе выкінуць? Уся сям'я на адной картцы! Дзядуля з бабуляй, яшчэ адна бабуля, дзядзькі, цёткі, бацька, маці, сыны, дочкі, жанатыя і нежанатыя, маленькія дзеткі… Крэслаў хапіла не ўсім, таму, мабыць, тыя, што стаяць ззаду, выглядаюць такімі незадаволенымі. Дзеці сядзяць спераду на падлозе…

Аднойчы я доўга разглядала такую ж сямейную картку і не стрымалася. Пайшла да мамы і спытала, ці не можам мы таксама так сфатаграфавацца.

— Фатограф жыве ў нашым доме, — сказала я, — і мы маглі б бачыць сябе ў ягонай вітрыне.

Мама кідае на мяне знішчальны позірк:

— Ты звар'яцела? Ці проста без мазгоў? Табе нічога лепшага ў галаву не прыйшло? Пайсці ды сфатаграфавацца, як нейкія дзеўкі са сваімі салдатамі!

Чаму мама на мяне налаялася? Дзядуля ж таксама адзін раз фатаграфаваўся! Ну так, яго падманулі: калі ён спакойна стаяў за прылаўкам, яму сказалі не рухацца, бо трэба памераць краму. Дык фатограф мог бы прыйсці да нас нібыта памераць краму і ўсіх нас сфатаграфаваць…

— Башка! — крычыць Абраша, які нарэшце выходзіць са свайго пакоя. — Настаўнік пайшоў ужо.

— Тсс! — я спалохана махаю яму абедзвюма рукамі. — Ціха! Ён спіць!

Але вокліч Абрашы разбудзіў настаўніка.

Дзякуй Богу, сон яго падбадзёрыў. Ён адразу агоўтаўся, глядзіць на нас і бярэцца за кнігу, быццам зусім і не спаў.

— Так, дзеці, на чым мы спыніліся? Паўтарайце: алеф, бэт…

— Гімель, далет! — гучна крычу я і радуюся, што настаўнік на нас не злуецца.

— Хе, вав! — перакрыквае мяне Абраша.

Упершыню мы паўтараем алфавіт ад пачатку і да канца. Настаўнік ззяе ад задавальнення.

— Вы не стаміліся, дзеткі? Сёння вы слаўна папрацавалі. Можа, тады хопіць?

Ён надзявае свой стары палітон і ціха сыходзіць.

**Пераклад паводле выдання: Bella Chagall. Brennende Lichter. Rowohlt, 1990.**

**Пераклад з нямецкай Ігара Крэбса, prajdzisvet.org**

# Фігуркі на Каляды


Вольга РОПАТ

**Прачнулася жоўтая лямпа. Заварушыўся пушысты ёлачны дожджык, падміргнула гірлянда.**

Агата паставіла на авальны стол глыбокую талерку з залацістым абадком. У талерцы дрыжала вада і спрабавала зразумець, чаму ноччу яна апынулася ў невялічкім пакойчыку, напоўненым чароўным марывам і мяккім расталым святлом. Яскравыя агеньчыкі бліснулі, ганарлівыя ёлачныя цацкі нават і не думалі глядзець у бок талеркі, а «дожджык», здавалася, зашамацеў яшчэ болей. Вітражныя адлюстраванні праз некалькі хвілін супакоіліся, і вада ўздыхнула.

Тым часам Агата запаліла блакітную свечку. Дзяўчынка села насупраць свечкі і талеркі, чакаючы, пакуль расплавіцца млявы воск. У сінім акне плавала адзінокае святло ад свечкі. Блакітныя слёзы павольна сцякалі.

Стрэлкі на гадзінніку амаль зліліся. Яны вырашылі перадыхнуць менавіта на дванаццаці. Агата рэзка нахіліла свечку, і вада схапіла цёплы, мяккаваты васкавы згустак.

Кх..кх... Што гэта? Злавіць гук! Кххх.... Дзе гэта? Агата аглядзела пакой і пайшла да сценкі, дзе хаваліся маленькія іконы і царкоўныя свечы. За шклом яна ўбачыла...

***

Яна варушылася, падскоквала. Дванаццаць месяцаў маўчалі. Толькі слухалі шэпт свечак і назіралі за Агатай. А між тым, унутры ўсё бурліла і вырывалася. Жыццё вырвалася з крохкага...

***

Цацку ў выглядзе доміка, якая так доўга чакала ўнутранага вызвалення, хацелася лашчыць поглядам. Раптам яна раскалолася. Узляцелі серабрыстыя іскры. Трэск нагадаў Агаце гук празрыста-блакітнай ільдзінкі. З цацкі даносіліся галасы і крык маленькага дзіцяці. Хто жыве ў доміку? Бурштынавае святло, што выпырхнула з ёлачнай цацкі, растварылася. Паўпразрыстыя сілуэты наліліся колерамі, і перад Агатай з'явілася сям'я: мужчына, жанчына і маленькія дзеткі. Яны радаваліся.

— Давай, Танішня, падымай шклянку!

— Ура! Ура! — запляскаў маленькімі ручкамі хлопчык. Ён схапіў цукерку, — паляцеў на стол бліскучы фанцік, быццам карнавальнае канфецi, — і падскочыў некалькі разоў.



Жанчына пацягнула частку фаршыраванай рыбы — парушыла парадак на вузкай талерцы, зачапіла кавалачак халадца, які задрыжэў і баяўся ўпасці, бо ўяўляў сябе каралём стала.

Мужчына скрывіўся ад «Маскоўскай» і прагна ўкусіў бутэрброд з адзінокімі шпротамі. Засталіся святкаваць толькі хвасты.

«Маскоўская» чакала, калі прагучыць якое-небудзь віншаванне, каб цалкам авалодаць мужчынам. Празрыстая вадкасць заўсёды дзейнічала па плане...

Генка, якому на той момант было чатыры гады, наскакаўся пад песні і пацягнуўся, каб не бачыла маці, яшчэ па адну карамельку. Тата задаволена жаваў вінегрэт і назіраў за малым. Позіркі хлопчыка і Валерыя сустрэліся ў той момант, калі зялёны лядзяш яшчэ не паспеў пазнаёміцца з языком. Мужчына падміргнуў малому, і той спакойна, нават з задавальненнем (бо маці ўсё ж такі не заўважыла — і гэта галоўнае) паклаў у рот празрысты лядзяш, які нагадаў хлопчыку прыгожую пацерку з узорамі.

Аднагадовая дзяўчынка супакоілася толькі пасля таго, як яе на рукі ўзяла маці. Яна слухала тэлевізар «Нёман» і назірала за тым, як рагаталі, перапіваліся ад смеху цукеркі «Сняжок», «Казка», «Вавёрка», «Цацкі», усмоктвалі святло мядовых лямпачак мандарыны, дрыжэў паўпразрысты халадзец, чакаў свайго часу пірог з карыцай і падазрона на «Маскоўскую» кідаў позіркам шкляны збан з кампотам, у якім вадзілі карагод яблычныя долькі.

Вядучыя тэлевізійнай праграмы яшчэ раз павіншавалі з 1969 годам.

***

— Нічога сабе! — парушыла цішыню Агата. — Дык, гэта ж мой дзядуля з бабуляй! Як я адразу не здагадалася!? Здаецца, я гляджу жывы фільм!

Дзяўчынка баялася дакрануцца да іх... Можа, яны спалохаюцца і пераўтворацца ў фігуркі?..

***

Насамрэч, гэта быў не фільм. І не батлейка. І не тэатральныя сцэнкі. І не перформанс. І нават не галаграма. І гэта не сон! Агата тэлефанавала мне дзесьці ў палове дванаццатай ночы і пачала віншаванне са слоў «Добры вечар! Шчодры вечар! Добры вечар таму, хто ў гэтым даму! А людзей тут цераз край, хоць ты лыжкаю мяшай!..» Я сказала Агаце, што нікога ў мяне няма. Хлусня ўсё гэта.

Так, яна, безумоўна, любіць штосьці прыдумляць, любіць сюррэалізм, асабліва Жана Както, Дэвіда Лінча (о! з якімі эмоцыямі распавядала калісьці пра «Синий бархат») і Яна Шванкмаера... Дарэчы, я таксама ў захапленні ад Както і Шванкмаера... Але ўпэўнена ў тым, што тая ноч не была для яе сном і сюррэалістычнай гісторыяй. Я сказала «ўпэўнена»? Хм...

***

Агата ўспомніла, што яе чакае згустак з воску, які змерз і пакрыўдзіўся на дзяўчынку. Фігурка крыху паплавала і вырашыла прытуліцца да залацістага абадка. Што гэта можа быць?.. Фігурка падманвала Агату (а цень ад яе, здавалася, варушыўся і падазрона назіраў за фігуркай). Бусел? Чайнік?.. Вада трымала васковае цела на паверхні, але яно нават і не думала ныраць. Т-а-а-ак... Няхай будзе бусел. Гэта ж такі першы вобраз. Цікава, што ён азначае?.. Засвяціўся кампутар — ажывіліся квадратныя кнопкі. Хуценька станавіліся ў шэраг літары ў «Яндэксе». Агата спалохалася ад запытаў («Яндэкс», мабыць, таксама), калі ў радку з'явілася слова «гадание»: «Гадание онлайн», «Гадание да нет», «Гадание на отношение человека к тебе, что он думает обо мне». Адна спасылка, другая спасылка... Дзясяткі сайтаў — адно і тое ж. На ўсіх напісана, што бусел абазначае шчаслівае сямейнае жыццё! Вось яно як!

Але Агату чакала расколатая ёлачная цацка — дзяўчынка хутка перабегла да доміка, каб нічога не прапусціць.

***

Стол крыху скінуў вагу. Халадзец весела перавальваўся ў страўніках (ён уяўляў, як спускаецца з горкі і адразу трапляе на карусель (што ж, ягоная мара збылася!)), фаршыраваная рыба аддала ўсё, акрамя галавы, і ні аб чым не шкадавала, «Маскоўская» ганарліва пагладала на кампот. А на ўскрайку стала сабралася кампанія фанцікаў.

— Валер, можа, смажаную рыбу прынесці? — усхвалявана прагучалі словы Танішні.

— Не, не трэба. Я крыху бульбы з'ем ды хопіць.

Відэлец выбраў ахвяру — на талерцы ляжала абураная на жыццё бульба, цела якой раздвоілася.

— Як добра, што мы тэлевізар купілі! — сказала Антаніна, і яе мяккі позірк дакрануўся да зеленавата-арэхавых вачэй мужа.

На сям'ю паглядалі жыццярадасныя фігуркі, якіх хацелася памацаць, але пальцы краналіся толькі плёнкі ды пузатай абалонкі — экрана. Валерый падрыхтаваўся да свята: набыў у краме каляровую плёнку і наклеіў яе, каб старэйшаму Генку было яшчэ цікавей назіраць за марыянеткамі. А хто імі кіруе? Няўжо ў гэтай каробцы жывуць людзі?.. Думкі малога, як кватаранты, пераходзілі ад аднаго суседа да другога. Але дарослыя баяліся пра гэта гаварыць, таму амаль штодзень, калі Антаніна была на працы, прыходзілі да Валерыя і разглядвалі каляровы экран, таемна шукаючы адказы.

Пакой сціснуў у абдымках вузкі ложак, калыску, невялічкі стол, елку з хлапушкамі, папяровымі ліхтарыкамі ды цукеркамі, кававую шафу, якая зачынялася на ключ. Са сцяны кожную раніцу распеўвалася шчакастае радыё, прыліп да бела-ружовых у маленькія палявыя кветкі шпалераў каляндар, які штомесяц паказваў малым язык. Блін з ляпнымі ўзорамі трымаў бэжава-белыя лямпы ў выглядзе каруселі. Некалькі разоў на дзень, калі дзверы давалі дазвол, халадзільнік «Мінск-2» зазіраў у пакой.

Валерый і Тоня патроху сцягвалі са стала агуркі, капусту, бульбу, а малы Гена — цукеркі. Каляровыя марыянеткі зацягнулі ў сваю казку ўсю сям'ю. Ніякіх размоваў не было. Толькі калі ў тэлевізійнай передачы казалі «Віншуем!» — Валерый цягнуў гранёную шклянку да лямпаў і паўтараў за вядучымі. Антаніна падпявала і спрабавала разгледзець сукенкі ды хусткі выступоўцаў. Чатырохгадовы Генка скакаў каля елкі ды дражніў малую сястру.

Сям'я сядзела заваpожаная. Яе захапілі тыя механічныя фігуркі, якія па сцэнарыю стварылі святочную атмасферу. У доміку, дзе свяцілі цеплынёй лямпачкі, абудзілася снежная цішыня. Здавалася, яна авалодала домікам. Прамаўлялі толькі каляровыя фігуркі. «Він...»

І тэлевізар патух.

— Што з ім? — напужалася Антаніна.

— Не ведаю. Зараз пагляджу.

Валерый пачаў круціць драты ды націскаць на кнопкі. Генка расчаравана паглядзеў на тэлевізар і сказаў, што свята скончылася. Ён надзьмуўся і сеў на мяккі пуфік. Алена не бачыла «маленькую трагедыю» — салодка заснула на руках у маці.

— Не хвалюйцеся. Зараз усё зраблю, — паабяцаў тата.

Але тэлевізар здаўся. Мо яму самому надакучылі ярка-фальшывыя марыянеткі?.. Валерый некалькі разоў абышоў яго, штосьці пакруціў, пастукаў, але нічога не адбылося.

— Ой, усё! Сядай, Валер. Трэба несці яго ў рамонт.

— Мам, а што мы будзем рабіць? Спаць? — скрозь слёзы спытаў Генка.

— Не. Можаш вершык расказаць ці песню праспяваць.

— Так! Давай, Генка! Усе мы заспяваем! — падхапіў ідэю жонкі Валерый і выцягнуў з самотнага кута залацістую трубу, на якой добра меў граць.

Гена паставіў пуфік насупраць ёлкі, ганарліва стаў на яго і заспяваў. Валерый падхапіў рытм, і труба прачнулася. Малінавыя вусны маленькай Алены нагадалі задаволены месяц. Цёплае шчасце апанавала Антаніну.

***

Як толькі на гадзінніку доўгая стрэлка спынілася на дванаццаці хвілінах першай начы, сценкі расколатай цацкі зліліся. Жоўтая лямпа заплюшчыла хітрае вока.

...Міргалі гірлянды, таемна пераліваўся дожджык. Пакой застыў у аксамітным святле ад ёлачных цацак.

А бусел з воску страпянуўся і...

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Панскія кілеры, «легіён смерці» і стрыжка святароў

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

У Століне 560 чалавек удзельнічалі ў ваенізаванай гульні з выкарыстаннем адгазнікаў.

Пінскі абкам камсамола з 25 кастрычніка па 5 лістапада 1940 года ажыццявіў праверку стану бібліятэк і хатаў-чытальняў. У выніку з ліку вучняў былі абраныя так званыя «кнігаsuccessfulношы» для распаўсюду літаратуры сярод выбаршчыкаў.

Бальшавікі апрацоўвалі не толькі моладзь, але і старых. Так, сакратар Пінскага абкама Улазаў 11 снежня 1940 года дакладваў сакратару ЦК КП(б) Б Панамарэнку, што ў вобласці рэгулярна адбываюцца сходы старых (не менш як 100 чалавек), на якіх удзельнікі просяць растлумачыць ім палітыку партыі і ўрада.

## «И если враг с ухваткой вора зайдет в советские моря»

Для дасягнення патрэбнага выніку камуністы літаральна завалілі Заходнюю Беларусь адпаведнай літаратурай і іншым агітацыйна-прапагандысцкім матэрыяламі.

Для заходніх абласцей БССР было выдадзена 900 тысяч экземпляраў выбарчых выданняў: Канстытуцыя СССР 1936 года, Канстытуцыя БССР 1937 года, Палажэнне аб выбарах, а таксама «працы» савецкіх кіраўнікоў: Сталіна («Прамова 11 снежня 1937 года на сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі горада Масквы»), Калініна («Што дала савецкая ўлада працоўным»), Панамарэнкі («Год новага жыцця») і іншыя.

Пры гэтым літаратура выдавалася на чатырох мовах. Так, 18 тысяч асобнікаў Канстытуцыі БССР 1937 года былі надрукаваны на беларускай мове, 17 тысяч — на рускай, 12 тысяч — на польскай і 3 тысячы — на яўрэйскай.

Канешне, не абышлося без партрэтаў правадыроў. Напрыклад, кнігагандлёвае аддзяленне Дзяржаўнага выдавецтва (КОГИЗ) дакладвала, што на 1 снежня 1940 года ў Беластоцкую вобласць былі адгружаны наступныя партрэты: Сталін — 14380 асобнікаў, Ленін — 4520, Берыя — 380, Варашылаў — 1110, Швернік, Хрушчоў і Мікаян — 50.

Пачэснае месца займалі лозунгі. Іх налічвалася амаль шаснаццаць відаў. Акрамя традыцыйных: «Да здравствует внешняя политика Советского правительства, политика мира между народами и обеспечения безопасности нашей Родины!», «Борьба с прогульщиками и дезорганизаторами производства есть борьба за укрепление мощи нашей Родины и её Красной Армии», «Да здравствует трудовая дисциплина и образцовый порядок на предприятиях нашей Родины!», «Колхозники и колхозницы! Боритесь за высокие урожаи и подъём общественного животноводства. Укрепляйте хозяйство колхозов! », «Да здравствует зажиточная и культурная жизнь колхозов!», меліся і экзатычныя: «И если враг с ухваткой вора зайдет в советские моря!», «Трудна и почётна работа героев морской глубины!».

## «Выбары без выбару»

Нягледзячы на моц прапагандысцкай машыны, бальшавікам не ўдалося пазбегнуць непрыемных пытанняў

Адно з іх было зададзенае 18 лістапада 1940 года на сходзе выбаршчыкаў 6-га выбарчага ўчастка Беластока і ставіла пад сумнеў справядлівы прынцып савецкіх выбараў: «Почему в бюллетень вносится одна кандидатура и нет, кого вычёркивать?». Таксама на гэтым сходзе камуністы пачулі пытанне: «Почему в СССР нет разных партий?».

Падчас перадвыбарчай кампаніі людзі задавалі і простыя побытавыя пытанні: чаму ў горадзе няма дроў, чаму ў нас такая дрэнная кааператыўная сетка, чым выкліканы перабоі ў забеспячэнні прамысловымі таварамі.

У Беластоку цікавіліся: «Правда ли, что в Советском Союзе у женщин без боли проходят роды?»

Людзей непакоіла знешнепалітычная сітуацыя, небяспека вайны. Адсюль і пытанні наконт таго, ці дапамагае СССР Кітаю, якія вынікі вайны паміж Грэцыяй і Італіяй, навошта Молатаў ездзіў у Берлін, чаму ў нашых газетах мы папулярызуем паветраную абарону Лондана, ці не выклікае гэта незадаволенасці Германіі.




**Перадвыбарчы сталінскі плакат на ідыш.** Крыніца: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

## Небяспечныя вернікі

Уладаў найбольш непакоілі вернікі: на момант выбараў у Заходняй Беларусі існавалі 446 касцёлаў, 542 царквы, 387 сінагогаў, 14 манастыроў, 617 ксяндзоў, 606 папоў і 293 рабіны. Таксама існавалі і секты, напрыклад, т.зв. «братишечки» (яны не павінны былі мець і ведаць жанчын).

У справаздачах НКУС адзначалася, што вернікі «проводят обработку молодёжи с целью отказа от голосования». Асаблівую ўвагу спецслужбы раілі звярнуць на «настоящий очаг мракобесия» — Жыровіцкі манастыр (10 кіламетраў ад Слоніма) і на ягонага паслушніка Рыгора Кундарэнку, які «рассказывает всякие небылицы в контрреволюционном направлении». А спадар Кундарэнка казаў вось што: «Советские люди — это безбожники. Я сам был в России и видел, как народ там страдает от голода, хлеба там очень мало. Они строят только оружие и машины».

Улады БССР і асабіста Панамарэнка разумелі ўплыў вернікаў і напярэдадні выбараў не жадалі псаваць з імі адносіны. Пра гэта сведчыць красамоўны факт. У пачатку снежня 1940 года ў Клецку (Баранавіцкая вобласць) быў арыштаваны мясцовы праваслаўны святар па прозвішчы Бойка, які актыўна выступаў супраць выбараў. Але фармальный зачэпкай для ягонага затрымання паслужыла тое, што ён не заплаціў падатак у суме 4700 руб.

Пры пераводзе з Клецка ў Нясвіж Бойка «был подвергнут санитарной обработке: его обрили наголо, а также сбрили голову и усы». Гэта выклікала абурэнне вернікаў, і яны хутка сабралі грошы: ажно 16 тысяч рублёў. Кіраўнік НКУС БССР Лаўрэнцій Цанава паведамляў, што некаторыя жыхары аддавалі па 100 рублёў. Цанава дакладваў, што ажыццяўляецца пошук ініцыятараў зборy грошай «с целью последующей активной агентурной разработки».

Інцыдэнт з Бойкам дайшоў да Панамарэнкі. У архіве захаваўся гнеўны ліст кіраўніка БССР (па ўласнай традыцыі Панамарэнкі, напісаны чырвоным алоўкам) да сакратара Баранавіцкага абкама партыі Тура, які пачынаўся такімі словамі: «Товарищ Тур! Что это за дураки, которые попов стричь начали?»

Пэўная частка працоўных і сялян Заходняй Беларусі таксама выступіла супраць савецкай улады. Вось што казаў жыхар Пінску, тэхнік мясцовай нафтабазы Гілер: «При Польше народу крутили голову паны, занимались глупостями, теперь большевики дурят голову своими выборами». Селянін Ганчарык з вёскі Веляпсніца Жабчыцкага раёна Пінскай вобласці абураўся: «Кому такие собрания нужны, когда выдвижение кандидатов происходит по-фашистски, кого хотят, того и намечают, а нам говорят: голосуйте. Кандидатов должен выбирать народ».

Аднак тыя, хто быў настроены супраць камуністычнай улады, не абмяжоўваліся толькі словамі. Бальшавікі ледзь паспявалі фіксаваць «контрреволюционные вылазки». Звычайна гэта былі антысавецкія надпісы на выбарчых бюлетэнях альбо запіскі, кінутыя ў выбарчыя скрыні.

Так, на Новакрукоўскім выбарчым участку Міёрскага раёна былі знойдзены 23 запіскі контррэвалюцыйнага характару, а таксама фота польскага маршала Эдварда Рыдз-Смігла з надпісам: «Я не доволен этим правом, а вы, босяки, убирайтесь». У вёсцы Гардзяняты Смаргонскага раёна ў адной з выбарчых скрыняў была знойдзена запіска: «Прочитай и разумей, еще Польша не сгинела, пока Бог над нами. Ещё настанет смерть коммунистам, которые будут висеть вверх ногами».

18 снежня 1940 года сакратар Маладзечанскага ЦК КП(б) Б даносіў у ЦК: «В деревне Кононовичи Засковичского сельсовета рисовались контрреволюционные рисунки, на которых изображались активисты с поломанными телегами, возле могил». Той жа сакратар пісаў, што ў Маладзечанскім раёне выяўлены тры выпадкі, калі прозвішчы кандыдатаў на бюлетэнях былі «вырваны зубамі», а на бюлетэні кандыдата Завадскага быў намаляваны нож.

Па звестках органаў унутраных спраў, 14 снежня 1940 года ў Брэсце па вуліцах Савецкая і Студэнцкая былі раскіданыя 27 улётак «фашистского характера», якія «были писаны карандашом от руки».

## Кілерства па-заходнебеларуску

3 снежня 1940 года Цанава накіраваў Панамарэнку цікавую дакладную запіску: «31 октября 1940 года агент «Горелов» донес, что житель деревни Снядово Снядовского района Белостокской области Бер Шаевич Шрум обратился к нему с просьбой подыскать человека или самому согласиться убить уполномоченного РИК кандидата в депутаты сельсовета, жителя деревни Залесье Хелстовского». Па словах Цанавы, неўзабаве Шрума арыштавалі. Ён прызнаўся, што забойства замовіў жыхар вёскі Залессе Адам Сцяпноўскі, «враждебно настроенный к советской власти». 6 лістапада 1940 года быў арыштаваны і Сцяпноўскі, які сваю віну не прызнаў.

Пытанне, ці сапраўды апісанае вышэй мела месца і не было фэйкам НКУС, патрабуе дадатковага вывучэння. Аднак забойствы прасавецкіх актывістаў адбываліся. Напрыклад, у кастрычніку 1940 года быў забіты жыхар вёскі Кізелякі Беластоцкага раёна Левандоўскі.

## Імя ім — легіён!

Канешне, органы НКУС нагняталі ў рэгіёне атмасферу страху і падазронасці. 26 снежня 1940 года Цанава дакладваў Панамарэнку, што ў сярэдняй школе №1 г. Аўгустова нібыта выкрытая варожая група «Легіён смерці» пад кіраўніцтвам братоў-школьнікаў Прычкатаў — Юзэфа і Рышарда. Паводле Цанавы, чальцы групы (юнакі і дзяўчаты ад 14 да 19 год) «систематически устраивали сборища, проводили контрреволюционную агитацию, читку националистической литературы, высказывали пораженческие настроения, проявляли стремление уйти в Германию, периодически разбрасывали контрреволюционные листовки». Цанава таксама сцвярджаў, што чальцы групы планавалі разграміць выбарчы ўчастак у Аўгустове, здзейсніць тэракт на чыгунцы і забіць бальшавіцкага вылучэнца Яна Станкевіча.

Пасля выкрыцця групы Юзэф і Рышард атрымалі працяглыя турэмныя тэрміны.

У выніку 15 снежня 1940 года былі абраныя 367 дэпутатаў абласных Саветаў, 2519 дэпутатаў раённых і гарадскіх Саветаў і 32 945 дэпутатаў сельскіх і пасялковых Саветаў. Усе яны прадстаўлялі спіс камуністаў і беспартыйных. Пэўную частку з іх складалі жанчыны.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ФРАНЦЫЯ. «Жоўтыя камізэлькі» сарвалі Каляды

Цяперашнія Каляды ў Францыі аказаліся сарваныя праз рух «жоўтых камізэлек». Прынамсі, так сцвярджае мясцовая бульварная прэса. Калі ёй верыць, пратэсты на працягу апошніх шасці тыдняў моцна падарвалі лагістыку паставак прадуктаў у крамы. Аднак гэта толькі кветачкі. Аказалася, што рух «жоўтых камізэлек» моцна раскалоў грамадства — і ў тым ліку сем'і. У некаторых сем'ях спрэчкі дасягнулі такога ўзроўню, што сваякі адмовіліся сядзець побач за сталом на Каляды. Калі нават сямейнікі і збіраліся на супольнае святкаванне, вечар усё роўна ператварыўся ў спрэчкі на палітычную тэму. Пакуль псіхолагі не ведаюць рэцэпту ад тэмы «жоўтых камізэлек». Адзінае, што яны раяць, — ставіць на стол як мага менш алкаголю, які звычайна правакуе больш моцныя эмоцыі.

**Паводле французскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. У Новы год без пляўкоў

У апошнія дні гэта года кыргызы могуць у апошні раз дазволіць сябе такую выхадку, як вольна плявацца на вуліцах. Як толькі куранты праб'юць дванаццаць, у сілу ўступіць Кодэкс аб адміністрацыйных парушэннях, што быў прыняты яшчэ ў жніўні. Паводле новага закона, цяпер публічны плявок будзе карацца штрафам. Штраф за такое парушэнне складзе 5,5 тысячы сомаў ($78,8). З улікам таго, што сярэдні заробак у краіне — каля 200 долараў, пакаранне вельмі сур'ёзнае. Праўда, не выключана, што новы закон накіраваны супраць аднаго з відаў наркаманіі. У Цэнтральнай Азіі папулярна жавацЬ «насвай» — наркатычнае рэчыва. Пры яго ўжыванні адбываецца багатае выдзяленне сліны, афарбаванай у зялёны колер. Магчыма, пад выглядам барацьбы з пляўкамі, улады вырашылі паганяць наркаманаў? Гэта не адзіная загадка закону. Таксама незразумелы пункт Кодэксу, паводле якога за пляўкі можна будзе караць таксама юрыдычных асобаў.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### ФРГ. Бывайце, Каляды са снегам!

З глыбокім смуткам у Германіі прызналі, што немцы, магчыма, ніколі больш не пабачаць снежных Калядаў. Апошнія навіны з кліматычнага фронту сведчаць, што снег у Германіі будзе стала ляжаць выключна ў горных раёнах. Праўда, і без глабальнага пацяплення зіма ў краіне даўно была не падобная да малюнкаў з калядных паштовак. Апошні Каляды са снегам Германія сустракала ў 2010-м. А папярэднія да таго Каляды прыйшліся на 1986 год. Што тычыцца сапраўднай снежнай зімы, то апошні раз яна прыходзіла ў краіну напрыканцы 1960-х гадоў. Канстатацыя гэтага сумнага факту выклікала ў немцаў выбух настальгіі па часах, калі на вуліцах на Каляды ляжаў снег. У прэсе можна наткнуцца на забаўныя для беларускага чытача ўспаміны пра тое, як трэба было ляпіць снегавіка.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Апошні «Блакітны агеньчык»?

«Блакітны агеньчык» — культавы навагодні канцэрт на расійскім тэлебачанні — можа знікнуць. На працягу апошніх гадоў яго крытыкуюць амаль усе. Галоўным чынам аўдыторыі не падабаецца засілле старых поп-зорак накшталт Пугачовай. Папярэдняе навагодняе тэлешоў перапоўніла мяжу цярпення. У сецыве нават паўстала петыцыя з заклікам увогуле забараніць «Блакітны агеньчык». Скандал цягнуўся



ўвесь год. Увосень скандальны Уладзімір Жырыноўскі прапанаваў прапіхваць на тэлебачанне маладых канкурсантаў па прынцыпе квоты. Магчыма, «Блакітны агеньчык — 2019» будзе вызначальным для лёсу праграмы. Гэта, падаецца, разумеюць і арганізатары, якія падчас здымкаў бралі з актораў падпіску «пра невыдаванне інфармацыі». Між тым, крызіс шоў, напэўна, відавочны, бо яно паўстала ў савецкія часы і было вельмі інтэграванае ў тагачасную рэальнасць. Напрыклад, у праграме распавядалі пра розныя працоўныя рэкорды. У гэтым плане ўвогуле дзіўна, што «Блакітны агеньчык» існуе так доўга пасля калапсу СССР. Магчыма, сакрэт яго выжывання ў тым, што сапраўднай альтэрнатывы савецкай формуле сустрэчы Новага года так і не паўстала.

**Паводле расійскай прэсы**

# Да якой партыі належыць Санта-Клаус?

Алег НОВІКАЎ

**Магчыма, гучыць смешна, аднак за акіянам даўно вядзецца спрэчка наконт партыйнай прыналежнасці Санта-Клауса.**



Былы прэзідэнт ЗША Барак Абама прыйшоў у дзіцячую лякарню ў джынсах і шапцы Санта-Клауса, каб павіншаваць дзяцей з Калядамі

Як вядома, Санта жыве на Паўночным полюсе ў сваёй рэзідэнцыі, дзе, акрамя яго, мноства эльфаў, якія дапамагаюць збіраць падарункі для дзяцей. Тут жа на працягу года Санта робіць запісы ў кнізе, дзе фіксуюцца ўчынкі дзяцей з усяго свету. Ён занатоўвае, хто з іх быў паслухмяным, а хто сваволіў. Напярэдадні Калядаў чараўнік садзіцца ў сані, запрэжаныя аленямі, і ляціць па небе ў розныя краіны. Калі Санта дасягае пункту прызначэння, ён спускаецца ў кожны дом праз комін і пакідае сюрпрызы пад ёлкай.

Так у двух словах выглядае расповед пра Санта-Клауса. Хаця тут няма ніводнага слова пра палітыку, сярод амерыканцаў хапае тых, хто лічыць, што паводзіны Санты ўласцівыя паводзінам партыйнага актывіста. Хаця пра тое, якой партыі сімпатызуе чароўны герой, канчатковай думкі няма.

Дэмакраты лічаць, што Санта-Клаус — адназначна іх. Аргументы наступныя: «Санта, безумоўна, дэмакрат, паколькі, замест таго, каб прадаваць падарункі або раздаваць іх выключна дзецям эліты, ён, наадварот, узнагароджвае ўсіх. І, натуральна, ён, як кожны чалавек левых поглядаў, супраць зменаў клімату. Урэшце, Рудольф (адзін з аленяў Санты) можа лётаць, але ён не ўмее плаваць».

Трэба дадаць, што не ўсе левыя актывісты — аматары тэзісу, што Санта-Клаус іх аднадумца. Так, з ініцыятывы папулярнага амерыканскага часопіса «Jacobin» у апошнія гады стала модным аналізаваць прыроду класавых адносін паміж эльфамі, Санта-Клаусам і яго каляднымі аленямі. Паводле гэтага аналізу Санта з'яўляецца эксплуататарам эльфійскай працы і жывёльнага свету. Выснова такіх разважанняў зразумелая — Санту трэба зрынуць, а раздачу падарункаў перадаць кааператыву эльфаў і аленяў.

Кансерватары з Рэспубліканскай партыі ў любым выпадку не згодныя з тым, што Санта належыць да лагеру іх апанентаў. На іх думку, Санта-Клаусу характэрныя правыя погляды. Напрыклад, ён носіць чырвонае футра (чырвоны — партыйны колер рэспубліканцаў). Не менш цікавыя і іншыя аргументы. Чаму, напрыклад, Санта абраў у якасці месца рэзідэнцыі далёкую Поўнач? Адказ — паколькі ніводны ўрад не кантралюе гэтыя рэгіён. Як вынік, дзядуля не павінен плаціць падаткі са сваёй эканамічнай дзейнасці.

Акрамя таго, Санта любіць печыва, якое часта дарыць у якасці падарункаў. Гэта, маўляў, дакладна сведчыць пра тое, што ён не ўхваляе экс-прэзідэнта ад дэмакратаў Барака Абаму. Яго жонка Мішэль у свой час запусціла рэзанансную кампанію супраць дзіцячага атлусцення.

Рэспубліканцы таксама заклікаюць не забываць пра тое, як Санта наладзіў працоўны працэс на сваім прадпрыемстве. Гледзячы па ўсім, эльфы не маюць прафсаюзу. Гэта характарызуе Санту як прадпрымальніка праваліберальных поглядаў. Плюс — Санта прыносіць падарункі дзецям, якія паводзяць сябе згодна з правіламі хрысціянскай этыкі. Нарэшце, ён супрацоўнічае з «Coca Cola» — эталонам капіталістычнай карпарацыі.

**28 працэнтаў амерыканцаў бачаць у Санце дэмакрата, а 22 працэнты — рэспубліканца. Каля 50 працэнтаў амерыканцаў не маюць думкі наконт партыйнай прыналежнасці Санта-Клауса**

Нягледзячы на камічнасць гэтых спрэчак і доказаў, за акіянам ставяцца да іх сур'ёзна. Магчыма таму, што прэзідэнцкія кампаніі стартуюць узімку. Напярэдадні праймерыз кандыдату вельмі важна выглядаць трошкі падобным да чараўніка, накшталт Санты.

Так ці інакш, цяпер 28 працэнтаў амерыканцаў бачаць у Санце дэмакрата, а 22 працэнты — рэспубліканца. Зрэшты, апошнім часам, як сведчаць сацыёлагі, усе больш амерыканцаў (сёння каля 50 працэнтаў) не маюць канкрэтнай думкі наконт партыйнай прыналежнасці Санта-Клауса. Праўда, магчыма, гэта сведчыць не пра апалітычнасць казачнага дзядулі, а, хутчэй, пра тое, што расце недавер простых амерыканцаў да традыцыйных партый.

Між тым, дыскусія вакол партыйнай прыналежнасці Санта-Клауса паступова перакінулася на наш кантынент. Аднак сярод еўрапейцаў яна пакуль не такая вострая: большасць, падаецца, бачыць у Санта-Клаусе сябра левай або экалагічнай партыі. У Вялікабрытаніі да такой пазіцыі схіляюцца каля 27 працэнтаў апытаных. Толькі 17 працэнтаў рэспандэнтаў адносяць яго да аматара кансерватыўных ідэяў. Хаця барацьба за ідэнтычнасць Санты ў Еўропе працягваецца. У прыватнасці, пару гадоў таму аўстрыйскія правыя папулісты з мясцовай «Партыі Свабоды» пачалі агітаваць за тое, што святы Мікалай (ён жа Санта-Клаус) увасабляе еўрапейскасць.


www.proza.ru

# Свет на ростанях

Алег НОВІКАЎ

**Ёсць усе падставы казаць, што 2018-ы ў гісторыі быў пэўнай мяжой. Да Новага года мы падышлі з амаль разбуранай архітэктурай звыклага нам свету.**

Пачаць можна з таго ж феномену біткоінаў, пра якія напачатку 2018-га не казаў выключна лянівы. Хаця паступова ажыятаж вакол гэтай тэмы знік, але пашырылася думка пра тое, што віртуальныя грошы сапраўды могуць замяніць звычайныя. Пры гэтым таксама дапускаецца нівеляванне ролі цэнтральных банкаў як інстытутаў, якія адказваюць за грашова-крэдытную палітыку і забеспячэнне працы плацежнай сістэмы.

Далей больш. Увесну мы сталі сведкамі крызісу вакол атамнай праграмы КНДР. Рэгіён знаходзіўся на мяжы буйнамаштабнага канфлікту. З боку Паўночнай Карэі гучалі пагрозы ядзернай атакі на ЗША і іх саюзнікаў, а з амерыканскага боку — пра гатоўнасць знішчыць Паўночную Карэю. Скончылася ўсё сінгапурскім самітам, на якім Трамп і Кім Чэн Ын пацалаваліся-паабдымаліся ды падпісалі мірную дамову.

Тую дамову паўночныя карэйцы хутка парушылі, аднак у выніку па факце адбылося парушэнне аднаго з краевугольных камянёў глабальнай бяспекі — абмежавання на стварэнне і распаўсюд ядзернай зброі. Пхеньян, па-сутнасці, легалізаваў свой ядзерны фугас, ды даў прыклад іншым дзяржавам.

З іншага боку, выхад за рамкі міжнародных пактаў — канёк цяперашняй адміністрацыі ў Вашынгтоне. Бліжэй да Новага года ў Злучаных Штатах пачалі казаць пра выхад з Дамовы аб ракетах сярэдняй і малой далёкасці. Калі браць пад увагу значэнне згаданай дамовы, не выключаюць здзіўлення прагнозы пра магчымы выхад ЗША са складу ААН, якая паўторыць лёс Лігі Нацый.

На месцах у мінулым годзе таксама ліхаманіла. У чэрвені да ўлады ў Італіі прыйшлі несістэмныя партыі. Гісторыкі кажуць, што гэта першы выпадак перамогі папулістаў у Заходняй Еўропе. Сфармаваны імі кабінет па кіраўніцтвам Джузэпе Контэ адразу пачаў змагацца з Брусэлем па шэрагу пытанняў, у тым ліку наконт праблемы мігрантаў.

Галоўным антаганістам Рыму ў гэтай спрэчцы выступаў Парыж, што было не дзіўна. У персоне Эмануэля Макрона шмат хто бачыў сапраўднага месію, які надасць еўрапейскаму праекту новы імпульс. Макрон сапраўды быў аўтарам шматлікіх ініцыятыў у галіне еўрапейскай інтэграцыі, аднак у выніку ўсё скончылася пшыкам. Паўстанне «жоўтых камізэлек» у Францыі, якое выбухнула ў снежні, татальна падарвала яго аўтарытэт. Зараз Макрону трэба думаць пра тое, як увогуле захаваць прапіску ў Елісейскім палацы.

Пры гэтым ніводнай кандыдатуры на вакансію крызіснага менеджара для еўрапейскай інтэграцыі не праглядаецца. Пазіцыі Ангелы Меркель настолькі саслабелі, што яна пагадзілася пайсці з пасады кіраўніка сваёй партыі. Акрамя Германіі, у новы год у стане палітычнага крызісу ўступаюць Швецыя і Бельгія. На парозе палітычнай турбулентнасці Румынія, Польшча і Іспанія. Не кажучы ўжо пра Вялікабрытанію, дзе ніхто не ведае, чым скончыцца працэс Brexit. Некаторыя касандры нават не выключаюць грамадзянскі канфлікт і сецэсію Шатландыі і Паўночнай Ірландыі. Адным словам, у Еўропе ў наступным годзе будзе спякотна. Шмат што тут вырашаць выбары ў Еўрапарламент увесну.

Не менш феерычная сітуацыя ў краінах трэцяга свету. У Бразіліі да ўлады дарваліся палітыкі, якія настальгуюць па часах дыктатуры. Не бачна развязкі крызісу ў Венесуэле, дзе ўсё часцей кажуць пра вайну з бразільскім правым урадам. Невядома, які вынік будзе на выбарах прэзідэнта ў Конга.

У нашым рэгіёне галоўным ньюсмейкерам заставалася Украіна. Напрыканцы года вялацякучы расійска-ўкраінскі канфлікт абвастрыўся праз інцыдэнт у Азоўскім моры і аўтакефалію праваслаўнай царквы, альтэрнатыўнай мясцовай філіі РПЦ. Гледзячы па ўсім, цяперашняе палітычнае напружанне захаваецца аж да канца года, паколькі краіну чакаюць дзве выбарчыя кампаніі. У сакавіку ўкраінцы абяруць новага гаранта, а ўвосень — новы парламент. На жаль, няма сумневаў, што абедзве кампаніі не абыдуцца без інцыдэнтаў, пра маштаб якіх можна толькі здагадвацца.

Калі вы думаеце, што на гэтым спіс драмаў, што былі ў мінулым годзе, скончыўся, то памыляецеся. Прыкладна з пачатку кастрычніка на старонках прэсы нормай сталі спекуляцыі наконт хуткага рымейку крызісу 2008 года, калі сусветныя рынкі апынуліся ў глыбокім фінансавым крызісе. Агучаныя сцэнары сапраўды пачалі рэалізоўвацца ў снежні, калі дынаміка біржавых індэксаў па шэрагу параметраў наблізіліся да паказчыкаў часоў Вялікай дэпрэсіі. Калі крах сапраўды адбудзецца, то рыкашэтам ён закране і сусветныя кошты на паліва, ад якіх залежаць, напрыклад, эканамічная і палітычная стабільнасць у Расіі. А значыць, — і ў нас.

Будзе глабальны эканамічны калапс або не — пакуль на ўзроўні здагадак. Затое няма сумневаў, што ўжо ў студзені нас чакае вялікае шоў з Вашынгтона. Напярэдадні Новага года Трамп пачаў актыўна тусаваць кадравую калоду, што выклікала крызіс унутры адміністрацыі. Між тым, у студзені пачнецца сесія Палаты прадстаўнікоў, дзе большасць цяпер належыць дэмакратам. Відавочна, што дэпутаты адразу кінуцца рыць пад Трампа, аж да спробы запусціць працэс імпічменту прэзідэнта.

Наступны год абяцае быць вясёлым. Набывайце папкорн!

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Што робяць на Каляды сатаністы?

Гэтым пытаннем зацікавіўся шэраг амерыканскіх медыя. Адказ, як падавалася, павінен быў быць вельмі цікавым. Хіба нараджэнне Хрыста, якое святкуецца на Каляды, не было моцным ударам па князю цемры? Аднак тое, што кажуць амерыканскія сатаністы, выглядае, мякка кажучы, сумна. Аказваецца, большасць з іх нават не супраць адзначыць нараджэнне Хрыста, у якім бачаць не месію, а звычайнага чалавека. Увогуле, кодэкс сатаністаў вымагае быць заўжды вясёлым і аптымістычным, што цалкам пасуе настрою на калядных святах. Праўда, такія інтэрв'ю давалі прэсе прадстаўнікі зарэгістраваных сатанісцкіх груповак, якія, хутчэй, нагадваюць клубы па інтарэсах. Арызонскія сатаністы, напрыклад, рэгулярна ўдзельнічаюць у маніфестацыях супраць расізму. Як ставяцца да Калядаў радыкальныя сатаністы, застаецца невядомым.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Манаполія на Дзеда Мароза

Ва Удмурціі напярэдадні Новага года разгараецца скандал, які, на думку грамадскасці, можа сапсаваць святочны настрой жыхарам аўтаноміі. Улады Шарканскага раёна, дзе знаходзіцца афіцыйная «Сядзіба Тол Бабая» — менавіта так завуць мясцовага Дзеда Мароза, — спрабуюць забараніць іншым выкарыстоўваць імя казачнага персанажа. Свае прэтэнзіі кіраўнікі «Сядзібы Тол Бабая» тлумачаць тым, што яшчэ некалькі гадоў таму атрымалі патэнт на камерцыйнае выкарыстанне гэтага імя. Адначасова ўсім тэатральным калектывам, у афішах якіх фігуруе Тол Бабай, пасылаюць пагрозы аб узбуджэнні іску. Шмат хто сярод удмуртаў незадаволены такой сітуацыяй. На іх думку, Тол Бабай — гэта фальклорны агульнадаступны персанаж. Так ці інакш, закон ёсць закон. Зрэшты, выйсце ўжо прыдумана. Аўтарамі навагодніх сцэнараў аператыўна прыдуманы новы ўдмурцкі Дзед Мароз — Тол Ая.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Каляды будуць без ялінкі?



Магчыма, у хуткім часе шмат звыклых нам атрыбутаў зімовых святаў знікне. Справа ў тым, што Каляды, як высвятляецца, уяўляюць вялікую пагрозу прыродзе. Гэты перыяд з'яўляецца часам вялікай спажывецкай актыўнасці. Як вынік, узнікае запыт на пластыкавую тару і ўвогуле прадметы, для вытворчасці якіх патрэбны пластык. Між тым, пластык зараз прызнаны ледзь не галоўнай крыніцай забруджвання акіяну. Напрыклад, у Вялікабрытаніі 25 працэнтаў прадуктаў, якія ўтрымліваюць пластык, вырабляюцца ў часы калядных канікул. Таму на Захадзе ўжо пачалася барацьба за Каляды без пластыку. Аднак паўстала пытанне — як быць з ялінкай? Доўгі час людзей агітавалі за тое, каб яны не набывалі жывыя ялінкі, надаючы перавагу штучным. Аднак апошнія выпрацоўваюць таксама з пластыка. Прычым, навукоўцы кажуць, што адна пластыкавая ялінка наносіць прыродзе страты, якія можна кампенсаваць прыкладна на працягу 20 гадоў. Калі жывыя і пластыкавыя ялінкі — гэта кепска, то чым упрыгожваць пакой на Каляды? Пакуль што прапануецца не набываць новых штучных ялінак і выкарыстоўваць старыя. Маўляў, пакуль тыя цалкам выйдуць з ужывання, будзе прыдуманы нейкі новы экалагічны варыянт галоўнага каляднага атрыбута.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. Бог і харасмент



Уся заакіянская хрысціянская грамадскасць нейкі час была ў шоку ад выбрыку Эрыка Спранкла, які працуе дацэнтам ва ўніверсітэце штата Мінесота. Эрык Спранкл у сваім Twitter падзяліўся падазрэннем, што ў гісторыі «беззаганнага зачацця» далёка не ўсё чыста. Ён прапанаваў задумацца над пытаннем: а што, калі Марыя не пагадзілася на прапанову Бога-Айца? У такім разе, відавочна, мела месца сексуальнае дамаганне, або харасмент, што цяпер асуджае ўся грамадскасць. Аднак сенсацыі не атрымалася. Аказваецца, у Евангеллі ад Лукі Марыя ясна кажа: «Вось, служка Бога, хай будзе мне паводле слова тваіго» (Евангелле ад Лукі, 01:36). Цытату і прыгадалі Спранклу, адначасова абазваўшы яго невукам. На гэтым скандал і скончыўся.

**Паводле амерыканскай прэсы**



**Час хлопчыкаў-камінараў, бабулек-павітух ды народнай кантрацэпцыі незваротна сышоў у мінулае ды саступіў месца «офісным хваробам» альбо генетычным сіндромам, носьбіты якіх раней бы наўпрост не выжылі...**

# «Забытыя хваробы»: ад пранцаў да халеры



Алесь КІРКЕВІЧ

**Як палова мястэчка за кароткі час магла захварэць на пранцы? Адкуль у нас узялася халера? Адкуль Люіс Кэрал узяў вобраз шалёнага Капялюшніка? Пагаворым пра «забытыя хваробы» — у Беларусі і не толькі.**

Сёння нам цяжка ўявіць стан медыцыны мінулых стагоддзяў, роўна як і стракаты калейдаскоп хваробаў, на якія пакутавалі нашы продкі. Вельмі часта фатальны ўплыў мелі месца жыхарства ды працы, прычым сам чалавек гэтыя фактары мог нават і не ўсведамляць.

### Агонь, вада і свінцовыя трубы

Класічны прыклад — гісторыя са свінцовымі водаправоднымі трубамі, якімі карысталіся ў старажытным Рыме. Велізарны горад без вады не мог абысціся, таму карыстаўся крыніцамі, якія знаходзіліся за шмат кіламетраў ад самога Рыму. Як даставіць ваду ў «Вечны горад»? Праз крытыя акведукі.

Здавалася, усё было прадугледжана: адлегласць і якасць крыніцаў, крытыя акведукі, куды не трапляла дажджавая вада, і гэтак далей. На падыходах да самога гораду тунельчыкі ў акведуках былі абсталяваныя свінцовымі лістамі, сплаўленымі і закручанымі. Але свінец пры кантакце з вадой небяспечны: у малой колькасці гэта канцэраген, у вялікай — атрута...

Традыцыйна лічыцца, што гэты фактар спрычыніўся да ўпадку Вечнага горада: адбіўся на дэмаграфіі ды працаздольнасці жыхароў-карэнных рымлянаў. Мауляў, Рым прайшоў праз агонь, а вось выпрабаванне вадой і «свінцовымі трубамі» не вытрымаў... Зрэшты, зараз ёсць і супрацьлеглая думка: маўляў, трубы непазбежна мусілі зарастаць глеем, таму вада ўсё ж такі не судакраналася са свінцом.

### Шалёны Капялюшнік ды рак яечак у трубачыстаў

Значна менш вядомая гісторыя тычыцца сумнага лёсу вытворцаў капелюшоў у Заходняй Еўропе Новага часу. Памятаеце шалёнага Капялюшніка з «Алісы ў краіне цудаў»? Чаму менавіта Капялюшнік? Чаму шалёны?.. У часы Льюіса Кэрала ў чытачоў «Алісы...» такіх пытанняў не ўзнікала, бо падобныя гісторыі былі нормай: у сваёй працы вытворцы капелюшоў выкарыстоўвалі свінцовыя бялілы, пары ад якіх і прыводзілі да скрушных для мозга наступстваў.

Яшчэ адна прафесійная хвароба тых часоў — рак яечак у камінараў. Памочнікамі тых, хто чысціў коміны, былі дзеці і падлеткі ад 6 да 16 гадоў, якія і выконвалі ўсю брудную працу. Здаровы дзядзька, ясна, у комін не ўлезе, а дзіцё — так. За гады працы альбо ў больш сталым узросце вялізная колькасць хлопцаў памірала ад раку яечак. Спачатку з'явілася наватўтварэнне накшталт бародаўкі, пасля язва, пасля яна прарастала ў сярэдзіну... Далей — пакутлівая смерць.

Што ж адбывалася? Хлопцы лезлі ў коміны, збіралі мех сажы (каб пасля прадаць фарбавальнікам), мыліся добра калі раз на тыдзень, спалі ў гэтых жа счарнелых мяхах... Канцэнтраваная сажа ў кантакце з несфармаваным дзіцячым целам прыводзіла да раку. У 1788 годзе ў Брытаніі нават быў прыняты «больш гуманны» закон: маўляў, нельга браць камінарамі хлопцаў, маладзейшых за 8 гадоў.

### Беларускія «дрэды» — вынік авітамінозу?

У Беларусі цяжка казаць пра прафесійныя хваробы, выкліканыя ўрбанізацыяй: да пэўнага часу львіная доля нашых продкаў жыла ў вёсках, сядзібах ды маёнтках. Тая ж воспа альбо чума збольшага абміналі нашы тэрыторыі. Прынамсі, уцямнай статыстыкі на часы Вялікага Княства па гэтым пытанні няма.

А вось самай экзатычнай ды характэрнай для беларусаў хваробай мінулага можна лічыць... каўтун. Фактычна — гэта масляністы кавалак валасоў, што зліпаліся ды спляталіся ў віхор, накшталт вялікага «дрэду». Здаецца, і зрэзаць можна, але як новыя валасы нарастуць — усё паўторыцца наноў. А лысым увесь час хадзіць было не прынята, асабліва жанчыне.

Каўтун — гэта не толькі прыкмета беднасці ці нізкай гігіены. Падобную з'яву вучоныя фіксавалі яшчэ ў адным рэгіёне — у Паўночнай Італіі, звязваючы гэта са спецыфічным авітамінозам. Нашым продкам наўпрост не хапала нейкіх карысных рэчываў, а сам каўтун увайшоў і ў фальклор, і ў літаратуру. Напрыклад, у сваёй «Чыгунцы» Някрасаў апісваў беларуса з запалымі грудзьмі ды каўтуном.

### Халера: ад Бенгальскага заліву да беларускіх мястэчак

Халера — пандэмія, якая прайшлася па нашым краі ў XIX стагоддзі. Масавае захворванне і барацьба з ім добра фіксуецца ў архіўных дакументах з Мінску ці Гродна, але грунтоўных навуковых працаў па пытанні дагэтуль няма. Што ж такое халера і адкуль яна ўзялася?

Лічыцца, што халера пачала сваё падарожжа па свеце на пачатку XIX стагоддзя як вынік мутацыі халернага вібрыёну. У Сусветным акіяне жывуць рачкі, якія гэты вібрыён утрымліваюць. Праз рачкоў бактэры трапляюць у акіян, але калі чалавека побач няма — дык і не страшна. Але 200 гадоў таму брытанцы пачалі засвойваць мангравыя лясы і балоты Бангладэш (места ўпадзенне ракі Ганг у Бенгальскі заліў), каб наладзіць тут гаспадарку, садзіць рыс і іншыя культуры. А ў выніку сутыкнуліся з халерай, якая за 10 гадоў апанавала ўвесь свет.

Халера спачатку выклікае рэзь у страўніку, пасля страшэнную дыярэю і абязводжванне (за дзень чалавек можа згубіць да 14 літраў вады), пасля чаго ахвяраператвараецца ў сіні ссохлы «жывы труп». Прычынай халеры напачатку лічыліся міязмы, а не вада. Маўляў, нават пахі з прыбіральні могуць пераносіць хваробу... Праз неразуменне прычынаў лекары згубілі шмат часу, а чалавецтва — сваіх прадстаўнікоў.

Беларусь халера закранула вельмі моцна: ад яе вымíралі цэлыя вёскі і гарады. Памяць пра гэта захавалася і ў фальклоры: лічылася, што халера — гэта істота, якая ходзіць па зямлі ды прыносіць бяду і смерць... Не выключана, што да нас халеру занеслі рускія вайскоўцы падчас падаўлення паўстання 1830–1831 гадоў. Ад яе ў Польшчы памёр генерал Дзебіч-Забалканскі і нават вялікі князь Канстанцін Паўлавіч Раманаў, які павінен быў сесці на рускі трон пасля Аляксандра Першага.

Змагаліся з халерай па-рознаму. На ўездах у гарады выстаўлялі каранціны, палілі вогнішчы, каб «абкурваць» людзей і вазы, што кіруюцца ўсярэдзіну. Ахвяраў халеры паілі падсоленай вадой, што кампенсавала абязводжанасць і ў выніку скарачала смяротнасць. Увесь гэты жах цягнуўся ажно да 1880-х гадоў, калі Луі Пастэр даведаў сувязь хваробы з мікробамі і высветліў, як яны распаўсюджваюцца.

### Сіфіліс: французы, казакі, гуляшчыя ўдовы...

А што наконт венерычных хваробаў? Паводле адных вучоных, той жа сіфіліс фіксуецца ўжо ў Старажытным Егіпце ды Грэцыі. Паводле іншых — яго прывезлі спадарожнікі Калумба з Амерыкі. Маўляў, узяўшы сіфіліс, еўрапейцы «падарылі» індзейцам воспу — гэтак жа, як, узяўшы тытунь, «падарылі» алкаголь.

Да XIX стагоддзя сіфіліс у Беларусі фіксуецца хіба сярод шляхты і магнатаў, якія падарожнічалі па Еўропе. Ёсць версія, што менавіта сіфіліс спрычыніўся да згасання слуцкага роду Алелькавічаў. Толькі на пачатку XIX стагоддзя, пасля вайны 1812 года, хвароба стала масавай. У народзе сіфіліс называлі «пранцы»: ад «французаў» («ф» у мове часцяком замянялася на «п» ці «хв»).

Далей сіфіліс стаўся фактычна прафесійным спадарожнікам вайскоўцаў ды лакацыяў, дзе стаялі гарнізоны. Стандартная схема, якая неаднойчы фіксуецца ў крыніцах XIX стагоддзя, выглядала так: у нейкім мястэчку на пастой спыняюцца расійскія казакі. П'юць гарэлку, знаходзяць нейкую ўдаву ці гуляшчую дзеўку, балююць. Далей з тымі ж жанчынамі кантактуюць не менш гуляшчыя мясцовыя мужыкі, якія ідуць пасля ўжо да сваіх жонак... Вынік: палова мястэчка хворая на сіфіліс.

### Прыняць роды і не забіць парадзіху

Яшчэ адной распаўсюджанай хваробай XIX стагоддзя ў нас была радзільная гарачка. У гэты час акурат пачалі «прафесійна» прымаць роды: не з бабкай-павітухай у хаце, але стацыянарна. Ідэя была ў тым, каб выправіць сітуацыю са смяротнасцю падчас родаў. Але ў лякарні за родамі часцяком далей ішло заражэнне крыві ды прадказальны вынік: смерць.

Усё гэта было праблемай буйных губернскіх гарадоў. Але чаму? Радзільныя аддзяленні, як правіла, знаходзіліся пры гарадскіх шпіталях, а роды прымалі звычайныя лекары. То бок медык, які толькі што, напрыклад, абмываў гнойныя раны, пасля ішоў прымаць роды і заражаў жанчыну... Небяспеку такога суседства зразумелі толькі напрыканцы XIX стагоддзя.

Распаўсюджаны ў нашых мясцінах быў і тыф. На яго хварэлі як сяляне, так і шляхта (выпадкі фіксуюцца ў дзённіках і перапісцы). Свайго апагею хвароба дасягнула ў часы Грамадзянскай вайны ды адразу пасля яе: антысанітарыя, вошы, масы жаўнераў і бежанцаў, якія перасоўваюцца з места на места, перавозячы з сабой вірус ды ствараючы новыя і новыя яго ачагі.

### Клімат, ад якога Багдановіч збег у Ялту

Сухоты, якія забілі таго ж Максіма Багдановіча ў 26 гадоў, таксама можна залічыць да забытых хваробаў. Сітуацыя з сухотамі нагадвае аналагічную з малярыяй: па ўсім свеце імі хварэюць мільёны людзей, але масавыя лятальныя выпадкі характэрныя для бедных краінаў. У нас «папулярнасць» сухотаў была абумоўленая яшчэ і спецыфікай клімату: сырасць і доўгая зіма. Менавіта ад гэтага клімату Багдановіч і збег лячыцца ў Ялту, але было позна...

Сёння палачку Коха, якая правакуе сухоты, надалей носіць у сабе безліч людзей. Разам з тым змяніліся харчаванне, умовы працы, дый жывем мы ў цяплейшых дамах. Так і з іншымі «забытымі хваробамі»: медыцына зрабіла рывок наперад, таму яны падаюцца нам гісторыяй. Час хлопчыкаў-камінараў, бабулек-павітух ды народнай кантрацэпцыі незваротна сышоў у мінулае ды саступіў месца «офісным хваробам» альбо генетычным сіндромам, носьбіты якіх раней бы наўпрост не выжылі.

# Кіно 2018:

## Атака жанчын, бунт у тамбуры і канец парыжскага сексу

Андрэй РАСІНСКІ

**Беларускія рэжысёркі атакавалі міжнародныя кінапляцоўкі, фестываль «Лістапад» адбыўся з вялікім скандалам, а аўтар «Апошняга танга ў Парыжы» адышоў у вечнасць.**



«Крышталь»

2018 год для беларускага кіно стаў адметным. Цяпер ужо можна гаварыць пра новую хвалю беларускага кіно, і на чале гэтай хвалі — жанчыны.

Дар'я Жук прадставіла публіцы і Оскараўскаму камітэту сваю карціну «Крышталь». Рэтрастужка пра дзяўчыну, якая марыць з'ехаць у Амерыку — і трапляе ў беларускую глыбінку, прыцягнула гледачоў у кінатэатры дый выклікала спрэчкі.

На тле гэтай карціны, знятай міжнароднай групай, не згубілася ў пракаце сціплая стужка Юлі Шатун, пераможцы леташняга «Лістападу». Яе фільм «Заўтра», зняты за уласныя грошы і з бацькамі ў галоўных ролях, дасюль збірае ўзнагароды на фестывалях. Міністр культуры Беларусі карціну абурыўся, але гэта не перашкодзіла «Заўтра» знайсці новых прыхільнікаў сярод сінефілаў.

Настасся Мірашнічэнка зняла дакументальную стужку «Дэбют» пра аматарскі тэатр у жаночай калоніі. Зняволеныя жанчыны рыхтуюцца да прэм'еры свайго спектакля, на які прыедуць іх сваякі. На дакументальным конкурсе Кракаўскага кінафэсту фільм заслужыў асобнай згадкі журы. Пад канец года стужку пабачылі беларускія гледачы. Гэта не першая карціна Мірашнічэнкі. Яе папярэдняя стужка «Скрыжаванне» — пра бяздомнага мастака — расчуліла гледачоў на Варшаўскім кінафэсце.

З Варшавы на сёлетні «Лістапад» прыехала Мара Тамковіч, каб прадставіць кароткаметражную карціну «Дачка». Фільм, які атрымаў узнагароду ў Нацыянальным кінаконкурсе, зняты за грошы Польскага кінаінстытута, з польскімі акцёрамі і на польскае мове, але гісторыя, расказаная ў карціне, перагукаецца не толькі са спрэчкамі, што точацца ў Польшчы, але і з тэмай жаночай годнасці, узнятай у фільме «Крышталь».

Калі бацька-ўдавец прыходзіць дадому павіншаваць дачку з днём нараджэння, то знаходзіць яе, акрываўленую і непрытомную, у лазенцы. Колькі месяцаў таму дачка была згвалтаваная на школьнай вечарыне — і цяпер носіць пад сэрцам дзіця.

Бацька звяртаецца да паліцыі, спрабуе знайсці і пакараць вінаватых, але яго не жадаюць і слухаць. Паліцыя адмаўляецца весці справу, а педагогаў цікавіць толькі, чаму дзяўчынка не ходзіць у школу (тыпажы такіх сацыяльных работніц ва ўсіх краінах аднолькавыя). Разгубленыя бацька і дачка застаюцца сам-насам са сваімі праблемамі.

Дарэчы, у журы Нацыянальнага конкурсу ўвайшла рэжысёрка Дар'я Юркевіч, якая кінамастацтву таксама вучылася за мяжой, а менавіта — у Францыі. Яе ігравая стужка «Баба, Ваня і каза», што выглядае як дакументальная замалёўка з вясковага жыцця, паспяхова паўдзельнічала ў міжнародных фэстах, роўна, як і чорна-белая вытан-

**У знак пратэсту супраць цэнзуры рэжысёрка Ева-Кацярына Махава зняла з конкурсу свой дакументальны фільм. Да Кацярыны Махавай далучыліся Кірыл Галіцкі і Святлана Казлоўская, якія адазвалі з фестывалю сваю ігравую стужку**

чаная «Пасха». Цяпер Юркевіч здымае на «Беларусьфільме» дакументальную гісторыю пра падлеткаў, якія жывуць каля Чарнобыльскай зоны.

Але беларускае кінажыццё кіпіць, у асноўным, па-за межамі кінастудыі, дый па-за межамі самой краіны. 29-гадовы Аляксей Палуян, навучэнец нямецкай кінашколы, прадстаўляе на фестывалі кароткаметражных фільмаў у Клермон-Феране (дзе ўжо пабывала «Баба, Ваня і каза») сваю стужку «Возера радасці» паводле аднайменнай кнігі Віктара Марціновіча. Фестываль у Клермон-Феране — найпрэстыжнейшы агляд кароткага метру.

А выхаванец «Белсату» Андрэй Куціла перамог у найгалоўнейшым кінафэсце дакументальнага кіно IDFA. Героі яго стужкі «Summa» — 90-гадовы польскі мастак Анджэй Струміла і яго беларуская сяброўка мастачка Марыя. Адначасова яго карціна «Стрыптыз і вайна» — фільм пра ўнука-стрыптызёра і дзеда-ветэрана — быў адхілены ад конкурсу на сёлетнім «Лістападзе» з цэнзурных меркаванняў.

Скандал вакол «Лістападу» — яшчэ адна сёлетняя кінападзея. Фільмы на конкурс заўжды адбірала фестывальная камісія, але цяпер у Нацыянальны конкурс былі ўнесеныя істотныя змены. Права дапускаць ці не дапускаць фільмы на конкурс атрымалі чыноўнікі на чале з намесніцай міністра культуры Ірынай Дрыга.

Такая змена правілаў выклікала гучнае абурэнне кінематаграфістаў.

У знак пратэсту супраць цэнзуры рэжысёрка Ева-Кацярына Махава зняла з конкурсу свой дакументальны фільм «Перазімавацьь». Стужка расказвае пра вясковых старых, якія пражываюць зімовыя вечары ў інтэрнаце — і становіцца партрэтам усёй Беларусі, якая спынілася ў часе і ніяк не дачакаецца канца халадоў.

Да Кацярыны Махавай далучыліся Кірыл Галіцкі і Святлана Казлоўская, якія адазвалі з фестывалю сваю ігравую стужку «Пляж/Лес/Тамбур». Акрамя таго, яны распачалі серыю гутарак з кінематаграфістамі, каб тыя расказалі пра праблемы і будучыню беларускага кіно. Пасля доўгіх гадоў маўчання, беларускія кінамастакі пачалі гаварыць і аб'ядноўвацца.

Гільдыя беларускіх кінапрадусараў напісала скаргу сваім калегам, а журы фестывалю са сцэны выказаліся супраць цэнзурнага ўмяшальніцтва ў кінапрацэс. Неўзабаве намесніца міністра Ірына Дрыга была звятая са свайго пасады, што выклікала непрыхаваную радасць сярод беларускіх мастакоў.

Беларускі кінапрацэс стаў заўважным. Варта адзначыць яшчэ адну падзею, якая засталася ў нас недаацэненай. Беларускія экраны пабачыла стужка Сяргея Талыбава «Унутры сябе». Гэтую карціну крытыкавалі як легкадумную, камерцыйную і другасную. Але нават спроба зрабіць чысты жанравы фільм, беларускі трымценнік, а калі дакладней, беларускі «крывава-жоўты фільм», падобны на італьянскія стужкі, — заслугоўвае ўсялякага ўхвалення. У акне дома ў Ракаўскім прадмесці з'яўляецца забойца ў плашчы і пальчатках, герой сумняваецца ў доказах і губляе прытомнасць, нож тырчыць у сэрцы, а сямейныя таямніцы багатыя на псіхозы, падмены і кашмары.

Што яшчэ важней — стужка зробленая па-за межамі груваскай кінастудыі, а пракату — як у краіне, так і за мяжой — карціна дамагалася самастойна, без усялякіх датацый і прэферэнцый.




Сумная навіна прыйшла 26 лістапада 2018 года. Пакінуў свет італьянскі кінарэжысёр Бернарда Берталучы. Яго «Канфарміст», «Дваццатае стагоддзе», «Апошні імператар», «Апошняе танга ў Парыжы» засталіся абсалютнай класікай кіно.

Карціна «Апошняе танга ў Парыжы» ўвогуле, выклікала шок у савецкіх ахоўнікаў маралі. Яны не маглі дараваць, як герой Марлона Брандо выкарыстоўвае масла ў любоўных гульнях. «У нас, у Савецкім Саюзе, масла ядуць!» — крычалі яны, не ўдакладняючы, што масла ядуць не заўжды і не ўсе. Рэдкі на экране шэдэўр з экзістэнцыйнай трагедыяй, зняты з неверагоднай жарсцю, адчыніў шлюзы эратычнага кіно і легалізаваў сексуальную рэвалюцыю.

Берталучы, як чалавека з левымі поглядамі, у Савецкім Саюзе прывячалі. Аднойчы, калі Берталучы паказваў у Маскве сваё «Дваццатае стагоддзе» дый кляйміў буржуазію за выразанне з фільму чырвоных сцягоў, ён даведаўся, што ў СССР пракатвалі ягоную антыфашысцкую стужку «Канфарміст». Рэжысёр захацеў пагядзець яе. Чыноўнікі супраціўляліся: разумееце, у СССР няма лесбіянства. І гомасексуальнасці. Мы гэта выразалі. І крыху перамантажавалі, каб гледачы ўсё зразумелі. Нарэшце, шыкоўная каляровая стужка — у СССР сталася чорна-белай.

Рэжысёр Андрэй Кудзіненка дапускае, што адна беларуская чорна-белая стужка магла паўплываць на Берталучы, калі той здымаў «Стратэгію павука», дый нават справакаваць парыжскія бунты 1968 года. Гутарка ідзе пра фільм Валянціна Віняградава «Усходні калідор». Гэтая стужка, аблаяная ў Савецкім Саюзе, магла быць паказаная ў парыжскай сінематэцы і выклікаць нечаканыя наступствы.

Але, як бы там ні было, час колішніх студэнцкіх і сексуальных бунтаў цяпер сышоў. Жанчыны і маладыя рэжысёры, якія прыходзяць у прафесію, глядзяць на свет інакш. Секс хутчэй небяспечны, прастора хутчэй халодная, жарсці крышталёвыя і заціснутыя. Беларускае кіно, перазімаваўшы, ціха прыходзіць у сябе.

# «З Новым годам, Радзіма мая!»

**Па гарызанталі:** «Каб нажалі сто коп жыта,// Каб ... была ўся сыта.// Каб скацінка вадзілася,// Каб пшанічка радзілася». Пажаданне калядоўшчыкаў гаспадару хаты. 5. Узвышаная частка хрысціянскага храма. 8. «З Новым годам, браты ... !// З Новым годам, Радзіма мая!». З верша Алеся Салаўя «З Новым годам!». 10. Каштоўны камень. 11. «Ледзьве холад на парог,// Мішка шусь у свой ...» 12. Вузенькая палоска. 15. Удзельнік якой-небудзь гульні. 16. У снежні ... і снег вышэй хаты — год будзе багаты (народная прыкмета). 19. «Мой бел-чырвона-белы сцяг,// Зямлі маёй ... і слава». З верша Алеся Салаўя «Трыялет». 21. «..., ..., на зямлі святы вечар,// Нарадзіўся ў яслях Збавіцель і Бог». З верша Ларысы Геніюш «Святы вечар». 23. Ласкавы зварот да каго-небудзь (састарэлае, размоўнае). 24. «Будзе Дзед Мароз з Снягуркай//... раздаваць». З верша Галіны Дземідовіч «Новы год». 26. «Мой снежань, мой ...,// Ідзе па замерзлай рацэ». З верша Уладзіміра Някляева «Увесь, нібы пекар». 27. Сухі снежань — сухая вясна, сухое ... (народная прыкмета).

**Па вертыкалі:** 1. «Дык даставай схаваныя// І ... каваныя,// І лыжы, і канькі». З верша Ніла Гілевіча «Зіма». 2. Буйная жывёліна з доўгай поўсцю. 3. Галінка хвойнага дрэва. 4. «Поле нікне ў снежным тумане,//... блішчыць, як халодная сталь». З верша Максіма Багдановіча «Зімовая дарога». 6. Месяц, з якога, паводле ўсходнеазіяцкага календара, пачынаецца год Свінні (Кабана). У год Свінні нарадзіліся пісьменнікі Васіль Зуёнак, Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Міхась Лынькоў, Канстанцыя Буйло, Эрнэст Хэмінгуэй, Джэк Лондан; кампазітары Вольфганг Амадэй Моцарт, Мадэст Мусаргскі. 7. «Лес, шлях, ..., што сціхаюць,// Абвяжыце парчой снегавой». З верша Наталлі Арсенневай «Сняжынкі». 9. «... мяце, ... .// Белы снег,// Белы цень.// Белы дзень». З верша Генадзя Бураўкіна «Снежная імпрэсія», пакладзенага Эдуардам Ханком на музыку. 12. Шырыня дзейнасці (пераноснае). 13. Імкненне зрабіць што-небудзь добра. 14. Зімовы ... . Прысвятак, які адзначалі 19 снежня. 17. «З Новым годам, што крыніцай// Новай пойдзе ў пераходзе,// Беларуская ...! Беларускі мой народзе!». З верша Янкі Купалы «З Новым годам!». 18. Моцны парыў ветру. 20. Вада, падсалоджаная мёдам; падавалася на стол разам з куццёй перад Новым годам. 21. Што ..., то абычай (прыказка). 22. Брат можа не быць другам, але ... — заўсёды брат (прыказка). 25. Асадак на дне вадаёмаў.




**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Літва! Мая айчына!» (Прысвячаецца 220-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча) (НЧ №47 ад 21 снежня):**

**Па гарызанталі:** 1. Край. 4. Санд. 6. Верашчака. 9. Нізка. 10. Мешка. 11. Гранд. 14. Айчына. 15. Магнат. 18. Неба. 19. Кіно. 20. Ода. 21. Занос. 23. Дуб. 24. Прасінець. 25. Муры. 26. Зіма.

**Па вертыкалі:** 1. Крыніца. 2. Крым. 3. Рака. 5. «Дзяды». 7. Дзеўчына. 8. Валенрод. 12. Хмара. 13. Замак. 16. Трыбуна. 17. Розум. 21. Знак. 22. Снег.

## На часопіс «Наша гісторыя» зараз можна падпісацца

Выданне такога фармату, як «Наша гісторыя», па-беларуску раней не было — 100 старонак тэкстаў з каляровымі ілюстрацыямі. Адны ахнулі, другія ўсцешыліся: гэта такі прарыў, настолькі цікавая тэматыка!

У першых нумарах апублікаваныя біяграфіі Васіля Быкава і Івана Шамякіна, раней не вядомыя факты пра гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і СССР. У часопісе таксама публікуюцца матэрыялы з гісторыі шпіянажу, бізнесу, мастацтва. Ёсць коміксы і дзіцячая старонка.

Каб вы зразумелі, пра што пішуць у «Нашай гісторыі», вось некаторыя загалоўкі артыкулаў снежаньскага нумара:

- «Легенда пра святога Пятра Міронавіча. Успаміны пра кіраўніка БССР»
- «10 з 20 кіраўнікоў БССР былі расстраляныя або скончылі самагубствам, яшчэ двое загінулі ў аварыях»
- «Ад Аляксандры Чарвяковай да Паліны Машэравай. Сем'і кіраўнікоў БССР»
- «Іван Хруцкі: драма за салодкімі нацюрмортамі. Як імперыя ламала аднаго з самых пазнавальных беларускіх мастакоў»
- «Справа Разанава: як у 1968-м трое мінскіх студэнтаў кінулі выклік сістэме»
- «Ці існавала завяшчанне Сталіна?»

У наступным годзе часопіс будзе выходзіць штомесяц.

«Якаснае, прыгожае выданне», — кажуць яго чытачы.




«Напэўна, менавіта зараз нам так трэба ведаць сваю гісторыю, каб не страціць сябе…Дзякуй аўтарам за добрую і неабходную працу!» — напісаў Макс Астроўскі з Мінска.

«Дзякуем за выдатную ідэю і яе бліскучую рэалізацыю», — піша Уладзіслаў Ермаловіч. А кандыдат філалагічных навук Анатоль Івашчанка адзначыў: «Наша гісторыя» вярнула радасць друкаванага слова.

На 2019 год часопіс можна выпісаць. Падпісны індэкс — 00469. Варта адзначыць, што па падпісцы цана будзе ніжэйшая, чым у кіёсках і кнігарнях. Афарміць падпіску можна не толькі на пошце, але і праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце www.belpost.by і праз плацёжна-даведачныя тэрміналы, а таксама дома, запрасіўшы паштальёна.

**«Наша гісторыя»**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1364

Падпісана да друку 28.12.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.